# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

## ТВОРЫ



# БІВЛИЯ РУСКЯ

ВЫЛОЖЕНЯ ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КОЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
КДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ :~



АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

## ТВОРЫ

Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1990

ББК 83.3 Бел
С 42

Представляет собой наиболее полное издание произведений Ф. Скорины. В него включены все известные предисловия и послесловия первопечатника к его книгам, образцы книжной поэзии, акафисты с акростихами Ф. Скорины, а также недавно обнаруженный текст пасхалии с календарем, помещенный в «Малой подорожной книжке» (1522). Дается обширный научно-популярный комментарий.

Рассчитана на славистов, обществоведов и всех интересующихся творческим наследием Ф. Скорины.

Уступны артыкул, падрыхтоўка тэкстаў,
каментарыі, слоўнік А. Ф. Коршунава,
паказальнікі А. Ф. Коршунава, В. А. Чамярыцкага

Рэдактар
канд. філал. навук В. А. Чамярыцкі

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук М. М. Арочка,
д-р гіст. навук Я. Л. Неміроўскі,
канд. філал. навук Л. Л. Кароткая

**Скарына Ф.**

С 42 Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Уступ. арт., падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А. Ф. Коршунава, паказальнікі А. Ф. Коршунава, В. А. Чамярыцкага.— Мн.: Навука і тэхніка, 1990.— 207 с.: іл.
ISBN 5-343-00151-3.

Скорина Ф. Сочинения: Предисловия, сказания, послесловия, акафисты, пасхалия.

Уяўляе сабой найбольш поўнае выданне твораў Ф. Скарыны. У яго ўключаны ўсе вядомыя прадмовы і пасляслоўі першадрукара да яго кніг, узоры кніжнай паэзіі, акафісты з акравершамі Ф. Скарыны, а таксама нядаўна знойдзены тэкст пасхаліі з календаром, змешчаны ў «Малой падарожнай кніжцы» (1522). Падаецца шырокі навукова-папулярны каментарый.

Разлічана на славістаў, грамадазнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца творчай спадчынай Ф. Скарыны.

4603020102—004
С ———————— 140—89
М 316(03)—90

ББК 83.3 Бел

ISBN 5-343-00151-3

© Выдавецтва
«Навука і тэхніка», 1990

Данийлу седмщему сольвы принесе Явбакум обе



Книги светого пророка божия Да
нийла починаютьсѧ. Зуполне
выложены на руский язык
доктором франциском скориною
из славнаго града полоцька. напредъ
богу кочти, и людем, посполитым к науце :~



Імя Францыска Скарыны, выдатнага дзеяча беларускай культуры XVI ст., добра вядома не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Яно стаіць у радзе славутых гістарычных імён сусветнага значэння і з'яўляецца нацыянальнай гордасцю беларускага народа. Чалавек шматграннага таленту, вучоны-энцыклапедыст і гуманіст-асветнік, высокаадукаваны доктар свабодных навук і медыцыны, ён пакінуў яркі след у гісторыі нацыянальнай культуры ўсходнеславянскіх народаў, упершыню далучыў іх да кнігадрукавання.

Руплівы і дбайны працаўнік на ніве роднай культуры, Францыск Скарына паказаў сябе сапраўдным наватарам усходнеславянскай кнігі, стаў заснавальнікам новага гуманістычнага падыходу да Бібліі, якую адрасаваў «людзям простым, паспалітым». Ён быў таксама выдатным філолагам і перакладчыкам, літаратарам-публіцыстам, пачынальнікам новых, малавядомых яшчэ на землях усходніх славян з'яў і відаў літаратурнай творчасці.

Скарына пакінуў для нашчадкаў значную і важкую спадчыну, якая ўключае ў сябе 22 прадмовы і 25 сказанняў да выдадзеных ім на працягу 1517—1525 гг. кніг Бібліі, тры вершы, два гімны, пасхалію з «Малой падарожнай кніжкі» 1522 г. і больш за 60 пасляслоўяў да асобных яго выданняў. Гэта спадчына — цікавая і яркая старонка ў гісторыі беларускай культуры XVI ст. У арыгінальных творах Францыск Скарына выявіў свае грамадска-палітычныя, філасофскія, прававыя, этычныя, эстэтычныя і асветніцкія погляды пісьменніка-гуманіста і патрыёта, якія ён прапагандаваў і нёс у народныя масы. Яго спадчына каштоўна яшчэ і тым, што дапамагае ўявіць жывы вобраз гэтага выключнага дзеяча беларускай культуры, які з пачуццём высокай асабістай годнасці і гонару нязменна адзначаў, што кожная выпушчаная ім у свет кніга «совершена ест повелением, працею и выкладом ученого мужа в лекарских науках доктора Франциска, Скоринина сына из славного града Полоцка».

Варта падкрэсліць, што рашаючым зыходным момантам, які прадвызначыў далейшы жыццёвы шлях юнака Францыска Скарыны, а потым і вывеў яго на арэну сусветнай вядомасці, з'явіўся яго прыезд у самым пачатку XVI ст. на вучобу ў Кракаўскі універсітэт. Тут у сталічным польскім горадзе, цэнтры польскай культуры, Скарына не толькі атрымаў вышэйшую адукацыю, але і пазнаёміўся з еўрапейскай друкаванай кнігай і тут,

відаць, у яго зарадзілася і пачало выспяваць імкненне прысвяціць сябе высакароднай справе распаўсюджання такой кнігі сярод суайчыннікаў. Але каб ажыццявіць сваю запаветную мару, яму спатрэбілася яшчэ дзесяць падрыхтоўчых гадоў, пакуль ён прыступіў у чэшскай Празе да выдання Бібліі.

У Празе, сталіцы Чэшскага каралеўства, якая, відаць, невыпадкова прывабіла да сябе Францыска Скарыну, ён апынуўся дзесьці ў 1516 г. Тут, карыстаючыся геаграфічнай блізкасцю да Вялікага княства Літоўскага і да такіх вядомых цэнтраў еўрапейскага кнігадруку, як Нюрнберг, Аўгсбург і Венецыя, а таксама маральнай і матэрыяльнай падтрымкай суайчыннікаў, яму ўдалося ў адной з мясцовых друкарань наладзіць выпуск першых усходнеславянскіх друкаваных кніг.

Наколькі плённым быў пражскі перыяд дзейнасці Скарыны, пераканаўча сведчыць той факт, што за два з палавінай гады ён выпусціў 23 кнігі амаль у 2400 старонак. У парадку храналагічнай паслядоўнасці выхаду гэта былі наступныя кнігі: 6 жніўня 1517 г. Псалтыр (284 с.), 10 верасня «Іоў» (102 с.), 6 кастрычніка «Прытчы прамудрага Саламона» (96 с.), 5 снежня «Ісус Сірахаў» (162 с.), 2 студзеня 1518 г. «Эклезіяст» (36 с.), 9 студзеня «Песня песняў» (24 с.), 19 студзеня «Прамудрасць божая» (64 с.), 10 жніўня чатыры кнігі «Царстваў» (484 с.), у апошніх Скарына захаваў агульную пагінацыю, нягледзячы на тое што кожная з гэтых чатырох кніг Бібліі мае асобны тытульны ліст. Апошнім выданнем 1518 г. была надрукаваная 20 снежня кніга «Ісус Навін» (96 с.).

Найбольш плённым як па колькасці выданняў, так і па колькасці друкаваных старонак быў 1519 г., калі Скарына выдаў у Празе 11 кніг Бібліі, агульным памерам у 1052 старонкі. У ліку выданняў гэтага года толькі кніга «Юдзіф» (52 с.) мае дакладную дату выхаду з друку 9 лютага 1519 г. ды кніга «Суддзі» (96 с.) пазначана 15 снежнем. Астатнія 9 выпускаў 1519 года былі: «Быццё» (192 с.), «Другі закон» (132 с.), «Данііл-прарок» (80 с.), «Эсфір» (52 с.), «Руф» (16 с.) і «Плач Ераміі» (24 с.). Кнігі ж «Выхад» (152 с.), «Левіт» (108 с.) і «Лічбы» (148 с.) выйшлі з друку без указання чысла і года іх выдання.

Выдаючы паасобнымі выпускамі кнігі Старога запавету, Францыск Скарына аздабляў іх тытульнымі лістамі, упрыгожанымі тэматычнымі ілюстрацыйнымі гравюрамі, перад тэкстам змяшчаў мастацкія застаўкі, дзе-нідзе віньеткі, а сам тэкст кнігі суправаджаў загалоўнымі літарамі-ініцыяламі, якімі пачынаўся кожны новы раздзел або параграф біблейскага твора. Разам з тым кожны з выпускаў названых кніг Бібліі мае прадмову або сказанне Скарыны і даволі трафарэтнае сціслае пасляслоўе, у якім называецца імя перакладчыка-выдаўца, а таксама змяшчаецца важная інфармацыя пра месца і час выхаду той ці іншай кнігі.

Паколькі асвятленне гэтага цікавага як па характару, так і

па зместу пытання мастацкай культуры выданняў Францыска Скарыны ўжо грунтоўна разгледжана ў навукова-даследчых працах[1], нам у дадзеным выпадку няма неабходнасці падрабязна спыняцца на аналізе гэтага аспекту яго культурна-выдавецкай дзейнасці. Зазначым толькі, што Скарына быў адным з першых высокаадукаваных і таленавітых кнігавыдаўцоў, хто пазнаёміў славян з высокай тэхнікай друкарскага станка. Яго выданні мелі вялікае значэнне для далейшага разгортвання і ўдасканальвання друкарскай справы не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, на Украіне, у Літве і іншых краінах.

Пражскі перыяд кнігавыдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны быў надзвычай напружаным і плённым. За якіх-небудзь 30 месяцаў сваёй працы ён здолеў падрыхтаваць і «оттиснути» 23 кнігі Бібліі, што было сапраўдным подзвігам першадрукара. Аднак ёсць падставы сцвярджаць, што названая лічба выдадзеных ім у Празе кніг даволі прыблізная, не канчатковая. Як сведчыць тэкст яго прадмовы да ўсёй Бібліі, Скарына звяртаў увагу чытача і на такія важныя і карысныя творы старазапаветнага зводу Бібліі, як 2 кнігі «Параліпаменона», 2 кнігі «Ездры», 2 кнігі «Макавеяў», кнігі «Неямія», «Товіт» і некаторыя іншыя, якія ён падрыхтаваў, а магчыма, і выдаў, але яны не дайшлі да нашых дзён. Асаблівую ўвагу ён звяртаў на кніжку «Товіт» і высока цаніў яе за тое, што яна «науку отцем, яко имають учити сыны своя, кажеть». Інакш навошта яму было б адсылаць свайго чытача да тых кніг Бібліі Старога запавету, якіх ён сам не выдаў ці не збіраўся выдаць. У прадмове ж да кнігі «Плач Ераміі» Скарына прама сцвярджаў, што ён не толькі падрыхтаваў, але і выдаў кнігу «Прароцтваў Ераміі»: «Сей божий пророк был ест родом с местечка именем Анафотита, еже ест недалеко от Ерусалима, от племени жреческага. О том ширей написал есми во предословии своем на книги пророчества его». Аднак кніга «Прароцтвы Ераміі» да нашага часу ў выданнях Скарыны нідзе не захавалася.

Напэўна, дзесьці ў пачатку 1520 г. Скарына па невядомых нам прычынах пакідае Прагу і перасяляецца ў Вільню. Тут у сталічным горадзе Вялікага княства Літоўскага, які быў тады цэнтрам палітычнага і культурнага жыцця літоўскага і беларускага народаў, ён прадоўжыў сваю кнігавыдавецкую культурна-асветніцкую дзейнасць. У доме мясцовага бургамістра Якуба Бабіча ён арганізаваў першую айчынную ўсходнеславянскую друкарню і ў другой палавіне 1522 г. выдаў першую на тэрыторыі сучаснага Савецкага Саюза друкаваную «Малую падарожную кніжку», якая ўключала ў сябе Псалтыр, «Часа-

[1] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888; Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны // Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). Мн., 1926. С. 180—227; Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984.

словец», акафісты, каноны, «Шасцідневец», «Святцы кароткія» і «Пасхалію». Усе гэтыя часткі ён таксама друкаваў паасобнымі выпускамі ў 12-ю долю друкарскага аркуша, з незалежнай пагінацыяй, а ў некаторых выпадках і са сваімі тытульнымі лістамі. Так, у прыватнасці, кожны з 8-мі пададзеных ім акафістаў мае свой тытульны ліст, якіх няма ў канонах. Пагінацыя ў акафістах падаецца ў ніжніх правых вуглах, а ў канонах яна размешчана ў верхніх правых вуглах. Вось чаму, прымаючы пад увагу гэтыя і некаторыя іншыя акалічнасці, меў, на нашу думку, рацыю Я. Л. Неміроўскі, калі пісаў, што было б больш правільным лічыць часткі «Малой падарожнай кніжкі» асобнымі выданнямі, як і выпускі кніг Бібліі, выпушчаный Скарынам у Празе ў 1517—1519 гг.»[2] А такіх незалежных частак у «Малой падарожнай кніжцы» налічваецца 21.

Віленскі перыяд кнігавыдавецкай дзейнасці першадрукара быў таксама надзвычай кароткім. Ён завяршыўся выданнем у сакавіку 1525 г. другой кнігі, якая складалася з чатырох самастойных частак: «Дзяянняў апостальскіх», 7 саборных апостальскіх пасланняў (тры з іх прыпісваюцца Пятру, тры — Іаану і адно — Іудзе), 14 пасланняў апостала Паўла, а таксама «Саборніка», аб'яднаных агульным загалоўкам «Деания и посълания апостольская» і выдадзеных фарматам у 8-ю долю аркуша. Агульная колькасць выйшаўшых у Вільні двух зборнікаў склала больш за 1600 старонак.

У параўнанні з пражскімі выданнямі кніг Бібліі віленскія кніжкі Францыска Скарыны хоць і вылучаюцца высокім паліграфічным узроўнем, багаццем віньетак і нават шырокім выкарыстаннем чырвонай фарбы, аднак значна бяднейшыя ў мастацкім аздабленні тытульных лістоў, выкарыстанні гравюрных заставак і тытульных тэматычных ілюстрацый. За выключэннем Псалтыра 1522 г. і Апостала 1525 г., Скарына больш не пісаў прадмоў да ўсіх іншых выпускаў віленскіх выданняў, а забяспечваў іх т. зв. сказаннямі, якія насілі пераважна апісальны характар і, па сутнасці, уяўлялі сабою сціслыя анатацыі да таго або іншага твора.

Выхадам Апостала спынілася ў 1525 г. кнігавыдавецкая дзейнасць Францыска Скарыны, хоць спадзяванні на аднаўленне яе не пакідалі яго яшчэ пэўны час, пра што сведчаць некаторыя факты яго біяграфіі. Нам невядома, якімі меркаваннямі кіраваўся першадрукар, калі ў хуткім часе ў тым жа 1525 г. ён ажыццявіў сваю паездку ў Вітэнберг, які ў тыя часы з'яўляўся цэнтрам нямецкай Рэфармацыі, і сустракаўся з Марцінам Лютэрам і яго аднадумцам і спадарожнікам Меланхтонам. Але пэўна гутарка з асновапаложнікам нямецкага пратэстантызму

---

[2] Немировский Е. Л. Славянские инкунабулы и палеотипы кирилловского шрифта в книгохранилищах Советского Союза // Сов. славяноведение. № 1. 1968. С. 19.

ў чымсьці не задаволіла Скарыну і яны не знайшлі агульнай мовы.

Пасля сустрэчы з Марцінам Лютэрам, як сведчыць афіцыйнае паведамленне польскага караля Жыгімонта II Аўгуста ад 1552 г., напэўна, па ініцыятыве Скарыны і не без садзейнічання і падтрымкі яго прыхільнікаў і аднадумцаў была зроблена спроба ўвайсці ў кантакт з вялікім князем маскоўскім Васілём Іванавічам з мэтай арганізаваць і наладзіць у Маскве выданне неабходных кніг для брацкага рускага народа. Але спроба гэта пацярпела крах, бо прывезеныя ў Маскву друкаваныя Скарынавы кнігі Бібліі былі «па загаду маскоўскага князя публічна спалены»[3]. Няўдала таксама, хоць і па іншых прычынах, скончылася паездка беларускага гуманіста ў Кёнігсберг. Не атрымаўшы належнай падтрымкі для працягу сваёй кнігавыдавецкай і іншай культурна-асветніцкай дзейнасці, беларускі гуманіст вымушаны быў пакінуць родную зямлю і завяршаць свой жыццёвы шлях у Чэхіі, якая стала для яго другой радзімай.

Для асвятлення выключнай для свайго часу асобы, плённай, хоць і кароткачасовай, але змястоўнай і шматграннай дзейнасці Францыска Скарыны і яго поглядаў выключнае значэнне маюць кнігі і арыгінальная літаратурна-публіцыстычная спадчына беларускага гуманіста. Яны пераканаўча сведчаць пра выразна гуманістычна-асветніцкую скіраванасць творчых інтарэсаў нашага першадрукара, пра яго імкненне паставіць свае веды на службу свайму народу, каб узняць культурны ўзровень «людзей простых, паспалітых». Гэтай высакароднай мэце павінна была служыць друкаваная кніга, у першую чаргу Біблія, якую ён разглядаў як надзвычай багатую крыніцу ведаў, важны сродак навучання сямі свабодным навукам і маральнага самаўдасканалення чалавека.

Скарына шырока абапіраўся ў сваёй дзейнасці на багаты інтэлектуальны і этычны вопыт мінулага, на ідэйна-мастацкую спадчыну папярэдніх эпох, але падыходзіў да іх не дагматычна. Ён творча выкарыстоўваў традыцыі, імкнуўся прыстасаваць іх для вырашэння важных культурна-гістарычных задач свайго часу, дзеля падрыхтоўкі сваіх суайчыннікаў да павароту к новаму, гуманістычнаму мышленню.

У літаратурнай творчасці Скарыны раскрыліся не толькі яго рознабаковыя веды, але і яркі талент пісьменніка-публіцыста, выдатнага мастака слова. Пра гэта пераканаўча сведчаць яго прадмовы да Псалтыра, да кніг «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Ісус Навін», «Прамудрасці цара Саламона», «Прытчы Саламона» і інш. Свае публіцыстычныя творы беларускі гуманіст перасыпаў філасофскімі афарызмамі, трапнымі параўнаннямі, іншымі мас-

---

[3] Владимировас Л. Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский. Вильнюс, 1975. С. 60.

тацкімі сродкамі моўнай выразнасці, пачэрпнутымі з літаратурных і фальклорных крыніц.

Высока цаніў ён такі папулярны жанр сярэдневяковай дыдактычнай прозы, як прытчы, якія «всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся пишуть». А паколькі ў «притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху», то іх чытанне прынясе карысць «всякому человеку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому», а больш за ўсё тым, якія «хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку».

Кніга — магутны сродак адукацыі чалавека, яна пашырае яго духоўныя далягляды, узбагачае ведамі і паглыбляе розум, садзейнічае росту яго культурнага ўзроўню, робіць больш дасканалым і мудрым, дапамагае лепш разабрацца ў тых або іншых жыццёвых праблемах — вось тая галоўная думка, якая пранізвае ўсе прадмовы Скарыны. Кожнаму чалавеку, казаў ён, трэба чытаць кнігі, бо ў іх схавана мудрасць стагоддзяў, а «без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно почтиве жити людем посполитым на земли».

У прапагандзе біблейскіх кніг Скарынам кіравала не тэалагічнае меркаванне царкоўнага прапаведніка, а інтарэсы высокаадукаванага свецкага чалавека, які добра ведаў цану і практычную карысць кожнай кнігі. Ён зыходзіў з таго, што Біблія ў сваім поўным зводзе — гэта не толькі кодэкс хрысціянскага веравызначэння і маралі, але разам з тым і крыніца зямной, народнай мудрасці і канкрэтных ведаў па геаграфіі, этнаграфіі, гісторыі, філасофіі, заканадаўству розных народаў, і таму патрэбна чалавеку ў паўсядзённым жыцці.

Закранаючы пытанне аб часе ўзнікнення той або іншай кнігі Бібліі, Скарына лічыў неабходным адзначыць, дзе, калі, кім і па чыім непасрэдным даручэнні яна пісалася. Так, у прыватнасці, кнігу, вядомую пад назвай «Прамудрасць божая», казаў ён, «написал ест Филон философ греческим языком... во врѣмена Пътоломея Филопатера, царя египетскаго», які быў «шестый царь по Александре Великом Македонском». Аўтарам першай кнігі «Царствы», прысвечанай часу ўзнікнення Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы, Скарына называе легендарнага Самуіла-прарока, а другой кнігі «Царствы» — Саула і яго пераемніка цара Давыда. Далейшую гісторыю гэтай дзяржавы, калі яна распалася на два самастойныя царствы пасля смерці цара Саламона, па яго сцверджанню, «писали же суть сие книги летописци царей Іудиных, наболей Нафан-пророк, Илия-пророк и иные святыи пророци». У дачыненні да іншых кніг Бібліі Скарына сказаў: «Потреба теже ведати, иже сия книга Іудиф, яко книга Даниила-пророка и книги Езъдры, еврейскими словами, но халъдейским языком напервей от летописцев написана ест».

Літаратурна-публіцыстычная спадчына Францыска Скарыны — выдатная з'ява ў гісторыі развіцця беларускай культуры, фарміраванне якой грунтавалася на творчым сінтэзе нацыянальных здабыткаў з дасягненнямі культуры іншых народаў свету. Яна насіла глыбока прагрэсіўны для свайго часу характар і азнаменавала сабой важны этап у духоўным развіцці беларускага народа.

Творчыя намаганні Скарыны знаходзілі водгук у сэрцах тысяч чытачоў. Яго кнігі здзяйснялі вялікую культурна-гістарычную місію правадніка з сярэдневяковай цемры ў свет новых, гуманістычных ідэалаў, новай рэнесансавай культуры. Нягледзячы на адмоўнае стаўленне артадаксальнага хрысціянскага духавенства да яго кніг, яны яшчэ пры жыцці першадрукара шырока разыходзіліся па землях усходнеславянскага свету і станавіліся здабыткам розных слаёў насельніцтва. Аб ступені іх распаўсюджанасці красамоўна сведчыць той факт, што пасля амаль пяцісот гадоў з часу іх выхаду ў свет захавалася значная колькасць экземпляраў Скарынавых кніг.

Значэнне Скарыны як дзеяча культуры, пісьменніка, перакладчыка заключаецца ў тым, што ён падрыхтаваў той бурны росквіт кнігавыдавецкай справы, які пачаўся на Беларусі і ў Літве пасля яго смерці ўжо ў другой палавіне XVI ст., калі адна за другой пачалі ўзнікаць і дзейнічаць друкарні ў Брэсце (у 50-я гады), Нясвіжы (1562), Заблудаве (1568), Лоску (1574), Вільні (з 70-х гадоў XVI ст.). Ён узняў мастацкае аздабленне сваіх выданняў на такі высокі ўзровень, што яны служылі ўзорамі для пераймання не толькі сваім суайчыннікам, але і іншым народам.

Дабратворны ўплыў Скарыны адчулі і такія выдатныя прадаўжальнікі яго культурна-асветніцкай дзейнасці, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец, браты Мамонічы і прадстаўнікі брацкага руху, якія пераймалі і развівалі далей патрыятычныя і гуманістычныя погляды свайго папярэдніка на прагрэсіўную ролю друкаванай кнігі як магутнага сродку асветы і павышэння культурнага ўзроўню народа. Жыватворнымі былі і традыцыі Скарыны ў плане далейшага развіцця яго перакладчыцкага вопыту, садзейнічання з'яўленню новых перакладаў на беларускую мову разнастайных твораў рэлігійнага і свецкага характару. Наследуючы яго творчаму прыкладу, пазнейшыя дзеячы розных палітычных і рэлігійных напрамкаў шырока карысталіся літаратурным жанрам прадмоў як магутным сродкам прапаганды сваіх поглядаў, а часам нават пераймалі форму і змест скарынаўскіх прадмоў, якія былі добра вядомы рускім і ўкраінскім кніжнікам і служылі ім класічным літаратурным узорам. Яны адыгралі выдатную ролю ў справе ўмацавання культурных сувязей паміж беларускім, украінскім, рускім і іншымі народамі Усходняй Еўропы.

Літаратурна-публіцыстычная спадчына Францыска Ска-

рыны яшчэ чакае свайго грунтоўнага і ўсебаковага даследавання. Хочацца спадзявацца, што гэтаму будзе садзейнічаць і новае, больш поўнае ў параўнанні з 1969 г.[4] выданне яго твораў. У дадзены зборнік дадаткова ўключаны поўны тэкст пасхаліі, што захаваўся ў адзіным, капенгагенскім экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», пашыраны варыянт пасляслоўя да Апостала паводле экземпляра Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве, а таксама два акафісты з акравершамі Скарыны. Усе яго творы падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці, адпаведнай часу выхаду ў свет тых кніг, у якіх яны змешчаны, і суправаджаюцца неабходным навуковым каментарыем.

Тэксты публікуюцца па першакрыніцах і згодна з сучаснымі прынцыпамі выдання літаратурных помнікаў. Традыцыйныя для тагачаснай пісьменнасці цітлы і скарачэнні ўсюды раскрыты, цвёрды знак у канцы слоў апускаецца. Прыназоўнікі, якія Скарына не заўсёды аддзяляў ад следуемых за імі слоў, аддзяляюцца. У адпаведнасці з сучасным алфавітам праведзена уніфікацыя графікі. Так, юс малы (ѧ) і «а» ётаванае (ꙗ) падаюцца праз літару «я», Юс вялікі (ѫ), а таксама ўласцівая для тых часоў форма перадачы гука «у» як «оу» заменена літарай «у». Амега (ω) перадаецца літарай «о», фіта (θ) —праз літару «ф», запазычаныя з грэчаскага алфавіта ксі (ξ) і псі (ψ) — адпаведна праз літары «кс» і «пс». Іжыца (ν), якая не мела свайго пастаяннага гукавога эквівалента, перадаецца праз «и» або праз «в» у залежнасці ад сэнсу слова. Літара «ѣ» як спецыфічны гук для тагачаснай пісьменнасці захоўваецца без замены. Знакі прыпынку, на якія Францыск Скарына не заўсёды звяртаў належную ўвагу, прастаўлены паводле сучаснага правапісу. Цытаты, на якія ён абапіраўся для падмацавання сваёй уласнай думкі, бяруцца ў двукоссі, а ў спасылках указваюцца іх крыніцы. Пасля тэкстаў Скарыны падаецца каментарый да іх, пасля якога змяшчаецца перакладны слоўнік ужытых ім устарэлых і малазразумелых сучаснаму чытачу слоў царкоўнаславянскай, грэчаскай і іншых моў. Завяршаецца публікацыя літаратурнай спадчыны Скарыны паказальнікамі ўжытых ім уласных імён і геаграфічных назваў.

---

[4] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969.





## ПРЕДЪСЛОВИЕ В ПСАЛТИРЬ[1]

Всяко писание богом водъхненое полѣзно ест ко учению и ко обличению, исправлѣнию и ко наказанию правды. «Да совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован» [a],— яко святый апостол Павел [2] пишеть. И сего ради светые писма уставлѣна суть к нашему навчению, исправлѣнию, духовному и телесному, различными обычаи: едины законом ветхым и новым, другые светыми пророки даны суть нам, иные деянием светых отець, а некые прытъчами премудрых учителей, некоторые теже песнями и псалмы [3], от царя Давыда [4] и от иных божиих певцев сложеными, яко ест Псалътыр.

Тые же вси первоменованые писма, кажьное с них токмо едину речь в собѣ замыкаеть; яко закон живота вечного людей доступити учить; пророци приидущее доброе добрым, а злое злым проповѣдують; деяния же и животы светых отець жити нас на свете в боязни божией и в терпении навчають; притчи пак и приповѣсти премудрых учителев добрых обычаев младых и старых наставляють.

Псалтырь же сама едина вси тые речи в собѣ замыкаеть и всех тых учить и все проповедуеть, — суть бе в ней псалмы, яко бы сокровище всих драгых скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствіе в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають.

Псалом ест щит против бесовскым нощъным мечтанием и страхом, покой денным суетам и роботам, защититель младых и радость, старым потеха и песня, женам набожьная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение.

Псалом ест всея цѣрькви единый глас, свята украшаеть. Псалом всякую противность, еже ест бога ради, усмиряеть. Псалом жестокое сердце мякчить и слезы с него, яко бы со источника, изводить. Псалом ест ангельская песнь, духовный темъян, вкупе тело пѣнием веселить, а душу учить.

И что ест, чего в псалмох не найдешь? Нест ли там вѣличества божия и хвалы его?

Там ест справедливость. Там ест чистота душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум доско-

[a] Другое пасланне апостала Паўла Цімафею, 3, 17.

налый. Там ест милость и друголюбство без льсти; и вси иншии добрые нравы, яко бы со источника, оттолѣ походять. Там ест великая тайна о бозѣ в троици едином и о воплощении господа нашего Ісуса Христа [5], и о вмученьи его невинном, и о воскресении из мертвых. Там ест надежа востания из мертвых и вечного живота, боязнь страшного суду и вечьного огня. Там ест многых скрытых тайн зъявление. Вси тыи речи, яко бы у великом сокровищи, в сей малой Псалтыри найдешь.

И видечи таковые пожиткы в так малой книзе, я, Франциишек, Скоринин сын с Полоцька [6], в лекарскых науках доктор, повѣлел есми Псалтырю тиснути рускыми словами, а словенскым языком напред ко чти и к похвалѣ богу в троици единому и пречистой его матери Марии [7], и всем небесным чином и святым божьим, а потом к пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил.

А зовѣтся псалтырь гудба, едина подобна к гуслям. Яко сам царь и пророк поет, глаголя: «Хвалите господа во псалтыри и в гуслѣх» [б]. И сего для поставил ест царь Давыд четырех вѣликих ереов, их же избрал от всех людей, Азафа [8] и Емана [9], и Ефана [10], и Идифума [11], абы гудли на псалтыри пред киотом [12] завета господьня и псалмы абы припевали по вся часы, яко пишеть о том в первых книгах Паралипоменона [в].

Ест же той роздел Псалтыри от гуслей. Гуслѣ имеють много струн, псалтырь же толико имать десеть струн, яко пишеть о том: «Хвалите господа во псалтыри десятострунѣй» [г].

А была сия гудьба уставлѣна духом святым на знамя десятерого божьего приказанья, еже дал господь Моисеови [13] на горе Синай [14], а то к нашему научению, абы мы, Псалтырю поючи, чтучи и говорячи, всегда имели десятеро божье приказание пред очима.

Так же будь ведомо, положил есми некоторые на стороницах и сей Псалътыри главы з розных книг, а то для того, абы знакомито было, иже вси иные светые писма згожаються с Псалтырею и одно на другое светчить. А то, чтучи в тых книгах, иже суть главы на боцех пописаны, знайдете. Так же положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же, яко суть онагри, и геродеево [д] жилище, и хлябие и иные слова, которыи суть в Псалтыри неразумныи простым людем, найдуть е на боцех рускым языком, что которое слово знаменуеть. Теже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся в ыных языцех делить.

А так ест конець предъсловия Псалтыри.

---

[б] Псалтыр. Пс. 150. С. 3.
[в] Першая кніга Параліпаменона, 15—16.
[г] Псалтыр. Пс. 91. С. 4.
[д] У тэксце: геродеебо.

* * *

Скончалася Псалтыр сия з божиею помощию повѣлѣнием и працею избранного мужа, в лѣкарскых науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцька, у старом месте Празском[15] лѣта по божьем нарожению тысещного пятсотого и семогонадесеть месеца августа, дъня шестаго[е].

## ПРЕДЪСЛОВИЕ В КНИГУ ИОВ[1]

Пишеть святый Іаков-апостол[2] в своем соборном послании, глаголя: «Образ приимите, братия, злострастия, и долготерпения и трудов!»[а]

Пророки, иже глаголаша именем господьним: «Се блажим тых, они же потерпеша. Терпение Иовово слышасте и конѣць господень видесте, яко много милостив ест господь и щедр»[б]. Сия слова апостольскаа являют нам достойность, святость и терпение святого Иова. О нем же пишется книга сия, и что ему господь бог за его терпение дал ест.

Достойность его тыми словы знаменует, понеже нарицаеть его пророком, он же глаголал ест именем господьним. А ест воистину пророк божий, пророковал убо о востании из мертвых свѣтлей и явней всех иных пророков божиих, тако же и о иных тайнах божиих. Святость же его знаменуется в тых словах, яко же рече апостол: «Се блажим тых, они же потерпеша».

Яко бо злато искушается огнем, тако и святии божии терпением. Сам наш спаситель глаголеть: «Блажени плачющеися, яко тии утешатся»[в].

Терпение пак святога Иова ясне высловил святый Іаков, глаголя: «Терпение Иовово слышасте!» А о том его терпении в сей книзѣ пишется. Прото, хощеши ли ведати, елика потерпел ест святый Иов, чти часто сию книгу, по тому порозумееши и речеши, яко воистинну правду о нем апостол глаголеть и мъзду, которую принял святый Иов от господа бога за тое терпение, в тых словах высловил: «Конець господень видесте, яко милостив и щедр господь». Дал убо напоследы всего во двое святому Иову, елика же сперва имеяше; яко не до конца прогневается господь и кого караеть, того милуеть.

В сих книгах открил ест нам бог великие тайны святым Иовом. Напервей, чего ради господь бог на добрих и на праведных допущаеть беды и немоци, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие, теже о бѣдном и горком животе людском на сем свете, и о конци добрых и злых; те же, которые зобижають

---

е У канцы друкаванага тэксту ніжэй прыпісана: А то ся стало накладом Богдана, Онкова сына, радци мѣста Виленского.

а Саборнае пасланне Якава, 5, 10.

б Там жа, 5.VI.

в Евангелле ад Мацвея, 5, 4.

убогых, что на таковых бог перепущаеть. Также о различьных дивех божиих, еже учинил ест во многых зверех, птицах и рыбах, и што ся в чем знаменует; и о иных многих тайнах, яже чтучи в сей книзе знайдеши.

Делится же сия книга на главы, а главы ся делять на стихи и по тому ж, яко и Псалътир ся делить. Поченши от третиея главы даже до останочное, вся сия книга стихами розделена ест, яко же чтучи поразумееш.

И всякому человѣку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потѣха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены, надежа истинная востания из мертвых и вѣчного живота.

Прото ж я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, иже ест наивышшая мудрость розмышлѣние смерти и познание самого себе, и въспоминание на приидущие речи, казал есми тиснути книгу святого Иова рускым языком богу ко чти и людем посполитым к научению.

Конец прѣдсловию.

* * *

Скончалася книга сия святого Иова с помощию бога в троици единаго повѣлением, працею и выкладом избранного мужа, в лѣкарскых науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцка, у старом месте Празском лѣта по нарожению господа нашего Ісуса Христа, сына божия, из пречистыя девици, матери божии Марии, тысещного пятьсотого и седмагонадесеть, месеца септеврия, дня десятого.

Ему же то буди хвала, честь и поклонение с отцем и святым духом нынѣ и всегда, и в вѣк вѣков. Аминь.

## ПРЕДСЛОВИЕ В ПРИТЧИ ПРЕМУДРАГО САЛОМОНА, ЦАРЯ ИЗРАИЛЕВА

Пишеть святый Иоан[1] во своем Еувангелии[2], иже наш спаситель рекл ест: «Сия в притчах[3] глаголах вам, приде же час, яко к тому не в притчах возглаголю к вам, но явѣ о отци моем возвѣщу вам»[a].

Много крат преже того в притчах глаголал ест к нам господь бог, нежели принял человѣченство от пречистое богородици Марии, светыми отци и пророки, а наболѣй царем Саломоном[4]. Он бо просил ест от господа бога мудрости и разума. И отвеща к нему господь бог: «Понеже жадал еси у мене словѣси сего, а не просил еси собѣ дней многых, ни богатества, ниже душ врагов твоих, но жадал еси собѣ мудрости к научению судов, — се учиних тобѣ по словѣси твоему и дах тобѣ сердце

---

[a] Евангелле ад Іаана, 16, 25.

мудро и смыслено таково, иже несть был пред тобою и по тобѣ не встанеть ин подобен тобѣ»[б], — яко пишеть о том во третих книгах Царств царей Израилевых и во вторых книгах Паралипомена. И тако господь бог дал ест царю Саломону мудрость большую, нежели которому иному человѣку. И сего ради называется прѣмудрый, понеже мудрейший иных был. Выкладывается же руским языком Саломон, еже ест мирный или спокойный, понеже был мир и покой по вся времена царства его.

И написал ест царь Саломон трое книги к нашему научению: первые, рекомые Параболѣ то суть Притчи; вторые — Еклезиястес[5], а то ест Соборник; третие же называются Песни пѣсням. А в тых троих книгах божиим повѣлением мудрость свою выписал, яко сам о том во Притчах глаголеть: «Се выписах ю треми обычаи»[в].

В первых же сих книгах, еже словуть Притчи, пишеть о мудрости, о науце, о добрых обычаех, о заповѣдех, яко ся имамы справовати и жити на сем свете, глаголя: «Притчи Соломона, сына Давыдова, царя Израилева, ко познанию мудрости и наказания, и ко зрозумению слова смыслена»[г] и ина.

Во вторых же книгах, рекомых Еклезияст или Соборник, пишеть о суете, о празности и о краткости, глаголя слова Еклезиястес сына Давыдова, царя Израилева: «Суета суетная и все суетно»[д], таже далей. И тамо нас отводить от збытнее праци сегосветнаго жития и приводить ко вечному небесному житию.

В третих же своих книгах, еже словуть Пѣсни пѣсням, кажеть, естъли же в ласце милостиваго бога доконаем сего суетнаго жития, како имать душа наша радоватися з господем богом в царствии небесном, даючи нам приклад о любовнику и с своею любою, глаголя: «Поцалуй мя поцалованием уст своих!»[е] И даже до конца, яко же чтучи, знайдешь.

Притчи же нарецаются еврейским языком масшлоф, а грѣческым — параболѣ, по-латине же — провѣрбия, а по-рускый — притчи или присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть.

Делятся же сии книги на трое: первая часть ест от зачала даже до десятое главы, а вторая до двадцеть пятое, третия же до конца, яко же по початкох глав тых — первое, десятое, и двадцеть пятое поразумеешь.

В первой части пишеть, яко бы отець сына научая мудрости, разума, умения, страха божия и иных добрых нравов. Во второй

---

[б] Трэцяя кніга «Царствы», 3, 11—12.
[в] Кніга «Прытчы Саламона», 22, 20.
[г] Там жа, 1, 1—2.
[д] «Эклезіяст», 1, 1—2.
[е] Кніга «Песня песняў», 1, 1.

же части царь Саломон кладеть притчи разноличьные и где же единна каждая притча особливую речь в собѣ замыкаеть, добрую и злую, не имаючи жадинаго возгляду к задней или ко предней притчи. И в трѣтей части пишутся присловья царя Саломонова, собраные от мужей, наученых Езехиею [6], царем Иудиным, по смерти Соломоновѣ. Сия же останочная часть сокрытей в притчах пишеть, нежели преднии двѣ. А то в приробнании одных речей ко другым.

Мовил же ест царь Соломон притчей три тысещи и сопсал своего складания стихов пять тысещей. И учинил розмолвение о прирожении древ и былин, почениш от древ кедровых, еже ростуть на горе Ливанской, даже до травы исопф [7], ежеростеть при муре. И мудре повѣдел теже о прирожении зверей, птиць, гадов и риб, яко пишеть о том в третих книгах Царств царей Израилевых.

Пожиточьны же суть сие книгы чести всякому человѣку: мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотят имети добрые обычае и познати мудрость и науку, долгота бо дней и лѣта живота, и мир приложатся им; милосердие и правда не оставять их, естъли же пилне послушають и соблюдуть притчи, положеные в книгах сих, яко же сам царь Соломон нижей о том глаголеть.

Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у в ореху. Кто ю знайдеть, сей знайде милость, и достанеть благословения от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею. Хвала и честь безчисленая моцию ея, она убо ест мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению.

В ней воистинну ест дух разумности святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непоскверненый, истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый и всякую иную имеющий в собѣ добрую цноту.

Прото я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, разумея сее, иже без страху божия, без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно почстиве жити людем посполите на земли, казал есми тиснути Притчи или Прислобия премудраго Соломона, сына Давыдова, царя Израилева, руским языком напред ко чти и к похвале створителю, спасителю, утешителю богу в троици единому и пресвятой, преблагословенной, пречистой матери его Марии и всем небесным чином, и святым, и святицам божиим, потом людем простым посполитым к пожитку и ко розмножению добрых обычаев, абы, научившися мудрости, добре живучи на свете, милостивого бога хвалили по тому, яко же прилежит на великую высокость и велеможность имени его святого.

Конець прѣдсловия в книгы Притчей премудраго Соломона, царя Израилева.

Сия книга, рекомая Притчи или Присловия премудраго Со-

ломона, сына Давыдова, царя Израилева, имать в собѣ глав тридесять и одну.

Пишеть же в них царь Соломон о мудрости, о страху господнем, о службе божией, о науце, о карании злых нъравов, и о научении цнот и добрых обычаев, о хитростях женъских, о царех добрых и о злых, о справедливости, о судех, о речах противных, о ненасыщеных, о зверех некоих и о дивном прироженію их, о речах трудных к познанию и о иных многих разноличных речах.

А пишется сия книга тым же обычаем, яко и Псалтыр, и Иов, и Исус Сирахов [8], понеже кождая глава делится на притчи, яко бы на неякии стихи или розделения, яже чтучи поразумееш.

* * *

Скончалася ест книга сия, рекомая Притчи или Присловия премудраго Саломона, царя Израилева, сына Давыдова, он же был царем в Ерусалиме [9], с помощию бога, спасителя и утешителя нашего, повелением, працею и выкладом избраннаго мужа, в лѣкарскых науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцка, у славном старом месте Празском лѣта по нарожении господа нашего Ісуса Христа, сына божия, тысещного пятсотого и 17, месеца октяврия, дня шестаго. Ему же то буди хвала, честь и поклонение с отцем и святым духом нынѣ и всегда и в вѣк вѣком. Аминь.

## ПОЧИНАЕТСЯ ДРУГАЯ ПРЕДЪМОЛЪВА [a] ДОКТОРА ФРАНЪЦИСКА СКОРИНЫ В КНИГУ ИСУСА СИРАХОВА

Исус Сирахов, он же написал ест книгу сию еврейскым языком и потом из еврейскаго языка преложил ест на греческый язык на прозбу Птоломея Еверeета [1], царя египетскаго, сей был родом евреянин от колѣна Левгиева из преславнаго града Ерусалима, сын Сирахов, и того ради нарецается Исус Сирахов.

Сирах же был сын Исусов, сына Еседехова. Того Исуса Еседехова, деда Исуса Сирахова, послал был Елиазар [2], ерей великий ерусалимскый, ко Птоломею Филядельфови [3], царю егыпѣтскому, во Александрию [4], он же был ест вторый царь во Египте по Александре Великом Македонском [5], и с ним седмъдесят и единаго мужей избранных, в законѣ божием и во пророцех и во всех иных писмех святых добре наученых, духа святого и философии исполненых, еврейскаго языка и греческаго досконале умелых.

---

[a] Першая прадмова ў гэтай кнізе Біблii пададзена Францыскам Скарынам ад імя самога Ісуса Сірахава.

Сии же седмъдесят и два учителя выложили суть из еврейскаго языка на греческый закон божий, даный Моисею на горѣ Синайской, то ест пятеры книги Моисеовы, шестьнадесеть пророков, книгы Судей, Царств, псалмы Давыдовы, мудрость Саломонову и иные многые светые писма, их же для краткости несть потрѣба ту меновати. И написали суть вси сие книгы греческым писмом. И положил е ест царь Пътоломей Филяделф во книжници своей промеж иными книгами. В ней же имеаше различных книг иных, а иных более нежели четырьдесять тысещей. Таковый убо был милосник наукы и мудрости, иже болѣй избрал оставити в науце и ■ книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах.

По смѣрти же сего Пътоломѣя Филядельфа царствовал ест во Египте сын его Пътоломей Евереет. И той послал ест во Ерусалим по Исуса Сирахова, абы приехал к нему во Александрию.

И внѣгда беше Исус Сирахов во Александрии, в некий час вниидe во книжницу цареву, и узрел ест тамо множество книг различных и межи ими видел писмо и книгы деда своего Исуса Еседехова. И возрѣвновал ест тому, дабы оставил теже и по собѣ память, яко и предковѣ его оставили суть, дабы память его не загинула вовѣки, яко сам о том кратце пишеть во предословии своем. И сего ради преложил ест книгу сию из еврейскаго языка на греческый и назвал ест ея Панаретос, еже исказуется: всех добрых нравов сокровище.

Писал же ест сию книгу Исус Сирахов пред нарожением господа нашего Ісуса Христа из пречистое девици Марии лѣт двѣсте и деветь во врѣмена Пътоломея Евереета, царя египетъскаго.

Потом же по нарожению нашего спасителя, лѣта четырьсотого двадесят и девятого, святый Герасим-презвитер, он же беаше на Иоръдани[6], выложил ея з греческаго языка на латинский и назвал ест ея Екклезиастыкус, еже по-рускыи выкладается Церковник, понеже церкви святой ест сия книга велми потребна, все бо в ней о церковной науце и о нравех добрых пишеть. Наболѣй о мудрости, о страху господьнем, о слове божием, о справедливости, о вере, о любви, о надежи, о чистотѣ, о служ-бе божией, о долготерпении, о смирении, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о друголюбии, о науце закона божия, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товаристве добром и злом, о похвале мужей святых, о славе царей праведных, о достойности пророков божиих и о иншиx различных многых добрых обычаех и нравех, яко же чтучи в ней знайдеши. И елико крат в ней будеши чести, по кажном чтении новаго нечто научишися, чего жь есь пред тым не умел, вся бо Саломонова и Арестотелева[7] божественая и житейская мудрость в сей книзе краткыми словы замкнена ест.

Прото ж и я для похвалы божией и для посполитого доброго и розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки приложил есм працу выложити книгу сию на рускый язык, елика бо прежде писана быша к нашему научению написана суть, яко святый апостол Павел к римляном глаголеть: «Сего ради милостивый бог з различных языков нам прежде писма ест послал, абы есмо чтучи е, его миловали, ему служили и в онь веровали, и к тому совершеные нравы имели и добрые дела чинили»[б]; «яко бо без веры не можемы полюбитися богу, тако и вера без дел мертва ест»[в].

Сия же книга сама нас добрых обычаев и дел научаеть более, нежели иные многые книги, прото ж потребна есть ея всякому человѣку чести.

Пишеть же Исус Сирахов сию книгу по тому ж, яко и царь Саломон свое книги пописал ест, во краткых словах великий и многый разум замыкаючи, яко сам о том в предословии своем вышей глаголеть: «Где же узрите нас последующе образ мудрости» и далей «то ест мудрости Саломоновы».

Делится же сия книга на двое. Едина часть от зачала книгы даже до четырдесят четвертое главы. А в той части приводить нас к мудрости и к добрым обычаем путем разуму. Вторая же часть починается от четырдесят четвертое главы даже до конца. В сей же части приводит нас к святости и к добрым делом путем прикладу, припоминаючи нам жития святых, како, добре поживши на свете, по смерти достали суть вечное славы.

Конец предсловия.

* * *

Доконана ест сия книга Исуса, сына Сирахова, ерусалимлянина, рекомая Панаретос или Екклезиастикус, еже исказуется: всех добрых нравов сокровище или Церковник, с помощию и троици единаго бога и его пречистое матери Марии повѣлением, працею и выкладом избраннаго мужа, в лѣкарскых науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцка, у славном старом месте Празском лета по божием нарожении тысещного пятсотого и седмагонадесять, месеца декаврия, дня пятого.

### ПРЕДОСЛОВИЕ ДОКТОРА ФРАНЪЦИСКА СКОРИНЫ В КНИГУ ПРЕМУДРАГО ЦАРЯ САЛОМОНА, РЕКОМУЮ ЕКЛЕСИАСТЕС

Трое книги написал ест премудрый Саломон, царь Израилев. Первые, рекомые еврейскым языком Маслотг, по-грѣческыи — Параболе, по-латине — Провербиа, а по-рускыи —

[б] Пасланне апостала Паўла да рымлян, 15, 4.
[в] Саборнае пасланне апостала Якава, 2, 20.

Притчи Саломоновы. Вторые книгы написал ест, еже зовутся еврейскым языком Коелеф, по-грѣческыи — Екклесиаст, по-латине — Концнонатор, а по-рускыи — Соборник. Третии же книгы царя Саломоновы нарицаються Сира сирим, по-латине — Кантикум кантыкорум, еже по-рускыи исказуется Пѣснь пѣсням.

У первых книгах своих, еже словуть Притчи, пишеть о науце людей младых, якобы отець сына научаючи единаго каждого особно, яко о сем написал есми ширей в предословии, еже ест в книгу Притчей царя Саломона.

В сей же книзе, рекомой Екклесиаст или Соборник, пишет о науце всех людей посполите сущих в летех мужства, приводячи им на паметь суету, беду и працу сего света, понеже в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя: едины в царствах и в пановании, друзии в богатестве и в скарбох, инии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крѣпости телесной, нецпи же во множестве имения и статку, а нецпи в роскошном ядении и питии и в любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах. А тако единый каждый человѣк имать некоторую речь пред собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит.

Разумея же сия речи, премудрый Саломон краткими е словами в сей книзе, якобы во зерцале, нам написал, глаголя: «Суета над суетами и все суетно и утиснение духово» [а].

А с сее книги можемы доскונале поразумети, иже царь Саломон о мыслях и о кохапиях людьскых говорить; на некоем бо месте пишеть, «иже несть лепшего, толико ясти и пити и чинити добро души своей» [б], а на другом месте пишеть: «Лепей ест пойти в дом плачю, нежели в дом пированіа» [в]. Таке ж на ином месте кажеть: «Ничто же имать злишку мудрый над глупаго, понеже единаковый ест конець обою их» [г]. Во ином же месте кажет, глаголя: «Яко свет превышает над темности, тако и мудрый над глупаго. Мудрый имать очи во главе своей, а глупый во тме ходить» [д].

Таке жь и о иных речах в сей книзе пишет; они же видятся собѣ быти противны, яко и людская кохания и мысли суть собѣ противна. Един бо в том ся кохаеть, тое хвалить и о том мыслит, а другый другое, а иный иное. И во всих тых коханиах и мыслях людьскых знашол ест царь Саломон суету и утиснение души.

На конци же книги сея явил ест разум мысли своея, глаголя: «Конець молвения вси вкупе послухайте — бога бойся и заповеди его соблюди, той ест воистинну совершеный человѣк»

---

[а] «Эклезіяст», гл. 1, 2.
[б] Там жа, гл. 2, 24.
[в] Там жа, 7, 2.
[г] Там жа, 2, 12—14.
[д] Там жа, 13—14.
[е] Там жа, 12, 13.

## ПОСЛАНИЯ ПЕРЪВАГО КО ТІМОФЕЮ СВЕТОГО АПОСТОЛА ПАВЛА СКАЗАНИЕ ДОКТОРОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ С ПОЛОЦКА БОГУ К ПОХВАЛЕНИЮ ПОЧИНАЕТСЯ

Ко Тімофею пишеть апостол, иже был ест родом из отца еллина, а от матки жидовки, приступившей ко вере Христове. Сего млада суща, навчена добре в писме, принял был святый Павел. Его же и обрезал сам для нестовъства іудейскаго, яко пишеть о том святый Лука во Деяниах апостольских. Сего оставил ест во Ефесе, идяй в Макидонию. И, будучи в Лаодикіи, слышал некоих, прельщающих ефесян закона Ветхаго уставами и хулящих закон Христов. Сего для утверждаеть его и навчаеть посланием сим, яко власного сына.

Наипервей, абы не слухал и иным не велел басен и родов жидовских, но навчал веры, еже ко богу и любве, еже ко ближним. Сие бо полнящим закон не ест наложен. Потом сам о собѣ кажеть, яко был гонителем церкви Христовы и како бог помилова его, показуя объраз, да и Тімофей воюеть для веры Христовы. Затым навчаеть, како и за кого богу молитися, яко мужем и женам во молитве подоба[е]ть учьтиве пребыти. Таже о еппископех и о служителех у храме божием, якови имають поставлени быти, и о женах их, и о домех их, и како во церкви божией им жити, выписуеть. О сем во предних трех главах знайдеш.

Далей остерегаеть, дабы не послушал льстивых учений бесовъских, возбраняющих ясти брашна и женитися.

Затым навчаеть Тимофея, яков имать быти ко богу и ко всем человеком, яко ко старым, яко к младым, яко ко старицам, яко ко девицам, яко ко вдовицам, богатым и убогым, и старым, они же трѣбують церковнаго споможения. Младые пак вдовице замуж да идуть.

Потом о попех науку даеть. Таж о господарех, о рабех и о людех богатых, они же яко ничого на свѣт не принесоша, тако и [с] собою не воз[ь]муть. Прото, покинувши сребролюбие и гордость, велить чинити добрая дела и в них богатитися.

На конци, упоминая уклонятися от тъщеглаголания, конаеть послание.

Телос [a].

## ВТОРАГО КО ТІМОФЕЮ ПОСЛАНИЯ СВЕТОГО АПОСТОЛА ПАВЛА СКАЗАНИЕ ДОКТОРОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ С ПОЛОЦКА БОГУ МИЛОСТИВОМУ КО ЧТИ ПОЧИНАЕТСЯ

Тое второе послание пишеть апостол ко Тімофею, будучи пойман в Риме от Нерона-царя и не можай потом пріити к нему во Ефес, яко же обещался был во первой епистоле своей. Прото утвержаеть и во вере Христове.

[a] У перакладзе з грэчаскай мовы: Канец.

Наипервей, приводяй ему к памети прародителей его, таж самого себе и добродейство божие и любовь Онъсифорову [1].

Потом велить ему готову быти муку приняти для веры Христовы, яко и сам терпить изъбранных ради, и всякия слова празныя и похоти юношския отдаляти.

Затым проповѣдаеть, иже настануть врѣмена люта, в них же будут человеци велми зліи. От таковых кажеть отвращатися и добрых дел во терпеніи наследовати, а не послухати поглѣбных слов их, понеже закон Христов не во словах любых, но во делех чистых поставлен ест.

На конци о приближеніи смерти своея, и како инии вси оставили его, пишеть. Прото ж велить Тімофею с Марком пріити к собе.

Таж конаеть послание.

* * *

Доконано ест второе послание ко Тімофею светого апостола божия Павла.

## КО ТІТУ ПОСЛАНИЯ СВЕТОГО СЛАВНОГО АПОСТОЛА ПАВЛА СКАЗАНИЕ ДОКТОРОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ С ПОЛОЦКА БОГУ ВСЕДЕРЖИТЕЛЮ КО ЧТИ ПОЧИНАЕТСЯ

Остров преславный Критъскій [1], иже ест в мори Посредеземном, имея в собѣ градов сто. В нем же святый апостол Павел поставил архиепископом Тіта, возлюблѣннаго ученика своего, его же имеаше вмѣсто сына для превеликое доброты, иже бѣ в нѣм. К нему и пишеть епистолию сию.

Наипервей поведаеть вѣру Христову не нову быти, но прежде вѣк обетовану от бога. Потом велить поставляти попы и епископы, а яковых имать на тот достойный чин, выбирати. Таж кажеть обличати илъжеучителей, от жидовъства приходящих и уставы ветхаго закона хранити учащих, поведая вся чиста быти чистым.

Затым старых мужей и жен наказует, и яко имають навчати младых, и како подобаеть рабом господе своей покарятися, воспоминая, иже мы не от своих дел, но благодатию божиею спасени быхом. Таже велит князем властелем повиноватися, празных и суетных в законе прени[й] их отметатися.

На конци кажеть самому Тіту пріити к собѣ в Никополь [2], яко скоро пришлеть к нему Артему [3] и Тихика [4]. Таж конает послание.

Конець сказанию.

* * *

Доконано ест ко Тіту послание светого славного учителя, апостола Христова Павла.

## ПОСЛАНИЕ КО ФІЛИМОНУ СВЕТОГО ПАВЛА-АПОСТОЛА, ЕЖЕ ПОСЫЛАЕТЬ ОТ РИМА, СЕДЯ ВО ОКОВАХ, ОНИСИМОМ, СКАЗАНИЕ

Той Онисим [1] был ест раб Філимонов [2] и, втекши от него, приде в Рим, и послуговаше Павлу и бысть его велми пилен. Павел пак, занеже любляше Філимона яко брата, не хоте оскорбити и, прото ж и отсылаеть к нему раба его. Дивным же обычаем и дивными прімолвами пишет за ним, дабы не толико гнев отпу[с]тил ему, но к тому, яко брата возлюбленнаго принял его, хотяй сам во всем за него досыть учинити, скончевает послание.

Конець сказанию.

* * *

Доконано ест послание ко Філимону светого верховнаго апостола Христова Павла.

## ПОСЛАНИЯ КО ЕВРЕОМ СВЕТОГО АПОСТОЛА ПАВЛА СКАЗАНИЕ ДОКТОРОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ С ПОЛОЦКА БОГУ КО ЧТИ И ЛЮДЕМ ПОСПОЛИТЫМ К НАВЧЕНИЮ ПОЧИНАЕТСЯ

Разумно ж да будеть, яко сию епистолу пишеть апостол от Италіи ко евреом, веровавшим во Христа, сущим во разсеаніи. Они же многа злая от своих претерпеша, наболей во Ерусалиме. Тамо убо имения их розъграбляху, а самих мукам прѣдаваху и Евангелию Христову, законом Моисеевым хвалящеся, противляхуся.

Сего ради, потешая их во скорбех и утвержая во вере, пишеть напервей о сыне божием, обещаном в законе светыми патриархи и пророки. Он же ест равен богу отцу в вечности, во сияніи и в составе, а вышшій всех духов анъгельских. Того же доводить многыми писмы Ветхаго закону.

К тому кажет, яко предкове их послушали ангел божиих, прото ж они болей повинни суть послушати самого сына божия, непослушніи бо приемлють помсту.

Затым поведаеть многым болшего быти Христа, сына божия, в дому своем, обещающего царство небесное верующим в онь, нежели Моисея, раба божия, в дому чуждем, слюбующего землю обетованную. А тако болши да послушають Евангелия Христова, нежели закону Моисеова. О них знайдеши во предних четырех главах.

Таже отписание исказуеть вышшего первоосвещенника быти Христа, сына божія, он же сам себѣ единова на кресте за всех

богу отцу принесе и кровию своею очисти все грехы, по чину Мелхиседекову[1] воступив на небеса, бысть ерей о нас вовеки, нежели Аарон и иніи первосвещенници. Они же на каждое лѣто крови козлие и телчие приношаху, николи же грехи очистяюще. О сем широце узриши, почен[ши] от пятое главы даже до конца десятое.

Потом во первойнадесеть кажеть о высокости веры Христовы и яко много святые для веры божіи претерпеша. В том науку им даеть, дабы и они терпеливи были во скорбех своих, понеже за тое мзду пріимуть во небесном Ерусалиме со т[ь]мами ангел светых.

На конци повѣдаеть о добрых обычаех хрестианских, яко ся имають заховати ко своим ближним, сами ку собѣ и к своим старшим. Таж со цѣлованіи конаеть послание.

Конець сказанию.

* * *

Доконано ест ко евреом посланіе светого славного апостола и мученика Христова Павла.

* * *

Доконана ест сия книга, зовемая Апостол, еже замыкает в собе наипервей Деания апостольская, потом посланией светых апостол соборных седм, таж епистол светого Павла 14, лѣта по нароженіи нашего спасителя Ісуса Христа, сына божия, тысещнаго пятьсотаго и двадесеть пятого, мѣсеца марта, при держаніи наласкавшего господаря Жикгымонта Казіміровича[1], короля полского и вѣликого князя литовъскаго, и рускаго, и жомойтьскаго и иных, во славном мѣсте Виленском. Выложена и вытиснена працею и великою пилъностию доктора Франциска Скорины с Полоцка богу во троици единому и пречистой матери его Маріи со всеми светыми ко чьти и людем посполитым к доброму навчению.

Имашь пак в сей книзе, мой любимый приятелю, хто ж будеши ея чести, зачала каждого послания чорным вызнаменованы. Початки и концы всякому апостолу, яко во церкви божіи чтется, к тому и дни месецей в них же прочитаются. Главы же, яко и во всех книгах Бівліи, Ветхаго и Новаго закона, мною на руськи язык выложеных, што которая в собѣ кратце замыкаеть, ко знайдению скоро всякое речи потребное во бож[е]ственых писаниех. К тому и светки по сторонherцах, яко одно писмо на другое сведетельствуеть и во едино ся згожають, черным исправлены розделне узриши. Совершися в дому почтивого мужа Якуба Бабича[2], наистаршего бурмистра славнаго и великаго мѣста Виленскаго.

* * *

Соборник всих двунадесеть месецей собраным светым и празником, собраные епистолы и Еввангелия доктором Франциском Скориною з божию помощию, доконаный ест.

* * *

Доконан ест Соборник всем през цалый год, днем и празником, зачала епистолам и Еввангелием. Собраны во едино место доктором Франциском Скориною из града Полоцька.





ПОЧИНАЮТЬСЯ
ЕПИСТОЛЫ СВЕ
ТОГО СЛАВНОГО ЙВЕ
РХОВНАГО ВНЕБЕ НА
ВЧЕНАГО АПОСТОЛА
ХРСТВА ПАВЛА







Новае выданне зборніка літаратурна-публіцыстычнай спадчыны Францыска Скарыны змяшчае ў сабе амаль поўны збор тэкстаў яго ўласных твораў, якія прадстаўлены прадмовамі, пасляслоўямі, сказаннямі, кніжнымі вершамі і гімнамі. У аснову зборніка пакладзены тэксты Ф. Скарыны з найбольш поўнага збору Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, а таксама з экземпляраў іншых айчынных і замежных кнігасховішч. Спасылкі на кожны экземпляр іх захавання ў гэтым перавыданні не даюцца, а робіцца адсылка да выданняў: Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі (с. 199—232); Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель литературы. М., 1978 (с. 5—20); Кніга Беларусі: Зводны каталог. Мн., 1986 (с. 37—55), дзе такія спасылкі падаюцца.

У адрозненне ад выдання 1969 г. у перавыданні каменціруюцца біблейскія імёны і геаграфічныя назвы. Пры складанні каментарыяў выкарыстаны розныя энцыклапедычныя даведнікі, навуковыя даследаванні, пяцітомны «Опыт библейского словаря собственных имен» П. Салярскага (Спб., 1879, 1881, 1883, 1884, 1887), асобныя выпускі дарэвалюцыйнага «Православного палестинского сборника» і інш.

## Псалтыр

[1] *Псалтыр, або Кніга псалмоў* — адна з біблейскіх кніг Старога запавету, якая змяшчае 150 розных па зместу і жанру твораў і ўяўляе сабой зборнік рэлігійнай лірыкі. Яе аўтарства прыпісваецца старажытнаяўрэйскаму цару Давыду, які жыў у XI ст. да н. э. Гэты зборнік лірыкі ў сваім канчатковым выглядзе быў складзены для патрэб іерусалімскага храмавага культу, відаць, у пасвавілонскую эпоху, г. зн. не раней VI ст. да н. э. Як калектыўны паэтычны зборнік, які на працягу доўгага бытавання дапаўняўся і рэдагаваўся, Псалтыр параўнаўча позна ўвайшоў у канон яўрэйскіх «свяшчэнных» кніг храмавага песнапення. Менавіта гэтай паэтычнай кнігай псалмоў адкрываецца трэці раздзел старазапаветнага канона царкоўнай Бібліі. Як кнігу рытуальна-культурнага прызначэння Псалтыр ад старажытных яўрэяў запазычылі прыхільнікі хрысціянства і таксама пачалі ўжываць яго на сваіх малітоўных сходах. Ужо з III ст. н. э. Псалтыр пачаў пашырацца ў перакладзе на грэчаскую мову. У IX ст. кнігу псалмоў для патрэб славянскіх хрысціян пераклалі з грэчаскай мовы заснавальнікі славянскай пісьменнасці, браты-асветнікі Кірыла і Мяфодзій. З часу прынясця хрысціянства на Русі ў 988 г. Псалтыр стаў адной з папулярных кніг Бібліі. Як кніга, якая пастаянна ўжывалася пры богаслужэнні, яна была вядома і ў пашыраным варыянце, дзе тэкст кананічнага Псалтыра падаваўся ў спалучэнні з тэкстам «Часаслоўца» і меў характар зборніка малітваў і псалмоў, неабходных для пэўнага часу царкоўнага богаслужэння, у якім падаваліся кароткія тлумачэнні на тыя або іншыя яго псалмы. Шырока бытаваў таксама Тлумачальны Псалтыр. Гэтыя каментарыі да псалмоў, як правіла, належалі такім вядомым аўтарытэтам хрысціянскай царквы, як Іаан Златавуст, Амвросій, Аўгусцін і інш.

У эпоху сярэдневякоўя Псалтыр быў адной з галоўных кніг навучання грамаце. Вывучэнне гэтай кнігі лічылася дастатковым для таго, каб быць падрыхтаваным да выканання царкоўнай службы, бо той, хто ведаў Псалтыр, успрымаўся тады грамадствам як асоба адукаваная, здольная чытаць

усялякія іншыя кнігі. Псалтыр у далёкім мінулым служыў не толькі настольнай кнігай кожнага адукаванага чалавека, але нярэдка быў і яго неразлучным спадарожнікам у часы розных доўгатэрміновых паездак і падарожжаў. Таму невыпадкова, што Скарына, улічваючы такую вострую практычную патрэбу ў гэтай кнізе, пачаў сваю кнігадрукарскую дзейнасць менавіта з Псалтыра і выдаў яго двойчы: у Празе ў 1517 г. і ў Вільні ў 1522 г. у складзе так званай «Малой падарожнай кніжкі».

У Псалтыры веруючыя бачылі магічны сродак лячэння і ачышчэння чалавека, папярэджання розных бед, своеасаблівае «лекарство душевное». Гэтую кнігу нярэдка чыталі над хворым, які пакутаваў ад цяжкіх і працяглых, асабліва псіхічных, хвароб, прычыну якіх вытлумачвалі шкодным уплывам нячыстай сілы. Успрынящце магічнай сілы ўздзеяння Псалтыра выяўлялася і ў звычаі чытання яго над нябожчыкам. Па Псалтыру на Русі таксама варажылі. Усе гэтыя факты сведчаць аб вялікай папулярнасці Псалтыра ў даўнія часы і важнай яго ролі ў духоўным жыцці сярэдневяковага чалавека.

² *Павел* — адзін ■ легендарных хрысціянскіх апосталаў, прапаведнікаў хрысціянства. Паводле хрысціянскага падання, ён жыў у I ст. н. э. Хрысціянская царква прыпісвае яму аўтарства 14 пасланняў, якія ўвайшлі ў звод т. зв. Новага запавету Біблії. У сапраўднасці ж гэтыя пасланні былі напісаны рознымі асобамі і ў розны час, але не раней чым у першай палавіне II ст.

³ *Псалмы* — творы рэлігійнай лірыкі, якія атрымалі назву ад грэчаскага слова *псалмос* 'пахвальная песня, урачыстае рэлігійнае песнапенне, малітва'. Яны выконваліся пад музычны акампанемент арфы. Тэрмін «псалмы» цесна звязаны з назвай лірыка-паэтычнага зборніка Псалтыр. У сваім першапачатковым выглядзе псалмы да нашага часу не захаваліся. Яны вядомы толькі ў старажытнагрэчаскіх кананізаваных перакладах-апрацоўках, якія спяваліся ў раннехрысціянскіх храмах паперамена двума харамі ва унісон. Іх паэтычная форма і метрычная арганізацыя трымаюцца на сінтаксічным паралелізме, які аб'ядноўвае або сінанімічныя варыяцыі адной і той жа думкі, або агульную думку і яе канкрэтызацыю, або дзве супрацьлеглыя думкі, ці, нарэшце, два выказванні, пададзеныя па ўзрастаючай градацыі. Псалмы вызначаюцца жанравай разнастайнасцю. Побач з культавымі ўсхваленнямі яўрэйскага бога Яхве у Псалтыры сустракаюцца пранікнёныя скаргі і праклянці, гістарычныя агляды і нават шлюбныя песні. Некаторыя псалмы вылучаюцца сваім медытатыўным характарам. Так, у прыватнасці, псалом 8 — гэта глыбокі роздум аб вялікасці чалавека. Аднак у цэлым Псалтыру ўласцівы адзінства жыццеўспрыняцця і светапогляду, агульнасць тэм і матываў, эмацыянальнага ўздыму лірычнага героя.

Псалмы аказалі прыкметны ўплыў на фальклор, для якога яны служылі крыніцай шматлікіх прыказак, а таксама на літаратуру і музычную культуру. У часы сярэдневякоўя псалмы паслужылі асновай і стымулам для стварэння рэлігійных гімнаў, трапароў, якія ўрачыста спяваліся ў гонар таго або іншага царкоўнага свята ці кананізаванага царквой святога, і іншых музычна-паэтычных апрацовак. Ужо ў XIV ст. на псалмы пачалі ствараць прафесійную музыку. Лепшыя ўзоры гэтага лірычнага жанру, цесна звязанага з вусна-паэтычнымі фальклорнымі традыцыямі, увайшлі ў народны побыт. У эпоху еўрапейскага Адраджэння (XVI ст.) у непасрэднай сувязі з развіццём пратэстанцкага руху склалася так званая псалмічная песня. Так, у Францыі вялікай папулярнасцю карысталіся гугеноцкія псалмы кампазітара К. Гудымеля, у Рэчы Паспалітай — пратэстанцкія паэтычныя псалмы Яна Каханоўскага ў музычнай апрацоўцы М. Гамулкі. У Расіі ў XVII ст. В. П. Цітоў паклаў на музыку «Псалтыр рыфмаваны», які ў 1690 г. напісаў Сімяон Полацкі па ўзору польскага паэта Яна Каханоўскага (1530—1584). Музычныя творы на тэксты псалмоў стваралі многія замежныя і рускія кампазітары. Паэтычную апрацоўку псалмоў у рускай паэзіі пасля Сімяона Полацкага ў XVIII—XIX стст. працягвалі М. В. Ламаносаў, Г. Р. Дзяржавін, Ф. М. Глінка, М. М. Языкаў, А. С. Хамякоў.

⁴ *Давыд* — другі цар Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы XI ст. да н. э.,

малодшы сын міфічнага Іясея, жыхара палесцінскага г. Віфлеема. У юнацтве пасвіў авечак і вылучаўся выключным дарам іграў на арфе, дзякуючы гэтаму быў запрошаны ў царскі двор Саула для суцяшэння цара сваёй ігрой у час яго сумнага настрою. Тут ён стаў царскім збраяносцам, а неўзабаве і зяцем цара Саула. Перамога, атрыманая Давыдам у адзінаборстве з філісцімлянскім волатам Галіяфам, зрабіла яго народным героем, але стала прычынай варожых да яго адносін цара Саула, які схільны быў бачыць у ім свайго заклятага ворага і некалькі разоў імкнуўся яго знішчыць. Гэта вымусіла Давыда хавацца ад праследаванняў Саула на поўдні Палесціны, дзе ён стаў атаманам вольніцы, а потым паступіць на службу да філісцімлян. Пасля гібелі ў бітве з філісцімлянамі Саула і яго сыноў Давыд быў абвешчаны царом Іудзеі, да якой ён потым далучыў тэрыторыю ізраільскіх плямён, захапіў хананейскі г. Іерусалім, куды перанёс з Хеўрона сваю сталіцу, і стварыў моцную цэнтралізаваную Ізраільска-Іудзейскую дзяржаву. У мэтах павелічэння аўтарытэту сталічнага горада Давыд перанёс у Іерусалім так званы каўчэг запавету і ўвёў пры ім «правільнае» богаслужэнне. Ён аднавіў парушаную ў часы цара Саула сістэму грамадзянскага кіравання краінай, стварыў пад сваім старшынствам дзяржаўны савет з найбольш адданых яму людзей. Правёўшы рад пераможных войнаў з непакорнымі суседзямі, Давыд значна пашырыў тэрыторыю сваёй дзяржавы, якая дасягнула межаў Егіпта. У выніку краіна і яе сталіца значна ўзмацнелі і ўзбагаціліся. Іерусалім стаў упрыгожвацца палацамі. Давыд меў яшчэ намер пабудаваць у сталіцы пышны храм у гонар Іегавы, аднак міжусобіцы паміж яго шматлікімі шлюбнымі і пазашлюбнымі нашчадкамі перашкодзілі яму ажыццявіць да канца свае намеры. Ён пры жыцці толькі паспеў сабраць у Іерусалім для пабудовы храма вялізныя сумы грошай у золаце і срэбры, адмысловых рабочых і каменячосаў, нарыхтаваць шмат жалеза, медзі і кедравых дрэў. Пабудаваў жа храм яго сын Саламон, які нарадзіўся ад Вірсавіі, якую Давыд захапіў у свайго доблеснага воіна Урыі.

[5] *Ісус Хрыстос* (у перакладзе з грэчаскай азначае памазанік, месія) — міфічная асоба, «богачалавек», які, паводле новазапаветных легенд, прыняў пакутніцкую смерць, каб выкупіць людскія грахі і збавіць усё чалавецтва. Хрысціянская царква лічыць Ісуса Хрыста заснавальнікам свайго веравызнання і стварыла даволі грунтоўную біяграфію яго жыцця і дзейнасці, якая выкладзена ў тэкстах кананічных евангелляў ад Мацвея, Марка, Лукі і Іаана. Паводле гэтай легенды, нарадзіўся ён у палесцінскім г. Віфлееме ў часы панавання рымскага імператара Аўгуста. У дзяцінстве быў вывезены ў Егіпет, потым вярнуўся ў Палесціну і быў хрышчаны Іаанам Хрысціцелем. Сабраў вакол сябе 12 вучняў-апосталаў, з якімі хадзіў па Палесціне, прапаведуючы сваё вучэнне і творачы цуды. У Іерусаліме яго вучань Іуда прадаў свайго настаўніка за 30 срэбранікаў. Ісус быў асуджаны рымскім намеснікам Понціем Пілатам на пакаранне смерцю, распяты на крыжы і пахаваны. Аднак ноччу, як сцвярджаецца ў Бібліі, ён уваскрэс і ўзнёсся на неба. Насуперак гэтай евангельскай легендзе існавала іншая (яна пададзена рымскім пісьменнікам II ст. Цэльсамі ў Талмудзе), паводле якой Хрыстос з'яўляўся сынам Марыі і рымскага салдата Пантэры або Пандзіры, а не Іосіфа, і за сваё чараўніцтва быў забіты камянямі. Хрысціянскае багаслоўе II—IV стст. развіло евангельскую легенду аб Хрысце як сыне божым, у якой аб'яднала рысы чалавека і боскую прыроду.

У сувязі з існаваннем гэтых дзвюх легенд аб паходжанні Хрыста сярод рэлігіяведаў разгарэліся вострыя спрэчкі наконт гістарычнасці асобы Хрыста, у выніку чаго ўзніклі два асноўныя напрамкі: міфолагаў і гісторыкаў. Прадстаўнікі міфалагічнага напрамку лічаць асобу Хрыста міфічным вобразам, накшталт егіпецкага Асірыса. Некаторыя ў міфе пра Хрыста схільны бачыць своеасаблівы варыянт легенды пра Буду. Доказам міфалагічнай прыроды Хрыста для міфолагаў служаць галоўным чынам супярэчнасці ў евангельскіх апавяданнях пра яго, непраўдападобнае мноства прыпісваемых яму цудаў, адсутнасць звестак пра Хрыста ў грэка-рымскіх аўтараў I ст. і інш. Гістарычную ж сапраўднасць звестак пра Хрыста, якія ёсць у Іосіфа Флавія і Тацыта, яны ставяць пад сумненне. Прыхільнікі ж другога напрамку

прызнаюць Хрыста рэальнай гістарычнай асобай. Свае сцверджанні яны аргументуюць не толькі гістарычнымі дадзенымі Іосіфа Флавія і Тацыта, але і наяўнасцю антылегенды Цэльса, у якой апошні абвяргаў прыпісваемы Хрысту арэол святасці, але не адмаўляў існавання самой асобы Хрыста. Незалежна ад гэтых спрэчак трэба падкрэсліць, што вобраз Хрыста займаў надзвычай важнае месца ў сярэдневяковай літаратуры і мастацтве. Ён быў у цэнтры ўвагі многіх мастакоў эпохі Адраджэння, нават у значна пазнейшы час разглядаўся як маральны ідэал чалавека (Л. Талстой), як рэвалюцыянер-бунтар (К. Каўцкі), як герой-пакутнік (Э. Рэнан).

[6] *Полацк* — радзіма Францыска Скарыны, старажытны беларускі горад на р. Заходняя Дзвіна. Згадваецца яшчэ ў скандынаўскіх сагах. Першае летапіснае ўпамінанне аб ім адносіцца да 862 г. У 980 г. тут быў ужо свой самастойны князь Рагвалод. У XI—XII стст.— сталіца асобнага княства, буйны цэнтр культуры. У другой палавіне XIII ст. трапіў пад уладу літоўскіх князёў. У канцы XIV ст. Вітаўт ліквідаваў у Полацку княжацкі трон. У часы Скарыны — цэнтр ваяводства ў Вялікім княстве Літоўскім.

[7] *Марыя* — міфічная асоба. У хрысціянскай міфалогіі яна лічыцца маці Ісуса Хрыста. У евангеллях пра яе сказана, што яна была дачкою Іякіма з Назарэта і ў 14-гадовым узросце заручана са старцам Іосіфам. У выніку бязгрэшнага зачацця ад бога Марыя нарадзіла сына Ісуса Хрыста. Яна прысутнічала пры пакаранні яго смерцю і ва ўзросце 48 год памерла, а потым была забрана на неба. Культ маці-багіні, «заступніцы» чалавецтва, складаўся ў хрысціянстве пад уплывам язычніцкіх традыцый. У IV ст. яна была аб'яўлена хрысціянскімі багасловамі вельмі чыстай, вечна цнатлівай дзеваю, а на ўсяленскім саборы 431 г. афіцыйна прызнана багародзіцай. У яе гонар хрысціянская царква ўстанавіла рад рэлігійных свят і прысвяціла некалькі ікон. Вобраз маці-багародзіцы з дзіцем на руках быў шырока распаўсюджаны ў сярэдневяковым мастацтве і ў эпоху Адраджэння.

[8] *Асаф* (у Скарыны — Азаф) — адзін з першых спевакоў часу цара Давыда. Паводле Бібліі, быў сынам Левія, кіраваў хорам і нават ствараў псалмы. Так, у прыватнасці, яму прыпісваецца аўтарства псалмоў 49, 70—80 і 82. Пасада начальніка пеўчага хору пры цару Давыдзе, відаць, заставалася спадчыннай у родзе Асафа, бо пра яе ўпамінаецца і пасля смерці апошняга.

[9] *Еман* — славуты спявак часоў цара Давыда, кіраўнік пеўчага хору. Паводле біблейскай легенды, паходзіў з левітаў роду Каафа, быў сынам Іоля і ўнукам Самуіла.

[10] *Ефан* — адзін з галоўных спевакоў у часы Давыда. У некаторых кнігах Бібліі яго і Іудзіфуна прымаюць за адну асобу.

[11] *Іудзіфун* (у перакладзе з яўрэйскай мовы азначае: той, хто хваліць, услаўляе, славасловіць) — паводле біблейскай легенды, левіт з роду Мярары, вядомы спявак і празорлівец часоў Давыда, кіраўнік і заснавальнік пеўчага хору цара Давыда.

[12] *Ківот* — прадмет царкоўнага ўжытку, бажніца, якая ў грэчаскай праваслаўнай царкве ўяўляла сабой упрыгожаную драўляную скрыню або шафу.

[13] *Майсей* — міфічны прарок, якому прыпісваецца вызваленне старажытнаяўрэйскіх плямён ад прыгнёту іх егіпецкімі фараонамі. У Бібліі яму створана драматычная легенда, напоўненая шматлікімі жыццёвымі выпрабаваннямі, якія спадарожнічалі на ўсім шляху яго 120-гадовага жыцця. Паведамляецца, што нарадзіўся ён у Егіпце ў сям'і Амрама, праўнука Левія і праўнука яўрэйскага патрыярха Якава, у той час, калі егіпецкія фараоны, баючыся размнажэння яўрэяў пасля іх 200-гадовага знаходжання ў Егіпце, выдалі загад павівальным бабкам знішчыць народжаных яўрэйскіх хлопчыкаў, а іх трупы скідаць у р. Ніл. Маці Майсея Іахаведа доўгі час хавала яго, а калі далей хаваць дзіця дома стала немагчыма, паклала свайго сына ў засмаленым кошыку на беразе Ніла ў трыснягу. Тут яго знайшла дачка фараона і вырашыла захаваць яму жыццё. Яна аддала падкідыша на выхаванне сваёй маці, а пасля ўсынавіла яго. Атрымаўшы добрае выхаванне, Майсей з цягам часу ўзначаліў егіпецкае войска супраць эфіопаў, здабыў бліскучую над імі перамогу і заключыў выгадны для Егіпта дагавор. Гэта

адкрывала яму прамы шлях да царскага трона. Але аднойчы ён, не ведаючы свайго сапраўднага паходжання, заступіўся за пакрыўджанага яўрэя і забіў егіпцяніна, які здзекаваўся над сваёй ахвярай. Баючыся адказнасці за гэты ўчынак, які пагражаў яму смерцю, Майсей пакінуў двор фараона і знайшоў сабе прытулак у арабскага свяшчэнніка Іафара. Ажаніўшыся на дачцы апошняга Сапфоры, ён каля 40 гадоў праслужыў пастухом у свайго цесця. Калі бог заклікаў яго вызваліць яўрэйскі народ з егіпецкай няволі, Майсей спачатку адмовіўся ад такога даручэння, спасылаючыся на розныя цяжкасці і сваю нявартасць для выканання такой гістарычнай ролі. Але атрымаўшы ад бога запэўненне ў дапамозе, згадзіўся выканаць яго волю. Пераадольваючы ўсе цяжкасці і выпрабаванні, Майсей вывеў яўрэяў з Егіпта і павёў іх праз Чырвонае мора ў напрамку Палесціны. Аднак бог не дапусціў яўрэяў у абяцаную ім зямлю Палесціны за іх непаслушэнства і нараканні на Майсея, якога ён зрабіў для іх сваім заканадаўцам. Яны вымушаны былі разам з Майсеем на працягу 40 гадоў блукаць па пустынных месцах Сінайскага паўвострава, дзе і скончыўся яго жыццёвы шлях. Біблейскае паданне прыпісвае Майсею напісанне першых пяці кніг Бібліі («Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы» і «Другі закон»). Аднак археалагічныя адкрыцці цалкам адверглі біблейскую канцэпцыю «выхаду яўрэяў з Егіпта», а навуковая крытыка Бібліі даказала, што т. зв. Пяцікніжжа Майсея складалася на працягу стагоддзяў з розных частак і таму, зразумела, не магло быць напісана адным чалавекам.

[14] *Сінай* — горная частка паўднёвай тэрыторыі Сінайскага паўвострава, утворанага Суэцкім і Акабскім залівамі. Яна ўяўляе сабой скалісты краж, прарэзаны вузкімі бязводнымі цяснінамі.

[15] *Места Пражскае* — горад Прага — размешчана на берагах р. Влтавы. Як горад узнік на мяжы VIII—IX ст. на базе чатырох пасадаў. З X ст. Прага стала сталіцай Чэшскай дзяржавы, рэзідэнцыяй чэшскіх князёў і каралёў. У часы Скарыны яна была цэнтрам гусіцкага руху, чэшскай культуры, кнігадрукавання.

Кніга псалмоў Псалтыр, з якой пачынаецца серыя пражскіх выданняў Скарыны, у нашых айчынных кніжных фондах захавалася толькі ў 2-х экземплярах. Адзін знаходзіцца ў Ленінградзе ў аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (VIII. 2. 62 інв. № 3091), другі — у Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве (фонд Хлудава, 4). Найбольш поўны маскоўскі экземпляр, аднак і ў ім няма двух лістоў — 1 і 130. У ленінградскім жа экземпляры захавалася толькі прыкладна каля 60% друкаванага тэксту кнігі, астатняя частка рукапісная.

У абодвух экземплярах ёсць прыпіскі такога зместу: «А то ся стало накладом Богдана, Онкова сына, радци мѣста Виленского». Відаць, надпісы былі зроблены ў хуткім часе пасля выхаду кнігі з друку.

На л. 1, які захаваўся толькі ў ленінградскім экземпляры, змешчана тэматычная гравюра з наступным подпісам: «Сій ест корень Иесеов, с него же изыде царь Давыд и Саломон и иные цари Израилевы, и господь наш Ісус Христос».

Адваротная старонка л. 1 у Псалтыры, выдадзеным Скарынам, тытульная. На ёй злева ў верхнім вугле ў чорнай рамцы змешчан невялікі партрэт легендарнага цара Давыда ў мантыі з каронай на галаве і прасцёртымі ўгору рукамі. Пад гравюрай загаловак кнігі: «Песни царя Давыда, еже словуть Псалтыр». Прадмова Скарыны пачынаецца з л. 2 і заканчваецца на л. 4 адв.

Тэкст Псалтыра пачынаецца з л. 5, на якім зверху змешчана сімвалічная застаўка ў выглядзе літары «П». У левай частцы застаўкі намалявана галава мужчыны, а ў правай — галава жанчыны, абкружанай вянкамі. Пасярэдзіне гравюры над праёмам намаляван збан з кветкамі, а ўнізе ў светлым праёме застаўкі змешчан спецыфічны друкарскі знак Скарыны — сонца з месяцам. Мастацкае афармленне ўсёй застаўкі выканана ў т. зв. тэраталагічным стылі. З левага боку пад загалоўкам да тэксту псалмоў паўторана гравюра цара Давыда з л. 1 адв.

## Кніга «Іоў»

[1] *Кніга «Іоў»* — адна з кніг Бібліі, якая атрымала сваю назву па імені яе галоўнай дзеючай асобы, міфічнага прапаведніка Іова. Як помнік старажытнай літаратуры яна ўяўляе сабой своеасаблівы рэлігійна-філасофскі трактат, напісаны невядомым аўтарам у форме мастацкага твора дыдактычна-павучальнага характару. У кнізе змешчаны самыя разнастайныя звесткі, па якіх можна меркаваць аб норавах і звычаях людзей першабытнаабшчыннага ладу, аб стане іх ведаў і рамёствах той далёкай ад нас эпохі. Так, у прыватнасці, яна змяшчае ў сабе звесткі пра іх знаёмства з гарнаруднай справай і ўмельства здабываць золата, срэбра, медзь і жалеза непасрэдна з руды, што з'яўляецца сведчаннем даўнасці гэтага віду промыслаў. Кніга «Іоў» сведчыць і аб веданні яе аўтарам міжнародных гандлёвых зносін, дзякуючы якім наладжваліся ўзаемасувязі паміж Індыяй, Фінікіяй, Егіптам і іншымі краінамі Блізкага Усходу. Тут падаюцца неабходныя для арыентацыі ў час далёкіх падарожжаў астранамічныя звесткі пра нябесныя сузор'і Вялікай Мядзведзіцы, Сірыуса, Арктура, Плеяд і інш. На старонках гэтай кнігі можна таксама сустрэць жывыя малюнкі розных з'яў прыроды, апісанні прадстаўнікоў жывёльнага царства і птушак. Кніга «Іоў» хутчэй за ўсё ўзнікла ў перыяд т. зв. вавілонскага палону, г. зн. у VI ст. да н. э.

Галоўная ідэя кнігі, што пранізвае ўвесь вобраз шматпакутнага Іова, які цярпліва перанёс усе пасланыя яму жыццёвыя выпрабаванні і не згубіў веру ў магутную сілу, дабравольнасць і справядлівасць «творцы»,— гэта тэзіс аб неабходнасці пакарацца лёсу. Выключную вытрымку, нягледзячы на ўсе насланыя на яго няшчасці, праяўляе Іоў: арабы-качэўнікі забралі ў яго ўсю жывёлу, маланкай пабіла яго авечак і пастухоў, халдзеі захапілі яго вярблюдаў і пасеклі мячамі паганятых, а вецер разбурыў яго дом і пахаваў пад разваліна́мі яго семярых сыноў і трох дачок. Гэта рабская пакорлівасць лёсу, звышцярплівасць галоўнага героя найбольш адпавядалі і адпавядаюць ідэалагічным задачам духавенства і царквы, якія імкнуліся і імкнуцца навязаць працоўным масам класавы мір і паслухмянасць. Апалагеты артадаксальнага хрысціянства адводзяць кнізе «Іоў» важную ролю ў выхаванні паслухмянага ім насельніцтва.

[2] *Якаў* — у новазапаветных легендах Бібліі адзін з апосталаў, вучань Ісуса Хрыста, старэйшы брат евангеліста Іаана Багаслова, сын галілейскага рыбака Завадзея. Ён быў сведкам здзейсненых Ісусам Хрыстом розных цудаў і яго пакут. За ўзначальванне ў Іерусаліме хрысціянскай абшчыны Якаў прыняў пакутніцкую смерць ад цара Ірада Агрыпы, унука Ірада Вялікага: яму адсеклі галаву. Хрысціянская традыцыя прыпісвае гэтаму апосталу аўтарства аднаго саборнага паслання.

Кніга «Іоў» захавалася да нашых дзён у значна большай колькасці экземпляраў, чым Псалтыр Францыска Скарыны. Яна дайшла да нас у 12 экземплярах, якія зберагаюцца ў розных кнігасховішчах Савецкага Саюза. Перад прадмовай да гэтай кнігі змешчана віньетка, ■ тэматычная гравюра з тытульнага ліста паўторана перад пачаткам тэксту самой кнігі, які, важна адзначыць, адкрываецца ў Скарыны раздзелам «О житии светого Иова и о роде его выписуется», што адсутнічае ў кананічным «Іове». У якасці эпіграфа да гэтага выдання Скарына змясціў наступны свой верш

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению.

## Кніга «Прытчы Саламона»

[1] *Іаан Багаслоў* — біблейскі апостал, сын галілейскага рыбака Завадзея і Саламіі, адзін з самых блізкіх і любімых вучняў Ісуса Хрыста, яго давераная асоба. Яму Хрыстос даручае апеку над сваёй пакутуючай маці. Леген-

дарную біяграфію гэтага апостала хрысціянская царква ўзмацніла радам цяжкіх выпрабаванняў, якія яму давялося перанесці за час свайго доўгага жыцця. Іаан церпіць розныя праследаванні, зняволенні, ссылкі, спробы атруціць і нават зварыць у катле з кіпячым маслам, з якога ён выйшаў «цэлым і здаровым». Гэта драматызацыя рабілася для таго, каб падкрэсліць яго выключную стойкасць і вернасць вучэнню свайго настаўніка. Гэтаму «жывому сведку» зямнога жыцця, пакутлівай смерці і «ўваскрэсення» заснавальніка хрысціянскага веравучэння прыпісваецца аўтарства аднаго з кананічных тэкстаў Евангелля, трох саборных пасланняў і тэкст «Апакаліпсіса», нібыта створанага ім у час зняволення на востраве Патмас у Эгейскім моры, хоць у сапраўднасці яны — творы розных аўтараў.

[2] *Евангелле* — у перакладзе з грэчаскай мовы азначае: добрая вестка. Як царкоўна-рэлігійны тэрмін ужываецца да твораў новазапаветнага зводу кананічных кніг Бібліі, у якіх апавядаецца пра зямное жыццё і выкладаюцца дагматы Ісуса Хрыста — легендарнага заснавальніка хрысціянства. Навуцы вядома значная колькасць твораў гэтага тыпу, якія царква падзяляе на дзве групы. Да першай з іх яна адносіць тэксты чатырох апосталаў, а іменна: Евангелле ад Мацвея, з ліку 12 вялікіх апосталаў Ісуса Хрыста; Евангелле ад Марка, з ліку 70 меншых апосталаў, які быў спадарожнікам вялікага апостала Пятра; Евангелле ад Лукі, з ліку меншых апосталаў, спадарожніка вялікага апостала Паўла; Евангелле ад Іаана, з ліку вялікіх апосталаў. Тэксты гэтых евангелляў яна прызнала і ўнесла ў канон кніг Новага запавету Бібліі. Тэксты іншых евангелістаў (назарэяў, іудзеяў, Нікадзіма, Фамы, Якава і інш.) царква адвяргае і лічыць іх апакрыфічнымі, г. зн. ерэтычнымі, не маючымі права на існаванне ў новазапаветным зводзе Бібліі.

Навуковая крытыка, заснаваная на грунтоўным тэксталагічным даследаванні кананічных кніг Евангелляў, пераканаўча паказала, што скарбніцай царкоўных легенд пра «цуды» Ісуса Хрыста былі самыя разнастайныя крыніцы, скампанаваныя ў II—III стст. у перыяд узнікнення самой хрысціянскай царквы і афармлення яе веравызнання. Галоўнай жа крыніцай евангельскага апісання жыцця месіі Хрыста паслужылі шматлікія міфы усходніх язычаскіх рэлігій аб паміраючых і ўваскрасаючых багах, якія ў значнай частцы былі разбаўлены запазычаннямі з біблейскіх сказанняў пра Майсея, Ісуса Навіна і іншымі старазапаветнымі прароцтвамі, а некаторыя эпізоды былі спецыяльна прыдуманы для таго, каб даказаць, што жыццё Ісуса Хрыста было нібыта здзяйсненнем месіянскіх прароцтваў Старога запавету Бібліі.

Прасочваючы зямную «гісторыю» жыцця Ісуса Хрыста, навуковая крытыка звярнула асаблівую ўвагу на розныя супярэчнасці, недарэчнасці і выдумкі, якімі напоўнены тэксты кананічных евангелляў, змест якіх хрысціянскія багасловы выдаюць за гістарычную праўду і ісціну ў апошняй інстанцыі. Яна пераканаўча паказала, што аўтары кананічных евангелляў праявілі дрэннае веданне гісторыі і геаграфіі Палесціны пачатку н. э. Так, евангелісты сцвярджаюць, што нараджэнне Ісуса Хрыста нібыта адбылося ў часы панавання іудзейскага цара Ірада, хоць апошні памёр у 4 г. да н. э. Недарэчнымі з'яўляюцца і ўпамінанні евангелістамі Назарэта, Капернаума і іншых гарадоў і мястэчак, якіх яшчэ не было ў I ст., калі, паводле сцверджання хрысціянскіх багасловаў, ствараліся тэксты кананічных евангелляў.

Самыя розныя факты даюць падставу сцвярджаць, што кананічныя евангеллі ствараліся ў розны час і адлюстравалі адрозненні ў тэндэнцыях розных палітычных і этнічных груп насельніцтва, што яны з'яўляюцца вынікам шматразовых перапрацовак, якія рабіліся ў працэсе барацьбы паміж рознымі сектамі і плынямі ў розных месцах. Самым раннім па часе свайго ўзнікнення, відаць, трэба лічыць тэкст Евангелля ад Марка, паколькі ў ім ёсць намёкі на іудзейскае паўстанне 66—70-х гадоў. Час яго стварэння можна аднесці на 70-я гады. Кароткі тэкст гэтага Евангелля паслужыў крыніцай для евангелляў ад Мацвея і Лукі. Наяўнасць у яго тэксце значнай колькасці лацінізмаў дала падставу хрысціянскаму багаслову Кліменту Александрыйскаму (II—III стст.) меркаваць, што напісана яно было за межамі Палесціны, магчыма, у Рыме. Узнікненне ж Евангелля ад Мацвея навуковая літаратура звязвае з Сірыяй, як і тэкст Евангелля ад Іаана, які, паводле цар-

коўнай традыцыі, чамусьці прывязваецца да Эфеса. Запісы ж Евангелля ад Лукі адносяцца да розных месц ад Кесарыі да Рыма. Тэксты кананічных евангелляў не былі перакладамі з арамейскай мовы, бо пісаліся на т. зв. кайнэ грэчаскай мовы эпохі элінізму. Самае апошняе па часе свайго напісання Евангелле ад Іаана адлюстравала ў сабе пэўныя рысы агнастыцызму, якія не ўласцівы тром іншым кананізаваным у IV ст. хрысціянскай царквою евангеллям. Яно пазбаўлена шматлікіх грубых «цудаў» і больш рацыяналізавана.

[3] *Прытча* — старажытны дыдактычна-алегарычны жанр фальклору і літаратуры, вельмі блізкі да байкі. Характэрныя асаблівасці — бытаванне толькі ў пэўным кантэксце, адсутнасць развітага сюжэту і цяга да глыбокай «прамудрасці» павучальнага характару. Яна можа рэдуцыравацца, г. зн. спрашчацца, да звычайнага параўнання, але захоўваць пры гэтым сваю змястоўнасць.

Найбольшае развіццё прытча атрымала ў краінах Блізкага Усходу, дзе была надзвычай папулярным жанрам і адкуль разам з Бібліяй аказалася перанесенай у раннехрысціянскія і сярэдневяковыя еўрапейскія літаратуры. Яе дзеючыя асобы не маюць ні сваіх знешніх рыс, ні характару і паўстаюць перад чытачом не як аб'екты мастацкіх назіранняў, а як суб'екты этычнага выбару пісьменніка. Прытчы былі папулярным жанрам і ў старажытнарускай літаратуры, сведчаннем чаго з'яўляюцца зборнікі «Пчала», «Ізмарагд», «Рымскія дзеі», перакладная аповесць пра Варлаама і Іасафа, дыдактычныя творы Кірылы Тураўскага і інш. На Беларусі бытавалі розныя пісьмовыя і вусныя прытчы. На сюжэт вядомай евангельскай прытчы Сімяон Полацкі напісаў «Камедыю пра блуднага сына». Лаканізм, прастату і выразнасць адлюстравання рэчаіснасці праз алегорыю, этычны дыдактызм гэтага жанру выкарыстоўвалі розныя пісьменнікі новага часу.

[4] *Саламон* — (старажытнаяўр. Шалома) трэці цар Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы ў перыяд яе найвышэйшага росквіту, сын цара Давыда і Вірсавіі. Спачатку быў суправіцелем бацькі (у 967—965 гг. да н. э.), а потым стаў пераемнікам трону і кіраваў да 928 г. Пры ім старажытнаяўрэйская рабаўладальніцкая дзяржава дасягнула свайго росквіту. Ажыццявіў адміністрацыйна-тэрытарыяльную рэформу і замест былога племяннога падзелу краіны ўвёў у ёй сістэму акруг, дзякуючы якой стварыўся разгалінаваны адміністрацыйны апарат. Устанавіў цвёрдую сістэму падаткаў, працоўную і воінскую павіннасці, ажыццяўляў шырокае будаўніцтва гарадоў, умацаваў сталічны Іерусалім, а для ўзвышэння яго дзяржаўна-палітычнага значэння і цэнтралізацыі культу бога Яхве пабудаваў у сталіцы пышны храм, які быў задуманы яшчэ яго бацькам Давыдам. Пабудова гэтага храма мела вялікі ўплыў на развіццё навукі, мастацтва, рамёстваў і грамадскага жыцця, бо цэнтралізацыя культу Яхве пацягнула за сабой рост культуры і грамадскага дабрабыту. Пры ім пачалі пашырацца распрацоўка медных руднікоў і развіццё самых разнастайных і прафесійна разгалінаваных промыслаў.

Заключэнне дыпламатычных саюзаў з суседнімі дзяржавамі забяспечыла Саламону і краіне мірныя ўмовы жыцця, а яго шлюб з дачкой егіпецкага фараона садзейнічаў умацаванню міжнароднага становішча дзяржавы і шырокаму развіццю знешняга гандлю. Але марнатраўны і далёка не пурытанскі вобраз жыцця самаго кіраўніка, які клапаціўся толькі аб тым, каб праславіцца сваёй мудрасцю і раскошай, ваеннымі калясніцамі і вялізнымі гарнізонамі коннага войска, шматлікімі целаахоўнікамі, побач з шырокім фронтам будаўнічых работ, сістэмай абавязковых падаткаў, працаёмкіх і знясільваючых працоўных павіннасцей прывялі да росту незадаволенасці насельніцтва, асабліва сярод паўночных плямён Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы. Ужо пры жыцці цара Саламона пачаліся паўстанні эдаміцян і арамеян, а пасля яго смерці выбухнула паўстанне, у выніку якога адзіная Ізраільска-Іудзейская дзяржава спыніла сваё далейшае існаванне і на яе тэрыторыі ўзніклі два незалежныя царствы — Ізраільскае і Іудзейскае.

Біблейскія прытчы, аўтарства якіх традыцыя прыпісвае Саламону, у многіх выпадках былі на самай справе запазычаны са старажытнаегіпецкіх крыніц.

[5] *«Эклезіяст»* — у перакладзе са стараяўрэйскай мовы — прапаведнік. Назва адной з кніг Бібліі старазапаветнага зводу, аўтарам якой традыцыйна лічыцца цар Саламон. Асноўны змест кнігі — роздум аб сэнсе, марнасці і нікчэмнасці жыцця, якое характэрна сваім непастаянствам і зменлівасцю. Яно, сцвярджаецца ў творы, у адрозненне ад вечнага і нязменнага нябеснага жыцця не можа прынесці чалавеку душэўнага супакаення і задаволенасці, не можа даць шчаслівай асалоды, бо ў ім пануюць няпраўда і злачынствы, якія выклікаюцца спрадвечнай пагоняй чалавека за ўяўным і карыслівым шчасцем на зямлі і забыццём безумоўнага выканання боскіх запаветаў. Адсюль абавязак кожнага чалавека, на думку аўтара «Эклезіяста», не захапляцца празмерна зямнымі клопатамі, справамі, інтарэсамі і не шукаць у іх сваё шчасце. Яму трэба быць шчырым і пакорлівым выканаўцам боскай волі, не грашыць, не абурацца нягодамі жыцця і не наракаць, а пасіўна аддацца на волю лёсу, пастаянна слухацца бога, глыбока верыць у яго ўсемагутнасць і справядлівасць, жыць са страхам божым, каб заслужыць «вечнае збавенне». У гэтым і заключаецца рэакцыйная сутнасць галоўнай ідэі кнігі «Эклезіяст», якую царква імкнецца выдаць за «Свяшчэннае пісанне». Разам з тым «Эклезіяст» змяшчае і рад цікавых і дасціпных філасофскіх афарызмаў, мудрых выказванняў.

[6] *Езекія* — імя гэтага біблейскага героя ў перакладзе са старажытнаяўрэйскай мовы азначае: моц, сіла боская. Паводле біблейскага падання, быў адным з найбольш мудрых і набожных цароў іудзейскіх, які рупліва працягваў дзяржаўныя і царкоўна-рэлігійныя справы свайго продка цара Давыда. У прыватнасці, ён аднавіў «праўдзівае богаслужэнне» і зрабіў традыцыяй святкаванне вялікадня не толькі сярод іудзеяў, але і ў асяроддзі ізраільцян. Пры ім гэта свята адбывалася з такім бляскам і ўрачыстасцю, якіх не ведаў Іерусалім з часоў панавання цара Саламона. У імя аднаўленай традыцыі ён знішчыў усе існаваўшыя помнікі ідалапаклонства і не пашкадаваў нават меднага змея Майсея, які стаў прадметам забабоннага пакланення. Езекія ўмацаваў таксама абарону Іерусаліма і зрабіў яго непрыступным для знешніх ворагаў, заснаваў у горадзе водаправод. А калі назапасіў мноства зброі і падрыхтаваў военачальнікаў, ён адмовіўся прызнаваць уладу асірыйскага цара. Па сцверджанню Бібліі, панаванне Езекіі было адным з выдатных перыядаў у гісторыі Іудзейскага царства.

[7] *Ісоп (ісопф)* — род шматгадовых травяністых раслін або паўкустоў сямейства губакветных з вострым бальзамічным пахам. Распаўсюджан па ўсёй тэрыторыі Палесціны. Яшчэ ў старажытныя часы гэта расліна ўжывалася для акраплення пасхальнага ягняці, вушакоў і парогаў жытла, для ачышчэння пракажоных людзей, розных рэчаў і г. д.

[8] *Ісус Сірахаў* — пад гэтым імем у Бібліі вядомы дзве асобы. Першы з іх — пісьменнік, які жыў у Іерусаліме і пакінуў пасля сябе на стараяўрэйскай мове зборнік мудрых жыццёвых выслоўяў — «Книгу премудрости Исуса, сына Сирахова». Зборнік гэты ў арыгінале не захаваўся, а да нас дайшоў толькі ў перакладзе на грэчаскую мову, зробленым яго ўнукам, таксама Ісусам Сірахавым, які жыў у Егіпце, у Александрыі ў III ст. да н. э. Гэта кніга, хоць і носіць сляды несумненнага грэчаскага ўплыву, разам з тым выяўляе даволі блізкую сувязь з іншымі часткамі Старога запавету, асабліва з «законамі» Майсея і кнігамі прарокаў, прасякнута іх духам і імкнецца ўнесці гэты дух строгіх правіл для ўсіх саслоўяў на розныя выпадкі асабістага, сямейнага і грамадскага жыцця. У складзе праваслаўнай Бібліі гэты зборнік выслоўяў Ісуса Сірахава падаецца ўслед за кнігамі Саламона.

[9] *Іерусалім* — старажытны горад Палесціны, размешчаны на захад ад Мёртвага мора і р. Іардан. Першыя звесткі аб ім адносяцца да XV ст. да н. э. Да пачатку X ст. стаў сталіцаю старажытнаяўрэйскай дзяржавы Ізраіль, а каля 935 г. да н. э. — сталіцай Іудзеі. У часы панаванняў Давыда і Саламона горад перажываў свой росквіт, славіўся сваімі палацамі і культавымі будынкамі, добра ўмацаванымі крапаснымі сценамі і вежамі. Найбольш выдатным з гэтых помнікаў быў храм Саламона (X ст. да н. э.), які вызначаўся багаццем дарагога мастацкага аздаблення. Вытанчанай раскошай славіўся і сам палац Саламона, які ўяўляў сабою комплекс будынкаў і два-

роў, аб'яднаных рознымі пераходамі. У 586 г. да н. э. Іерусалім быў захоплены і разбураны вавілонскім царом Навуходаносарам II. Аднаўленне яго пачалося праз паўстагоддзе, пасля заваявання горада ў 538 г. персідскім царом Кірам. У 320 г. ён быў заваяваны Пталамеем Лагам, военачальнікам славутага Аляксандра Македонскага, а ў 63 г. да н. э.— рымлянамі. Новы ўздым будаўніцтва тут прыпадае на часы панавання цара Ірада (другая палавіна I ст. да н. э.). У часы Іудзейскай вайны (66—73 гг. н. э.) горад зноў быў разбураны, а ў 70-х гадах — рымлянамі. Ад славутага калісьці храма Саламона захавалася толькі знешняя сцяна, т. зв. сцяна плачу. У IV ст. у часы панавання візантыйскага імператара Канстанціна Іерусалім стаў хрысціянскім «свяшчэнным цэнтрам». У 614 г. горад быў заваяваны персамі, і ў 638 г.— арабскім халіфам Амарам, пасля якога стаў другім пасля Меккі «свяшчэнным» месцам мусульман, горадам трох вераванняў — іудзейскага, хрысціянскага і мусульманскага, месцам паломніцтва шматлікіх веруючых.

Трэцяя па парадку выхаду з друку кніга Скарыны «Прытчы Саламона» захавалася ў 14 экземплярах. Яна адкрываецца тэматычнай гравюрай, змешчанай на тытульным лісце. Пад ёю подпіс: «Первый суд, еже судил Саломон царь две жене блудъници о двоих детех». Прадмова ў кнізе ўпрыгожана дзвюма віньеткамі, адна з іх размешчана гарызантальна, другая вертыкальна на ўсю даўжыню старонкі з левага боку ліста. Гравюра тытульнага ліста паўторана Францыскам Скарынам на л. 5 кнігі і суправаджаецца словамі: «Саломон хвалить пожиток деля того, абы послухати мудрости, наказываеть, абы есмо за грешными не ходили, и мудрость к нам вопиеть».

## Кніга «Ісус Сірахаў»

[1] *Пталамей III, па мянушцы Евергет,* што ў перакладзе азначае дабрадзей,— прадстаўнік элліністычнай дынастыі цароў Лагідаў, якая панавала ў Егіпце з 305 да 30-х гадоў да н. э. Егіпецкі трон займаў з 246 да 221 г. У час яго панавання да Егіпта зноў былі далучаны Сірыя, Кілікія і рад гарадоў. Толькі мяцеж ў Егіпце прымусіў яго закончыць трэцюю сірыйскую вайну з Селеўкідамі, якая дала яму вялікую здабычу, мноства каштоўных рэчаў, у ліку якіх былі і свяшчэнныя відарысы егіпцян, захопленыя Камбізам пры заваяванні Егіпта. За вяртанне іх Пталамей III і атрымаў мянушку Евергета (Дабрадзея). Пераможная вайна забяспечыла Егіпту першынства сярод іншых краін таго часу, вывела яго ў гегемоны на марскіх шляхах. Аднак пад канец панавання Пталамея III Евергета Егіпет паступова стаў губляць частку сваёй магутнасці.

[2] *Елеазар* — у перакладзе са старажытнаяўрэйскай мовы азначае: боская дапамога. Па версіі, выкладзенай у трэцяй кніге Макавеяў, на якую тут абапіраецца Францыск Скарына,— гэта іерусалімскі першасвяшчэннік часоў нашэсця на Іудзею егіпецкага цара Пталамея Філапатара, сына военачальніка і зводнага брата Аляксандра Македонскага Пталамея Лага, па мянушцы Сотэра (Збавіцеля), які заклікаў насельніцтва Іудзеі шукаць выратавання ад непрыяцеля ў малітве да бога, што нібыта і прынесла ім цудоўнае выратаванне ад Пталамея Філапатара.

[3] *Пталамей II Філадэльф,* празваны так за выключную любоў да сваёй жонкі-сястры,— егіпецкі цар, які з 285 да 283 г. да н. э. спачатку кіраваў дзяржавай сумесна з бацькам Пталамеем Сотэрам, а потым да 246 г. кіраваў самастойна. Для свайго часу меў бліскучую адукацыю. У знешняй палітыцы імкнуўся пазбягаць барацьбы і дзейнічаў шляхам перагавораў і шлюбаў. Так шлюбам сына Пталамея Евергета з дачкою свайго брата Мага яму ўдалося набыць уладу над Кірэнай, якой кіраваў Маг, стварыць магутны флот, а потым далучыць да Егіпта рад тэрыторый у Малой Азіі ў басейне Эгейскага мора. Пасля другой сірыйскай вайны (266—263 гг.) ён утрымліваў пад сваёй уладай ужо Фінікію, Лікію, Карыю і шмат прыбярэжных гарадоў, умешваўся ў дзяржаўныя справы Грэцыі. Пры ім сталічны г. Александрыя стаў буйнейшым гандлёвым, рамесніцкім і культурным цэнтрам элінізаванага Міжземнамор'я. Царскі двор Пталамея II Філадэльфа быў месцам прытулку

для многіх вядомых тагачасных грэчаскіх вучоных і паэтаў, сярод якіх былі Калімах, Феакрыт, Манефон, Эратасфен, Заіл і інш. Сам цар з'яўляўся вялікім бібліяфілам. Менавіта ў часы яго панавання ўзнялася слава Александрыйскай бібліятэкі, кніжныя фонды якой настолькі разрасліся, што Пталамей Філадэльф быў вымушаны пабудаваць для яе новы будынак. Ён узводзіў багатыя і пышныя палацы, будаваў гарады, рэстаўрыраваў і аздабляў храмавыя пабудовы. Толькі забойства яго дачкі Веранікі, выдадзенай замуж за Антыёха II, прымусіла яго развязаць трэцюю сірыйскую вайну (247—239 гг. да н. э.), якую паспяхова завяршыў Пталамей III Евергет, яго сын.

[4] *Александрыя* — важнейшы гандлёвы і культурны цэнтр Егіпта на беразе Міжземнага мора ў дэльце р. Ніл, зараз адміністрацыйны цэнтр губернатарства. Пабудаваны быў Аляксандрам Македонскім у 332—331 гг. да н. э. Дзякуючы свайму зручнаму размяшчэнню горад хутка развіваўся і пасля смерці свайго заснавальніка стаў сталіцаю грэка-егіпецкай дзяржавы Пталамеяў і цэнтрам эліністычнай культуры. З 30-х гадоў да н. э. у складзе Рымскай імперыі. Надзвычай вялікае значэнне Александрыя іграла ў культурным і рэлігійным жыцці антычнага свету. У першыя стагоддзі ранняга сярэдневякоўя яна яшчэ прадаўжала заставацца адным з цэнтраў грэчаскай навуковай думкі, буйным гандлёва-прамысловым цэнтрам Візантыйскай імперыі, пад уладай якой яна знаходзілася з канца IV ст. н. э. Александрыя разам з тым была і адным з галоўных цэнтраў ранняга хрысціянства і манаства. Менавіта тут у IV ст. патрыярх Афанасій Александрыйскі ўзначаліў рэлігійную барацьбу супраць вучэння Арыя. А мясцовыя манахі-хрысціяне ў помсту за разбурэнне храма спалілі славутую Александрыйскую бібліятэку з усімі яе велізарнымі для таго часу кніжнымі фондамі. У VII ст. Александрыя была заваявана арабамі, а пасля заснавання імі ў 969 г. Каіра наступіў яе заняпад.

[5] *Аляксандр Македонскі* (21. VI 356—13. III 328 гг. да н. э.) — адзін з найвялікшых палкаводцаў і дзяржаўных дзеячаў старажытнага свету, сын македонскага цара Філіпа II і Алімпіі, дачкі эпірскага князя Неапталема. Атрымаў добрае выхаванне і выдатную адукацыю (яго настаўнікам быў славуты грэчаскі філосаф Арыстоцель), ваеннай жа падрыхтоўкай здольнага юнака займаўся сам бацька. Свае ваенныя здольнасці і мужнасць Аляксандр упершыню праявіў у 338 г. у бітве пры Херанеі (дзе разграміў войска фіванцаў), якой завяршылася заваяванне Грэцыі Македоніяй. Пасля гібелі бацькі, забітага ў 335 г., заняў царскі трон. Кіраўніцтва дзяржавай пачаў ваеннымі паходамі супраць суседніх паўночна-заходніх плямён (ілірыйцаў, трыбалаў, гетаў і інш.), якіх разбіў і прымусіў прызнаць македонскае панаванне. Вясной 334 г. яго грэка-македонская армія пад камандай вопытных і здольных палкаводцаў пераправілася праз Гелеспонт (сучасныя Дарданелы) у Малую Азію на вайну з Персіяй (Іранам) і пры адноснай сваёй малалікасці ў параўнанні з персамі, але дзякуючы сваім высокім баявым якасцям, арганізаванасці, вопытнасці і тэхнічнай аснашчанасці нанесла паражэнне войску персідскага цара Дарыя III (336—330 гг.), самога цара прымусіла ратавацца ўцёкамі з месца бітвы. Спробы Дарыя III узяць рэванш у 338 г. закончыліся беспаспяхова. Грэчаскія гарады, якія імкнуліся вызваліцца ад персідскай няволі, без супраціўлення здаваліся Аляксандру Македонскаму.

Пасля гэтай перамогі над персамі дваццацічатырохгадовы палкаводзец хутка пакарыў Фінікію і захапіў парты ўсходняга пабярэжжа Міжземнага мора, што забяспечыла яму панаванне на моры. Зімой 332—331 гг. без бою заняў Егіпет, дзе мясцовыя жрацы афіцыйна абвясцілі Аляксандра Македонскага сынам бога Амона і прызналі яго сваім фараонам. У гонар такога поспеху ён у дэльце Ніла заснаваў горад Александрыю. З Егіпта Аляксандр Македонскі накіраваў свае войска ў Месапатамію, дзе ў бітве пры Гаўгамелах зноў перамог значна большыя сілы персаў. Гэта перамога прывяла да забойства Дарыя III у 330 г. адным з сатрапаў апошняга, а вялікую персідскую дзяржаву Ахеменідаў — да канчатковага развалу. У выніку гэтага Аляксандр заняў сталіцы персідскіх цароў Вавілон, Сузы, Персепаль, Экта-базу, захапіў вялізныя багацці і аб'явіў сябе законным пераемнікам Дарыя III на персідскім троне. На працягу 329—328 гг. ён з цяжкасцю пакарыў

Сярэднюю Азію, пасля чаго вясной 327 г. пачаў свой індыйскі паход, у час якога разбіў войска кіраўніка Пенджаба Пора і меў намер пайсці далей у даліну р. Ганг. Але зморанае паходамі і знясіленае хваробамі войска запярэчыла, і ён вымушаны быў вярнуцца ў Вавілон, які зрабіў сталіцай сваёй дзяржавы. У час падрыхтоўкі да новага паходу раптоўна памёр: па адной версіі ад малярыі, па другой стаў ахвярай палітычнай змовы.

Створаная ім у выніку пасяпаховых ваенных паходаў дзяржава была самай вялікай у старажытным свеце, яе межы працягваліся ад р. Дунай да р. Інд. Аднак пазбаўленая цесных унутраных сувязей, яна хутка развалілася пасля смерці цара-заваёўніка і на яе тэрыторыі ўзнік рад эліністычных дзяржаў. Незвычайны вобраз Аляксандра Македонскага яшчэ ў старажытнасці паслужыў пісьменнікам для розных гісторыка-прыгодніцкіх твораў, якія былі шырока распаўсюджаны ў літаратуры Грэцыі, Рыма, Блізкага Усходу і Кіеўскай Русі. Сярод іх асаблівай папулярнасцю карыстаўся раман «Александрыя», які чытаў і Скарына.

[6] *Іардан* — галоўная рака Палесціны, якая бярэ свой пачатак з падножжа горнага масіву Хармон, працякае па паўпустыннай упадзіне Гхор праз азёры Хула і Тыверыядскае і ўпадае ў Мёртвае мора, узровень якога на 394 м ніжэй за Міжземнае мора. Моцнае падзенне вады і нязначная яе глыбіня робяць раку несудаходнай. З гэтай ракой у Бібліі звязаны шмат якія падзеі «Свяшчэннай гісторыі».

[7] *Арыстоцель* (384—322 да н. э.) — славуты грэчаскі філосаф і вучоны, якога К. Маркс называў найвялікшым мысліцелем старажытнасці. Нарадзіўся ў Стагіры, грэчаскай калоніі ў Фракіі. Каля 20 гадоў правёў у Афінскай акадэміі, філасофскай школе Платона, спачатку вучнем, а пасля паўнапраўным членам. Тры гады быў настаўнікам Аляксандра Македонскага. Пасля смерці Платона (347 г. да н. э.) адкрыў у Афінах сваю філасофскую школу. Напісаў шмат твораў, у якіх ахапіў усе галіны тагачасных філасофскіх і навуковых ведаў: логіку, філасофію, прыродазнаўства, гісторыю, палітыку, этыку, літаратуру, эстэтыку. Ф. Энгельс лічыў яго самым універсальным сярод старажытнагрэчаскіх філосафаў мысліцелем, які даследаваў «істотныя формы дыялектычнага мыслення», аднак паводле агульнага светапогляду хістаўся паміж матэрыялізмам і ідэалізмам. У эстэтычных поглядах падкрэсліваў пазнавальнае значэнне і сацыяльную функцыю мастацтва. У сацыялогіі і палітыцы ён быў выразнікам інтарэсаў сярэднезаможных класаў рабаўладальніцкай дзяржавы, якую лічыў вечнай, а падзел людзей на рабоў і рабаўладальнікаў — адпавядаючым законам прыроды. Найлепшай формай дзяржавы лічыў умераную дэмакратыю. Арыстоцель з'явіўся заснавальнікам фармальнай логікі, стваральнікам сілагістыкі, якія паслужылі філасофскай асновай схаластыкі. Пасля смерці Аляксандра Македонскага, якога ён вучыў палітыцы і філасофіі, Арыстоцель вымушаны быў пакінуць Афіны, ратуючыся ад праследавання па абвінавачванню ў злачынстве супраць рэлігіі. Памёр ён у 322 г. да н. э. у Халкідзе на Эўбеі. На тэрыторыі Беларусі Арыстоцель быў вядомы яшчэ з часоў Кіеўскай Русі, а яго папулярнасць асабліва вырасла ў часы рэфармацыйнага руху, пашырэння гуманістычных ідэй, узмацнення класавай і нацыянальна-рэлігійнай барацьбы, калі тагачасныя ідэолагі надавалі вялікае значэнне яго сацыяльна-палітычнаму вучэнню, і ўслед за ім С. Будны, А. Волан і іншыя разглядалі чалавека як разумную і дзейную сілу ў грамадскім жыцці.

Кніга «Ісус Сірахаў» захавалася ў 11 экземплярах. Яна адкрываецца тэматычнай тытульнай гравюрай. Пад загалоўкам кнігі маецца прыпіска: «А то ся стало накладом Богдана, Онкова сына, радци места Виленьского». Тэкст кнігі адкрываецца застаўкай тэраталагічнага стылю. На л. 82 Францыск Скарына падаў уласны партрэт, на якім зверху ў прадаўгаватай рамцы выгравіравана літарамі дата 1517, а ў ніжняй — тры словы славянскай вяззю: «Доктор Францыско Скорина». Прымаючы пад увагу такую нязвыклую для Скарыны форму подпісу, можна меркаваць, што гравюра яго партрэта была зроблена італьянскім майстрам гравёрнай справы.

### Кніга «Эклезіяст»

«Эклезіяст» захаваўся ў 15 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання Францыска Скарыны змешчана тэматычная гравюра, зверху якой ёсць надпіс: «Царица Савва беседует с царем Саломоном». Тэкст кнігі адкрываецца гравюрнай застаўкай, упершыню змешчанай у кнізе «Ісус Сірахаў», а перад паслясловем Скарыны паўторана віньетка з прадмовы да кнігі «Іоў».

### Кніга «Песня песняў»

[1] *«Песня песняў»* — адна з біблейскіх кніг Старога запавету, якая ўяўляе сабой зборнік старажытнай яўрэйскай лірыкі. Аўтарства гэтай кнігі царкоўнае паданне прыпісвае цару Саламону, які выступае тут галоўным лірычным героем. Па канону іудзейскай Бібліі яна падзяляецца на 8 раздзелаў, а ў хрысціянскай рэдакцыі — на 6. Кніга займае такое ж выключнае і загадкавае месца ў Старым запавеце, як «Апакаліпсіс» у Новым запавеце. Будучы неад'емнай часткай старажытнаяўрэйскага канона Бібліі, гэты помнік быў уключаны і ў канон хрысціянскай царквы, трактаваўся і трактуецца тэолагамі ў рэлігійна-містычным плане як алегарычнае выяўленне любві веруючых да бога, хоць па зместу «Песня песняў» — выключна свецкі твор, у ім нідзе нават не ўпамінаецца імя бога. Гэта дае падставы разглядаць яго як помнік фальклорнага паходжання, у аснове якога ляжаць старажытнаяўрэйскія вясельныя абрадавыя песні.

Вусна-паэтычная, фальклорная ў сваёй аснове і літаратурна апрацаваная не пазней III ст. да н. э., «Песня песняў» адлюстравала шчаслівы перыяд жыцця мудрага цара Саламона, калі ён быў моцна закаханы ў дачку егіпецкага фараона Суламіф, якая стала яго жонкай. Свежасць паэтычных вобразаў, лірычны пафас услаўлення кахання, якое пераадольвае ўсе перашкоды, услаўленне прыроды, чалавечай прыгажосці, шчырасць і глыбіня пачуццяў, выключная эмацыянальнасць і паэтычнасць мовы аказалі моцны ўплыў на развіццё лірычнай паэзіі як на іўрыце, так і на мовах хрысціянскіх народаў.

[2] *Ева* (у Скарыны — Евга) — імя міфічнай першай жанчыны на зямлі, якое ў перакладзе азначае жыццё. Паводле біблейскай міфалогіі, жонка Адама, створаная ў раі з яго рабра богам. У іудзейскай, хрысціянскай і мусульманскай міфалогіі яна разглядаецца як крыніца жыцця, як пачынальніца ўсяго чалавечага роду. Толькі за тое, што Ева першая парушыла забарону бога і паспытала плод з «дрэва пазнання дабра і зла», а потым і спакусіла на гэта Адама, бог пракляў іх абодвух, выгнаў з раю, а іх «грэх» перанёс на ўсё чалавецтва як пажыццёвае пакаранне. Так міфам пра паходжанне і грэхападзенне Евы царква апраўдвала і апраўдвае бяспраўнае становішча жанчыны ў грамадстве.

[3] *Адам* — у перакладзе азначае: чалавек, які, паводле біблейскага міфа, быў створаны богам у эдэмскім райскім садзе і з'яўляецца пачынальнікам роду чалавечага. Міф надзяляе яго ўсімі здольнасцямі і розумам для ажыццяўлення свайго высокага прызначэння. У гэтым міфе пра Адама знайшло адлюстраванне наіўнае ўяўленне першабытных людзей пра паходжанне чалавека.

Кніга «Песня песняў» захавалася ў 10 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання Францыска Скарыны змешчана тэматычная гравюра рэлігійнага зместу. Агульны загаловак самой кнігі, загаловак прадмовы, апошні сказ прадмовы і загалоўкі па ўсёй кнізе набраны чырвонай фарбай. Кніга «Песня песняў» пачынаецца застаўкай, якая даволі часта сустракаецца ў іншых выпусках скарынаўскай Бібліі. У канцы самой кнігі змешчана застаўка, якая ўпершыню была ўжыта друкаром у кнізе «Ісус Сірахаў».

## Кніга «Прамудрасць божая»

[1] *Філон Александрыйскі* (21 або 28 г. да н. э. — 41 або 49 г. н. э.) — антычны філосаф-эклектык, прадстаўнік іудзейска-грэчаскай філасофіі ў Александрыі (Егіпет). Лічыў Біблію крыніцай і крытэрыем не толькі рэлігійнай, але і ўсякай іншай ісціны, а Майсея сапраўдным выразнікам боскага адкрыцця. Бог у Філона выступае адзінай актыўнай і вечнай сілай свету. Ідэі Філона шмат у чым адрозніваліся ад хрысціянскіх, але ў цэлым яны былі блізкі да хрысціянства і таму забяспечылі Філону надзвычайную папулярнасць у патрыстыцы. Ф. Энгельс невыпадкова назваў Філона хросным бацькам хрысціянства. Апошняе адчула моцны ўплыў яго александрыйскай школы. На першым усяленскім саборы ў Нікеі (325 г.) філасофскае вучэнне Філона было адхілена як язычніцкае і пантэістычнае, аднак яно адыграла важную ролю прамежкавага звяна паміж язычніцтвам і хрысціянствам.

[2] *Герасім* (330—419) — свецкае імя далмацкага славяніна, які, стаўшы манахам, атрымаў імя Ераніма; перакладчык на лацінскую мову тэксту Бібліі. Тэкст яго перакладу, вядомы пад назваю Вульгаты, на Трыенскім царкоўным саборы 1545 г. быў прызнаны кананічным, а сам Еранім лічыцца адным з вялікіх айцоў хрысціянскай царквы, якога каталіцкі касцёл кананізаваў у лік святых. Біяграфічныя звесткі пра Ераніма гл. у каментарыях да кнігі Даніїл «Прарок».

[3] *Пталамей IV Філапатар* — прыняў егіпецкі трон і манархію ў 221 г. да н. э. пасля Пталамея III Евергета (246—221). Пры ім Егіпет страціў свой былы бляск, а ў выніку няўдалай вайны з селеўкідскім царом Антыёхам III у 219 г. — амаль усе свае ўладанні ў Сірыі. Быў жорсткім і разбэшчаным царом, за што атрымаў мянушку «распешчаны», бо знаходзіўся пад вялікім уплывам любоўніцы Агатэклеі і іншых гетэр. Як пісьменнік вядомы па трагедыі «Адоніс». У гонар Гамера пабудаваў храм. Нягледзячы на тое што Егіпет пры ім яшчэ не зусім страціў чароўнасць сваёй магутнасці, Пталамей працягваў пасылаць хлеб у Рым і ўмешвацца ў справы Грэцыі. У канцы яго панавання ў краіне пачаліся масавыя хваляванні, у выніку якіх абвастрылася барацьба сярод знаці. У 204 г. да н. э. Пталамей IV Філапатар быў забіты, а на егіпецкі трон быў узведзены чатырохгадовы яго сын Пталамей V Епіфан.

Выдадзеная ў 1518 г. у Празе кніга «Прамудрасць божая» захавалася ў 9 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання змешчана тэматычная гравюра рэлігійнага зместу. Л. 7 пачынаецца застаўкай, якая была ўжо выкарыстана ў кнізе «Песня песняў». Перад пасляслоўем змешчана віньетка, аналагічная той, што і ў кнізе «Іоў», а пасля яго пададзена застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў».

## Кніга «Царствы»

[1] *Фараней* — міфічны заснавальнік Аргоскай дзяржавы ў Грэцыі на Пелапанесе. Яму прыпісвалі ўвядзенне на Пелапанесе першапачатковай культуры, грамадскага ўпарадкавання і рэлігійных абрадаў, у прыватнасці культу багіні Геры. Падобна Праметэю, ён лічыўся першым чалавекам, які перанёс агонь з неба на зямлю. Яго паважалі як нацыянальнага героя і на яго магіле ўчынялі абрад ахвярапрынашэння. Яго дачка Ніоба, паводле падання, была першай з жанчын, у якую закахаўся сам Зеўс.

[2] *Меркурый Трымегіст* (Гермес тройчы вялікі) — легендарны пісьменнік, заканадавец, дзейнасць якога Францыск Скарына адносіць да невядомых часоў гісторыі Егіпта. Яму прыпісвалася аўтарства рада багаслоўскіх твораў, што быццам бы былі запісаны з вуснаў самаго бога Гермеса.

[3] *Салон* (каля 638 — каля 559 г. да н. э.) — вядомы грэчаскі палітычны дзеяч, славуты афінскі сацыяльны рэфарматар і заканадавец, элегічны паэт. Паходзіў са збяднелага знатнага роду. У канцы VII ст. праславіўся як военачальнік у вайне Афін з Мегарай за востраў Саламін, які апеў у сваёй элегіі і такім чынам набыў шырокую вядомасць. У 594 г. да н. э. быў абраны ў Афінах архонтам і пасрэднікам для ўладкавання грамадскіх спрэчак. Зай-

маючы гэтую высокую дзяржаўную пасаду, Салон правёў рад сацыяльна-палітычных рэформ. Ён ліквідаваў даўгі сялян і забараніў даўгавое рабства, паставіў палітычныя правы грамадзян у залежнасць ад іх даходаў з зямельных участкаў. На аснове маёмаснага цэнза ўсё насельніцтва незалежна ад паходжання падзяліў на 4 разрады, у адпаведнасці з якімі і вызначалася ступень іх палітычных праў і абавязкаў у дзяржаве. Рад яго рэформ былі праведзены ў інтарэсах гандлёва-рамесных слаёў грамадства, правёў уніфікацыю мер, вагі і валюты. Яго рэформы нанеслі моцны ўдар па родавай зямельнай арыстакратыі і стварылі перадумовы для развіцця афінскай рабаўладальніцкай дэмакратычнай дзяржавы, для кіравання якой стварыў Савет 400 і найвышэйшы судовы орган — суд прысяжных (гелія). Ён рэфармаваў усе віды афінскага права, апрача крымінальнага, унёс змены ў сямейнае і родавае права, дазволіў кожнаму пакрыўджанаму прыносіць скаргі на несправядлівасць. Разам з тым Салон быў адным з першых антычных паэтаў, які пісаў элегіі, ямбы і павучальныя вершы.

[4] *Лікург* — легендарны спартанскі заканадавец Грэцыі IX—VIII ст. да н. э., з імем якога спартанцы звязвалі свае асноўныя і найбольш старажытныя законы і звычаі. Грэчаскія аўтары V—IV стст. да н. э. (Плутарх) прыпісвалі яму стварэнне асноўных інстытутаў спартанскага грамадства і дзяржаўнага ладу, сапраўднае афармленне якіх было вынікам доўгага пераходу ад першабытнага ладу да класавага грамадства ва ўмовах упартай сацыяльнай барацьбы. Паводле распаўсюджанай версіі падання, Лікург, будучы дзядзькам і апекуном маладога спартанскага цара, фактычна кіраваў Спартай, увёў у жыццё запазычаныя ім на востраве Крыт законы, якія быццам бы прадвызначылі эканамічны і палітычны лад Спарты.

[5] *Нума Пампілій* — легендарны, другі пасля Ромула цар старажытнага Рыма канца VIII — пачатку VII ст. да н. э., з імем якога грэчаскія і рымскія гісторыкі звязвалі правядзенне прававых і рэлігійных рэформ у Рыме. Вылучаўся сваёй справядлівасцю, глыбокай набожнасцю і добрым веданнем грамадзянскага права. Разумеючы, што культура народа трымаецца не на ваяўнічасці, а на праве, Нума Пампілій паставіў сваёй задачай змякчыць норавы ваяўнічага племя рымлян і даць яму рэлігійна-маральныя асновы. Сваё панаванне пачаў з заключэння міру з усімі суседнімі плямёнамі, які падтрымліваў на працягу свайго доўгага панавання. Ён заснаваў мноства храмаў і алтароў, павялічыў колькасць багоў, устанавіў простыя, але строга вызначаныя абрады богаслужэння, пастаянныя святы, заснаваў рад жрэчаскіх калегій і калегій рамеснікаў. Паданне прыпісвае Нуме Пампілію рэформу календара, паводле якога год падзяляўся на 12 месяцаў замест былых 10 і складаўся з 355 дзён. У галіне грамадзянскіх рэформ лічыцца першым рымскім царом, які надзяліў жыхароў участкамі зямлі і прывучыў іх да земляробства. Для падтрымкі гандлю і промыслаў спецыяльна ўвёў культ бога Фідаса як увасабленне сумленнасці ў справах. Легендарная біяграфія Нумы Пампілія надзвычай багата міфамі, якія надавалі яго асобе свяшчэнны аўтарытэт.

[6] *Ромул* — легендарны заснавальнік Рыма і першы рымскі цар. Жыў у VII ст. да н. э. Паводле легенды, ён і яго брат Рэм былі дзецьмі бога Марса і вясталкі Рэі Сільвіі, нашчадкамі міфічнага Энея, якіх Амулій (таксама нашчадак Энея) укінуў у р. Цібр з мэтай знішчыць магчымых прэтэндэнтаў на царскі трон. Аднак Ромул і Рэм былі цудам выратаваны ваўчыцаю і выкармлены яе малаком, а калі іх адабралі ў ваўчыцы, іх выхоўвала жонка царскага пастуха Фаустула. Легенда прыпісвае Ромулу апрача заснавання Рыма падзел рымскіх грамадзян на патрыцыяў і плебеяў, заснаванне сената як дарадчага органа пры цару, арганізацыю войска. Сярод сваіх равеснікаў Ромул і Рэм, як сцвярджае паданне, вылучаліся мужнасцю, розумам, прыгажосцю і высакароднасцю, што сведчыла аб іх боскім паходжанні.

[7] *Мацвей* — адзін з легендарных хрысціянскіх апосталаў, прапаведнікаў хрысціянства. Паводле хрысціянскага падання, уваходзіў у лік 12 вялікіх апосталаў Ісуса Хрыста і з'яўляўся аўтарам першага кананічнага тэксту Евангелля. Да апостальскай дзейнасці быў заклікан з пасады зборшчыка пошліны (мытара) — самай зневажальнай у іудзеяў пасады. Стаўшы апос-

таlам, ён сваё першапачатковае імя Левій замяніў на Мацвея. Як сцвярджаюць хрысціянскія багасловы, Мацвей на працягу 15 гадоў пасля «ўзнясення Хрыста на неба» вёў прапаведніцкую дзейнасць сярод яўрэяў у Іерусаліме, а потым падарожнічаў па Эфіопіі, Македоніі, Персіі і іншых краінах. Тэкст яго Евангелля лічыцца хрысціянскай царквою адным з самых старажытных і аўтарытэтных. Яно прызначалася для іудзеяў, якія схіляліся да хрысціянства. У Евангеллі Мацвей імкнуўся даказаць, што Хрыстос быў запаветны месія. Падзеі евангельскай гісторыі тут падаюцца як выкананне старажытных біблейскіх прароцтваў. Па складу і зместу гэты твор падзяляецца на тры часткі. У першай з іх (1—4 раздзелы) падаецца гісторыя паходжання Хрыста і пачатак яго пропаведзі, у другой (раздзелы 5—18) апісваецца яго дзейнасць у Гамілеі; у трэцяй (раздзелы 19—28) выкладаецца гісторыя яго дзейнасці ў Іудзеі, якая заканчваецца пакараннем смерцю, уваскрэсеннем і ўзнясеннем яго на неба. Напісана гэта Евангелле дзесьці ў другой палавіне I ст. н. э.

[8] *Марк* — адзін з чатырох легендарных евангелістаў, па паходжанню быў іудзеем. Паводле біблейскага падання, нарадзіўся ў Іерусаліме. Яго маці Марыя была гарачай паслядоўніцай Ісуса Хрыста, і яе дом служыў месцам сходак для веруючых хрысціян. Тут будучы евангеліст далучыўся да хрысціянскай абшчыны і першапачатковае імя Іаан замяніў на Марка. Яшчэ ў юнацтве прымаў удзел у месіянскай дзейнасці апосталаў Паўла і Варнавы. Належаў да 70 меншых вучняў Хрыста і з'яўляўся «відавочцам» некаторых падзей з евангельскай гісторыі. Будучы спадарожнікам апосталаў Паўла і Варнавы, вёў прапаведніцкую дзейнасць у Антыёхіі (Сірыя), а потым з Варнавай наведаў востраў Кіпр. Пасля стаў неразлучным спадарожнікам апостала Пятра, які ў першым пасланні называе яго сваім духоўным сынам. Калі апостал Пётр знаходзіўся ў рымскім зняволенні, Марк служыў яму як верны і шчыры вучань. Аб ім пахвальна адзываецца і апостал Павел у сваіх пасланнях. Пасля пакутніцкай смерці Пятра і Паўла ў Рыме Марк пасяліўся ў егіпецкай Александрыі, дзе заснаваў хрысціянскую епархію і быў яе першым епіскапам. Там жа ён і памёр пакутніцкай смерцю. Хрысціянская царква ўзвяла яго ў ранг святых. Яна лічыць яго аўтарам аднаго з чатырох кананічных евангелляў. Гэты твор вылучаецца сярод іншых сваёй выразнасцю, маляўнічасцю апісання падзей і арыгінальнасцю выкладу зместу. Евангелле ад Марка прызначалася для рымскіх хрысціян з язычнікаў. Наяўнасць у яго тэксце лацінскіх слоў давала падставы некаторым сцвярджаць, што Евангелле стварылася ў рымскім асяроддзі. Аднак з гэтым вывадам не пагаджаўся Іаан Златавуст, які лічыў, што яно было напісана ў Александрыі. Спрэчным застаецца і час яго напісання. Найбольш верагодна, што яно ўзнікла ў другой палавіне I ст. н. э.

[9] *Лука* — легендарная асоба. Біблейская легенда называе яго апосталам, прапаведнікам хрысціянства, паплечнікам апостала Паўла, адным з 70 малодшых вучняў Ісуса Хрыста, якому хрысціянская царква прыпісвае аўтарства кананічнага тэксту Евангелля і «Дзяянняў апостальскіх». Яго ўласнае імя сведчыць, што па паходжанню ён быў грэкам, які да свайго пераходу ў хрысціянства, будучы добра знаёмы з тагачасным становішчам іудзейскага насельніцтва, яго звычаямі і норавамі, прыняў іудзейскае веравызнанне, а пасля стаў адным з першых язычнікаў, прыняўшых вучэнне Хрыста. Па сведчанню Яўсевія, аўтара «Царкоўнай гісторыі», Ераніма і іншых старажытных пісьменнікаў, Лука жыў у Антыёхіі сірыйскай і па роду сваіх занняткаў быў урачом. Там ён пазнаёміўся з апосталам Паўлам, пасля чаго стаў яго адданым паслядоўнікам, паплечнікам і супрацоўнікам у справе распаўсюджання хрысціянства. Разам з Паўлам хадзіў у Іерусалім для раздачы міласціны галодным, суправаджаў яго ва ўсіх іншых падарожжах, у тым ліку і ў марскім падарожжы ў Рым, у час якога адбылося так падрабязна і маляўніча апісанае ім караблекрушэнне. Пасля пакутніцкай смерці Паўла ў Рыме Лука, па сцверджанню царкоўных гісторыкаў, усё сваё далейшае жыццё да 80-гадовага ўзросту прысвяціў місіянерскай дзейнасці, якая праходзіла ў Італіі, Далмацыі, Македоні, Грэцыі і нават у Афрыцы. Паводле версіі, ён памёр уласнай смерцю, паводле другой, быў павешаны на аліўкавай

пальме ў Ахаі ў Грэцыі. Хрысціянская царква надзяліла Луку дарам жывапісца і лічыць яго таксама аўтарам іконы багародзіцы.

Выдадзеныя Францыскам Скарынам у 1518 г. чатыры біблейскія кнігі «Царствы», у якіх падаецца гісторыя старажытнаяўрэйскай дзяржавы з моманту яе ўзнікнення аж да часоў падзення пад ударамі Асірыі і Вавілоніі ў VI ст. да н. э., легендарныя сюжэты пераплецены з рэальнымі фактамі гістарычнага жыцця яўрэяў і іх суседзяў, даволі шырока прадстаўлены ў нашых айчынных кнігасховішчах. Гэтыя кнігі маюць агульную нумарацыю лістоў.

У кожнай з гэтых кніг ёсць тэматычныя гравюры на тытульных лістах. У першай кнізе тэматычная гравюра мае надпіс: «Самуил, пророк господень, помаза Давыда на царство». На л. 5 змешчана гравюрная застаўка, упершыню ўжытая ў кнізе «Ісус Сірахаў». Ёй папярэднічаюць вялікая прадмова і «Сказание в первыи книги Царъств», напісаныя Францыскам Скарынам. У айчынных кнігасховішчах захоўваецца 18 экземпляраў першай кнігі «Царствы».

### Першая кніга «Царствы»

[1] *Самуіл* — легендарны прарок ізраільскага народа. Вымалены, паводле біблейскага падання, малітвамі ў бога набожным левітам з роду Каафа і яго жонкай Ганнай, якая доўгі час не магла зацяжарыць, ён яшчэ ў дзяцінстве быў прызначаны сваімі бацькамі да духоўнай службы і сваё выхаванне праходзіў пад наглядам першасвяшчэнніка і суддзі ізраільцян Ілы. З імем Самуіла Біблія звязвае гісторыю ўзнікнення яўрэйскай дзяржавы. Тут сцвярджаецца, што ў часы судзейства Ілы пры ўсёй яго набожнасці і лагоднасці, якая даходзіла да бязвольнасці, рэлігійнае і грамадскае жыццё ізраільцян прыйшло ў заняпад і не адпавядала правілам «боскага запавету», за што сам «творца свету» вырашыў падвергнуць іх самаму цяжкаму выпрабаванню. За пакланенне іншаземным язычніцкім багам і непавагу да сябе ён дараваў ваяўнічым філісцімлянам перамогу над ізраільцянамі ў час іх міжусобнай вайны, а суддзю Ілью і яго сыноў пакараў смерцю. Самуіла ж як вернага і паслухмянага свайго служку зрабіў пракорам і пераемнікам Ілы на пасадзе суддзі ізраільскага народа. Да глыбокай старасці Самуіл мудра кіраваў народам і высока ўзняў яго дабрабыт. Але не такімі былі яго сыны, у выніку чаго народ, баючыся, каб пасля смерці Самуіла не аднавілася былое пры Ілы бязладдзе, стаў прасіць Самуіла, каб ён паставіў над імі цара. Самуіл пэўны час хістаўся, але пасля настойлівых просьбаў суайчыннікаў пагадзіўся і прызначыў царом Саула. Калі ж памазаны ім цар не апраўдаў даверу, Самуіл быў вымушаны яшчэ пры жыцці Саула тайна памазаць у цары Давыда. Легенда адвяла прароку Самуілу 88 год жыцця, якое апісана ў першых раздзелах першай кнігі «Царствы». Яму біблейская традыцыя прыпісвае складанне кнігі «Суддзі».

[2] *Офній і Фініес* — сыны першасвяшчэнніка і суддзі Ілы, загінулі ў бітве з філісцімлянамі, абараняючы каўчэг боскага запавету, які быў захоплены апошнімі як ваенная здабыча. Бацька ж іх Ілья, калі даведаўся аб гэтым, раптоўна памёр.

[3] *Філісцімляне* — у перакладзе азначае: прышэльцы, іншапляменнікі. Старажытны народ, які насяляў паўднёвую частку ўзбярэжжа Міжземнага мора. Іх паходжанне Біблія выводзіць ад нашчадкаў міфічнага Хама, род якога засяляў Егіпет. Упершыню згадваюцца ў егіпецкіх крыніцах XIII ст. да н. э. у ліку плямён усходняга Міжземнамор'я, якія разбурылі Хецкае царства. Яны ўварваліся ў Сірыю, Фінікію і Палесціну і ўтварылі тут рабаўладальніцкі племянны саюз умацаваных litарадоў-дзяржаў. Успрыняўшы хананейскую мову і рэлігію, філісцімляне прынеслі ў гэты раён познамікенскую культуру жалеза і асіміляваліся з навакольным хананейска-ізраільскім насельніцтвам. У XII—XI стст. да н. э. дамагліся гегемоніі ў Палесціне і панавалі там да ўзвышэння ў X ст. да н. э. царства Ізраіль. Часта непакоілі ізраільцян, ваявалі з імі і доўгі час прыгняталі іх, пакуль Самуіл не супакоіў іх. На працягу двух стагоддзяў філісцімляне яшчэ імкнуліся вярнуць сабе пануючае становішча ў Палесціне, але сталага поспеху не мелі і неаднаразо-

ва станавіліся самі аб'ектам нападаў з боку суседніх дзяржаў, пакуль у VIII ст. да н. э. не былі заваяваны асірыйцамі, а ў канцы VI ст.— вавілонскім царом Навухаданосарам. Асноўнымі іх заняткамі былі земляробства, вінаробства і жывёлагадоўля. Ад філісцімлян паходзіць грэчаская назва краіны — Палесціна, у якой з часоў панавання рымскага імператара Канстанціна Вялікага (306—337 гг.) і да нашэсця арабаў (VII ст.) квітнела хрысціянская царква, а яе гарады служылі месцам знаходжання хрысціянскіх епіскапаў.

[4] *Саул* — заснавальнік і першы цар Ізраільска-Іудзейскага царства (XI ст. да н. э.). Упершыню праявіў сябе як палкаводзец у час вайны з плямёнамі амавіцян, што паслужыла падставаю для абрання яго царом на сходзе ізраільскага племяннога саюза. Пад яго кіраўніцтвам ізраільскія плямёны пазбавіліся панавання над імі філісцімлян. Далей біблейская легенда сведчыць, што Саул прыйшоў да ўлады пры падтрымцы Самуіла-прарока і пэўны час прытрымліваўся яго практычных парад. Але калі ён стаў кіраваць самастойна і незалежна ад уплыву Самуіла, гэта прыйшлося не даспадобы сінкліту жрацоў і прарокаў. Яны стварылі сваю апазіцыю і ў барацьбе за ўладу падтрымалі кандыдатуру важака іудзейскага ваенна-разбойніцкага атрада Давыда, якога Самуіл патаемна ад Саула памазаў у цары. Калі ж ізраільскае войска пацярпела цяжкае паражэнне ў чарговай бітве з філісцімлянамі, у якой загінулі ўсе тры сыны цара Саула, а сам ён, будучы паранены стрэламі і не жадаючы пераносіць здзекаў філісцімлян над сабою, закалоў сябе мячом, да ўлады прыйшоў Давыд. Так, каб даказаць перавагу жрэчаскага кіравання перад свецкай уладай, якая супрацьстаяла жрэчаству, Біблія ў першай кнізе «Царствы» тлумачыць прыход да ўлады цара Давыда, якога яна малюе ў ружовых фарбах, падкрэслівае яго літасцівасць, набожнасць і гэтым самым супрацьпастаўляе яго «злоснай і панурай» асобе цара Саула.

[5] *Галіяф* — герой біблейскай міфалогіі, філісцімлянскі волат, чалавек незвычайнага росту і сілы. У час вайны з ізраільцянамі ён, улічваючы свае выключныя фізічныя здольнасці, смела выклікаў на адзінаборства каго-небудзь з прадстаўнікоў варожага стану. На яго выклік адгукнуўся юны пастух Давыд, які выступіў з пастуховым посахам, прашчай з пяццю камянямі, стрэлам з якой забіў волата Галіяфа і стаў пасля пераемнікам цара Саула. Легендарнае сказанне пра Галіяфа, відаць, спачатку было эпізодам з цыкла старажытнаяўрэйскіх эпічных паданняў, у якіх адлюстравалася барацьба ізраільцян са сваімі суседзямі філісцімлянамі, а пазней было перанесена ў Біблію на старонкі першай кнігі «Царствы». Гэты старажытны літаратурны сюжэт адзінаборства знайшоў сваё адлюстраванне на старонках «Аповесці мінулых гадоў», дзе старажытнарускі летапісец расказвае пра змаганне князя Уладзіміра з нашэсцем печанегаў. Апісаннем трагічнага самазабойства першага ізраільскага цара Саула завяршаецца змест першай кнігі «Царствы».

## Другая кніга «Царствы»

[1] *Хеўрон (Хеброн)* — адзін са старажытных гарадоў паўднёвай Палесціны, размешчаны ў 31 км на паўднёвы захад ад Іерусаліма ў гістарычнай зямлі Ханаанскай, у арабаў называецца Эль-Халіль, што ў перакладзе азначае: друг або любімец божы. Калі верыць сцверджанням Іосіфа Флавія, змешчаным у яго творы «Аб іудзейскай вайне», гісторыя горада налічвае каля 4500 г. Да заваявання хеўронскай пладароднай раўніны яўрэямі тут жыло племя енакіяў, якое было выцеснена Халебам і яго нашчадкамі. Будучы цар Давыд застаў Хеўрон у руках моцнага і ваяўнічага роду халебітаў, з якімі ён увайшоў у дружбу і з іх дапамогай стаў царом над усёй тэрыторыяй паўднёвай Палесціны. На працягу 7 гадоў Хеўрон быў сталічным горадам Давыда, які пасля гібелі цара Саула перанёс сваю рэзідэнцыю у Іерусалім. У часы панавання Раваама Хеўрон быў адным з важнейшых добра ўмацаваных гарадоў Палесціны. Пасля вавілонскага палону яго зноў занялі яўрэі, а потым трапіў пад уладу ідумеяў. У 164 г. да н. э. Іуда Мака-

вей вызваліў Хеўрон ад ідумеяў. Пазней горад аднавіўся і ў часы крыжаносцаў служыў рэзідэнцыяй епіскапа (1167—1187). Для веруючых іудзеяў, хрысціян і магаметан Хеўрон лічыцца свяшчэнным горадам, які прыцягваў сюды шматлікіх багамольцаў на пакланенне грабніцы «патрыярхаў і прарокаў».

[2] *Авесалом* — трэці сын цара Давыда, нарадзіўся ў Хеўроне. Выступіў супраць свайго бацькі, жадаючы авалодаць яго тронам, і адкрыта абвясціў сябе царом у Хеўроне, але ў бітве быў разбіты. У час уцёкаў яго захапіў военачальнік Давыда Іааў і, нягледзячы на загад Давыда захаваць яму жыццё, забіў. Як паведамляецца ў Бібліі, Авесалом яшчэ пры сваім жыцці збудаваў сабе помнік у царскай даліне Кедронскай на беразе р. Іардан.

Другая кніга «Царствы» ў выданні Скарыны пачынаецца з л. 65 і суправаджаецца тэматычнай гравюрай з надпісам: «Царь Давыд играеть в гусле, неся кивот господень. Царица же Михоль, видя и, погорде и бе неплодна». Л. 65 адв. займае тэкст прадмовы Скарыны да гэтай кнігі. На л. 66 паўторана гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў». Захавалася 16 экземпляраў гэтага выдання.

## Трэцяя кніга «Царствы»

[1] *Раваам* — сын і пераемнік цара Саламона. На царскі трон узышоў ва ўзросце 41 года і, па сцверджанню Бібліі, панаваў 17 год. Пры ім адбыўся падзел яўрэйскага царства на Ізраільскае і Іудзейскае. Панаваў у Іерусаліме, сталіцы Іудзеі. Нягледзячы наператварэнне гэтай рэзідэнцыі і 15 іншых гарадоў у непрыступныя крэпасці, на пятым годзе свайго уаравання пацярпеў паражэнне ад егіпецкага цара Сусакі. Біблія падае яго прадаўжальнікам разбэшчанага вобраза жыцця свайго бацькі Саламона, які меў шмат жонак і наложніц і мноства дзяцей ад іх. Любімай жонкай Раваама была Мааха, дачка ці ўнучка Авесалома. Сваім пераемнікам на царскі трон ён прызначыў свайго сына Авію.

[2] *Авія* — сын Раваама ад Маахі, цар іудзейскі. У час яго панавання прадаўжалася вайна з ізраільскім царом Еравaамам, у якога ён захапіў некалькі гарадоў. Вобраз жыцця наследаваў у свайго бацькі і дзеда.

[3] *Аса* — сын і наследнік Авіі. Паводле Бібліі, панаваў 40 год, быў набожным царом, разбураў язычніцкія ахвярнікі і капішчы, знішчаў статуі язычніцкіх багоў Ваала і Астарты. Аса займаўся ўмацаваннем гарадоў і войска, сабраў пад сваю ўладу шмат яўрэйскіх плямён. За прыхільнасць да службы Астарце пазбавіў сваю маці царскай улады і спаліў яе куміра — статую гэтай багіні.

[4] *Іасафат* — сын Асы, цар іудзейскі. Стаў царом у 35-гадовым узросце, унаследаваў добрыя якасці свайго бацькі і панаваў 25 гадоў. Для захавання мірнага жыцця ў краіне ўмацоўваў гарады і размяшчаў войскі ўздоўж граніцы. Мірнае жыццё дзяржавы стварала спрыяльныя ўмовы для паступлення ў скарб багатых ахвяраванняў. Філісцімляне прыносілі яму розныя дары і давалі даніну. Ва ўсіх падуладных яму гарадах Іасафат устанавіў правасуддзе, а ў самой рэзідэнцыі Іерусаліме заснаваў вышэйшы суд са свяшчэннікаў левітаў пад наглядам першасвяшчэнніка і аднаго свецкага саноўніка, якія павінны былі сачыць, каб у судах не было месца хабарніцтву і несправядлівасці.

[5] *Еравaам* — раб цара Саламона, пры якім быў наглядчыкам над чыншавымі. Карыстаючыся непрыхільнасцю народа да Саламона, ён яшчэ пры яго жыцці дамагаўся царскага трона, але вымушаны быў уцячы ў Егіпет. Пасля смерці Саламона ўзначаліў незадаволеных домам Давыдавым і, калі 10 плямён адкалолася ад Раваама, сына Саламона, стаў іх царом. Будучы царом ізраільскім, увёў язычніцкае ідалапаклонства, замяніў левіцкіх свяшчэннікаў жрацамі з простага люду, пабудаваў капішчы, увёў спецыяльнае свята ў гонар свайго ідала. Яго панаванне працягвалася 22 гады. Месцам сваёй рэзідэнцыі спачатку абраў Сіхем, а потым перанёс яе ў Фірцу. У час вайны з іудзейскім царом Авіяй Еравaам страціў некалькі сваіх гарадоў і

згубіў вялікую колькасць войска, пасля чаго ён ужо не мог аднавіць сваю былую моц.

[6] *Наваm (Надаў)* — сын Еравеама, цар ізраільскі. Панаваў толькі два гады, бо быў забіты змоўшчыкам Ваасам у час асады філісцімскага г. Гавафона. Пасля гэтага забойства быў знішчаны ўвесь род Еравеамаў.

[7] *Ваас* — чалавек нязнатнага паходжання, военачальнік цара Навата. Пасля здрадніцкага забойства свайго цара заняў яго трон, на якім панаваў на працягу 24 гадоў. У час свайго праўлення вёў вайну з іудзейскім царом Асаем, які пазбавіў яго асабістай улады над некаторымі гарадамі.

[8] *Іла* (у Скарыны: Геляй) — сын Вааса, чацвёрты па ліку цар ізраільскі. Яго панаванне працягвалася толькі два гады ў Фірцы. Там ён стаў ахвярай змовы свайго военачальніка Замрыя і быў забіты ў палацы пасля балявання.

[9] *Замрый* — военачальнік над палавінай калясніц забітага ім цара Ілы. Панаваў на царскім троне толькі адзін тыдзень. Калі народ і ізраільскае войска, якое асаджала філісцімскі Гавафон, даведалася пра забойства Ілы, яны абралі сабе ў цары ізраільскага военачальніка Амрыя і асадзілі замак Замрыя ў Фірцах. Бачачы бязвыхаднасць свайго становішча, ён спаліў сябе ў царскім палацы.

[10] *Амрый* — цар ізраільскі пасля Замрыя. Паходзіў з военачальнікаў. Умацаваўся на троне пасля смерці свайго саперніка Фамнія, якога другая частка ізраільскага народа таксама абрала царом. Пасля 6-гадовага панавання ў Фірцы перанёс сваю рэзідэнцыю ў іншае месца, на Самарыйскую гару. 12-гадовае панаванне Амрыя вызначалася рэлігійнай непаслядоўнасцю, перавагу брала яго прыхільнасць да язычніцкага ідалапаклонства.

[11] *Ахаў* — сын Амрыя, цар ізраільскі, зяць цара сідонскага, які насаджаў язычніцтва, пакланяўся Ваалу і Астарце, праследаваў ізраільскіх прарокаў. Царскі трон займаў на працягу 22 гадоў. Памёр ад цяжкіх ран у бітве з сірыйцамі.

[12] *Самарыя* (сучаснае пасяленне Себастыя) — старажытны біблейскі горад цэнтральнай Палесціны, заснаваны каля 880 г. да н. э. ізраільскім царом Амрыем, пазней служыў сталіцай Ізраільскага царства. У перыяд персідскага валодання (VI—IV стст. да н. э.) Самарыя была адміністрацыйным цэнтрам персідскай правінцыі ў Палесціне. У 332 г. да н. э. заваявана Аляксандрам Македонскім, заселена македонцамі і сірыйцамі і стала развівацца як эліністычны горад. У 20—30-я гады да н. э. цар Іудзеі Ірад І атрымаў Самарыю ад рымскага імператара Аўгуста, пабудаваў у ёй храмы, тэатр, стадыён і назваў яе Себастыяй. У І ст. н. э. горад з'яўляўся адным з відных цэнтраў актыўнай раннехрысціянскай прапаганды. На працягу II і III стст. Самарыя перажывала найбольшы свой росквіт. У перыяд жа панавання Візантыі яна канчаткова страціла сваё былое значэнне.

[13] *Нафан* — паводле біблейскай легенды, прарок часоў панавання Давыда і Саламона. Па сведчанню біблейскіх летапісаў, вядомых пад назвай Параліпаменон, Нафан вёў гістарычныя запісы аб справах цароў Давыда і Саламона. Разам з іншымі запісамі яны паслужылі крыніцай і асновай для складання кніг «Царствы». Разам з тым Біблія прыпісвае Нафану самы непасрэдны ўдзел у справе наладжвання богаслужэння ў старажытных яўрэяў, якое было заснавана яшчэ легендарным Майсеем, але атрымала асаблівае ўпарадкаванне ў часы царавання Давыда і Саламона.

[14] *Ілья* — міфічны прарок, які, паводле біблейскай легенды, нарадзіўся ў галілейскім горадзе Фесві і быў начальнікам таварыства сыноў прарокаў. Жыццяпіс гэтага героя падаецца ў Бібліі ў прыгодніцкім ключы. Ён паказаны грозным выкрывальнікам бязбожнага ідалапаклонства ў часы панавання ізраільскага цара Ахава і яго жонкі Іезавіліі. Надзелены ад бога дарам празарліўца, Ілья прадказаў трохгадовую засуху і голад у царстве Ізраільскім. Самаго ж Ілью бог цудоўным чынам пазбавіў голаду, пасяліўшы яго каля ручая, куды вароны насілі хлеб і мяса. Пасля яго карміла набожная ўдава са сваіх мізэрных, але «невычэрпных», па волі бога, харчовых запасаў. Ва ўдзячнасць за гэта Ілья сваімі малітвамі ажывіў яе паміраючага сына. Пазней, калі Ілья вымушаны быў ратавацца ўцёкамі ад пра-

следаванняў царыцы Іезавіліі, у пустыні яго не пакідалі анёлы і забяспечвалі ежай. Тады ж за сваю непахісную вернасць богу ён на гары Харыў быў удастоены гонару весці непасрэдна з самім усявышнім гутарку і слухаць яго настаўленні. Нарэшце, пры пераходзе праз Іардан бог у прысутнасці прарока Елісея за верную службу ўзяў Ілью яшчэ пры жыцці на неба на вогненнай калясніцы. У такім арэоле паўстае вобраз Ільі-прарока са старонак біблейскіх кніг. Хрысціянская царква ў прапагандысцкіх мэтах ўвяла яго імя ў канон сваіх святых.

Трэцяя кніга «Царствы» ў выданні Скарыны пачынаецца з л. 119. На ім змешчана тытульная тэматычная гравюра з надпісам: «Царь Саломон ставит храм господу богу в Ерусалиме». На адваротным баку тытульнага ліста кнігі падаецца тэкст прадмовы Скарыны. На л. 120 паўтараецца гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў». Гэта кніга, як ні адно з іншых выданняў Скарыны, багата аздоблена. Так, на л. 133 у ёй змешчана гравюра трохпавярховага дома з подпісам: «Взор храму господьня, от Саломона деланого». На л. 135 змешчана гравюра з надпісам: «Образ дву херувимов ■ молитовници», якая суправаджаецца тлумачальным тэкстам: «И сделал тежь царь Саломон в молитовници два херувимы з древа оливнаго десеть локтей ■ вышиню. И было ест крило единаго херувима пять локтей ■ должиню и другое крило того же херувима пять локтей, то ест десеть локтей имели суть должини оба...» На л. 136 адв. пададзены малюнак двухпавярховага драўлянага дома з надпісам: «Взор дому древяна царя Саломона», а на л. 137 адв.— малюнак двух слупоў з подпісам: «Взор дву столпов, иже пред храмом». На л. 139 змешчан яшчэ адзін тлумачальны малюнак з подпісам: «Взор моря или умывальници медяное». На л. 140 іншы малюнак ■ надпісам: «Взор десяти подъставок и баней их». На л. 149 змешчана апошняя ў трэцяй кнізе «Царствы» гравюра. Яна паўтарае гравюру з тытульнага ліста кнігі «Эклезіяст», толькі з некалькі змененым подпісам: «Саломон беседуеть с царицею Саввою», у «Эклезіясце» — «царица Савва беседует с царем Саломоном».
Усяго захавалася 16 экземпляраў гэтага выдання Францыска Скарыны.

## Чацвёртая кніга «Царствы»

[1] *Елісей* — асоба міфічная, адзін з біблейскіх прарокаў. Стаўшы старанным вучнем і паслядоўнікам прарока Ільі, займаўся больш 65 гадоў прароцтвам пры 5 ізраільскіх царах, пачынаючы ад Ахозіі да Іяаса, і ўсім ім смела казаў праўду, выкрываючы іх схільнасць да язычніцкага ідалапаклонства. З яго імем Біблія звязвае мноства «цудаў» — ад пераходу посуху р. Іардан да ажыўлення сына адной удавы. Ва ўсіх шматлікіх апавяданнях пра яго дзейнасць Елісей выступае чалавекам глыбока празорлівым, моцным духам і верай у сілу сваіх магчымасцей. Перыяд яго дзейнасці падаецца ў Бібліі як час актыўнага развіцця так званых пароцкіх школ, своеасаблівых рэлігійна-асветных абшчын, у якіх маладыя людзі праходзілі выхаванне пад кіраўніцтвам умудроных вопытам і вядомых сваёй дзейнасцю пракокаў. Ён быў адзіным «сведкам» узнясення прарока Ільі на неба. Імя Елісея было надзвычай папулярным у творах старазапаветнай царкоўна-рэлігійнай літаратуры таму, што ён, па сведчанню Ісуса Сірахава, заўсёды казаў толькі праўду і ніколі не адступаў перад уладай сучасных яму цароў. «Аўтарытэт» гэтага прарока быў узяты на ідэалагічнае ўзбраенне і хрысціянскай царквою ў Евангеллі ад Лукі.

[2] *Седэкія* — сын Іасіі, апошні цар іудзейскі (599—588 гг. да н. э.), пры якім быў разбураны Іерусалім, а яго народ выведзены ў палон. Узведзены на царскі трон Навуходаносарам II, ён вырашыў выкарыстаць саюз з Егіптам, каб сумеснымі дзеяннямі вызваліцца ад вавілонскай няволі. Калі аб гэтым даведаўся Навуходаносар, ён сам з'явіўся ў Іудзею, каб пакараць здрадзіўшага васала і блакіраваў Іерусалім. Горад абараняўся на працягу больш трох гадоў і нават меў надзею на вызваленне, бо на дапамогу яму выступіў егіпецкі фараон. Але Навуходаносар разграміў егіпцян і лёс Іеру-

саліма быў вырашаны. Седэкія спрабаваў уцячы, але ў дарозе быў схоплены і прыведзены да Навуходаносара. Дзеці Седэкіі былі забіты ў прысутнасці бацькі, а яго самаго асляпілі, закавалі ў кайданы і адвезлі ў Вавілон, дзе ён і памёр у цямніцы. Біблія выстаўляе яго адступнікам ад «разумных парад прарокаў», бо ён на працягу 11 гадоў свайго панавання прытрымліваўся язычніцкага ідалапаклонства.

[3] *Ахозія* — сын Ахава, цар ізраільскі (893—892 гг. да н. э.). У Бібліі ён паказаны заўзятым прыхільнікам язычніцкага бажаства Ваала, за што яго «бог пакараў» смерцю на другім годзе каравання ва ўзросце 19 гадоў.

[4] *Осій* — сын Ілы, апошні цар ізраільскі, які панаваў з 730 да 722 г. да н. э., калі Самарыя была захоплена і разбурана асірыйскім царом Саргонам. Царскага трона Осій дасягнуў праз царазабойства свайго папярэдніка. Пры ім царства Ізраільскае дажывала свае апошнія гады. Каб вызваліцца ад асірыйскай залежнасці, Осій пайшоў на саюз з егіпецкім фараонам Сігарам. Тады, апераджаючы далейшы ход падзей, асірыйскі цар Салманасар захапіў Осія і пасадзіў у турму, а сам прайшоўся па ўсёй яго дзяржаве і ўзяў у аблогу Самарыю, якую трымаў у асадзе 3 гады. На 9-м годзе панавання Осія Самарыя была захоплена Саргонам, а яе жыхары перaселены ў розныя месцы Асірыйскай дзяржавы, дзе многія з іх падвергліся асіміляцыі язычнікамі і прынялі іх веравызнанне. Пасля гэтага Ізраільскае царства спыніла сваё існаванне.

[5] *Навуходаносар II* — сын Набапаласара, вавілонскі цар (604—562/561 гг. да н. э.), адзін са славутых заваёўнікаў антычных часоў, яго імя ў перакладзе азначае: Набу, абарані карону. У 605 г. нанёс жорсткае паражэнне егіпцянам і захапіў Сірыю і Палесціну. Гэта перамога вырашыла лёс Блізкага Усходу на карысць Навуходаносара. Спробы егіпцян аднавіць актыўную палітыку ў Сірыі шляхам стварэння кааліцыі мясцовых царкоў выклікалі яго новыя ваенныя паходы. У выніку аднаго з іх ён захапіў і разбурыў у 586 г. Іерусалім, вывез у Вавілон нарабаваныя багацці і значную частку іерусалімскага насельніцтва. На працягу 13 гадоў (585—573) неаднойчы асаджваў Цір, пакуль гэты горад не прызнаў яго ўладу. У часы доўгага панавання Навуходаносара Вавілонскае царства дасягнула эканамічнага і культурнага росквіту. Нягледзячы на няспынныя паходы і войны, ён клапаціўся аб адбудове і ўмацаванні і ўпрыгожанні сталіцы, якую ператварыў у непрыступную крэпасць. Пры ім у Вавілоне былі пабудаваны славутая вежа, рад цудоўных палацаў і храмаў, разведзены на штучна зробленых земляных тэрасах здзіўляючыя «сады Семіраміды», якія антычная традыцыя далучала да «сямі цудаў свету». Паколькі пісьмовыя біблейскія крыніцы (кнігі прарокаў Ісайі і Данііла) выстаўлялі і трактавалі Навуходаносара выключна ў негатыўным плане, як жорсткага заваёўніка, разбуральніка «святога горада» Іерусаліма, яго імя доўгі час выклікала ў нашчадкаў жах, нянавісць і нават агіду. Такі погляд на гэтага цара замацаваўся і ў літаратуры больш позняга часу.

[6] *Ісайя* — адзін з т. зв. вялікіх прарокаў, які жыў у VII ст. да н. э. Паводле біблейскага падання, яго бацька Амос быў сынам Іяаса і родным братам Амасіі, цароў іудзейскіх. Ісайя жыў і прарочыў у Іерусаліме. Ужо з першых крокаў сваёй дзейнасці ён, нягледзячы на знатнасць свайго паходжання, выступіў рэзкім выкрывальнікам сацыяльнай няроўнасці, прыгнёту незаможных, як настаўнік і прапаведнік маралі ў той час, калі царства Іудзейскае яшчэ знаходзілася ў адносна квітнеючым стане. Яшчэ большую сілу яго дзейнасць набыла ў часы панавання Ахама і Езекіі. Прадаўжаючы традыцыі папярэдніх прарокаў, ён смела выступаў перад царамі аракулам праўды, абараняў сацыяльную справядлівасць, прадказваў вялікія бедствы, за што па загаду цара Манасіі прыняў пакутніцкую смерць: яго распілавалі паміж кедравымі дошкамі. Ісайя быў аўтарам гісторыі свайго часу, апісанай ім у другой кнізе «Параліпаменона» (Летапісу), і прароцкай кнігі, якая носіць у Бібліі яго імя. У гэтай кнізе яму належаць раздзелы 1—33 і 36—39, раздзелы ж 34, 35, 40—66 належаць яго ананімнаму сааўтару, які жыў пасля Ісайі. Яна заключае ў сабе багаты матэрыял па гісторыі не толькі сучаснага Ісайю яўрэйскага, але і іншых народаў Блізкага Усходу. Асаблівую славутасць Ісайя набыў у хрысціянскай царкве сваім прароцтвам пра месію, у якім яна ўбачыла

«дакладны і наглядны малюнак зямнога жыцця» яе міфічнага куміру Ісуса Хрыста, таму гатова была назваць Ісайю пятым евангелістам.

[7] *Ерамія* — другі з чатырох т. зв. вялікіх біблейскіх пракокаў побач з Ісайем, Езекіілем і Даніілам. Паводле Бібліі, сваю прароцкую дзейнасць пачаў у 626 г. да н. э., калі яму было каля 15 гадоў, і прадаўжаў яе на працягу 45 гадоў у смутны, цяжкі час, калі царства Іудзейскае прыходзіла ў занядад. Значная частка пропаведзей Ераміі была прысвечана палітычнаму становішчу Іудзейскага царства. Сваім пранікнёным словам прапаведніка ён энергічна падтрымліваў рэфарматарскі рух цара Іасіі, які, імкнучыся ачысціць краіну ад уплываў язычніцтва, знішчаў капішчы Ваала і Астарты. Смерць Іасіі выклікала ў дзяржаве палітычныя смуты, якія вялі да абяссільвання царства перад знешняй небяспекай з боку найбольш магутнага ворага Іудзеі Вавілона. Аддаючы перавагу залежнасці ад Вавілона перад пагрозай знішчэння ім Іудзеі, Ерамія сваімі пропаведзямі заклікаў народ і цароў да міру з Вавілонскім царствам. Але ніхто не хацеў верыць у яго прароцтвы, у выніку чаго сам прарок неаднаразова падвяргаўся як парушальнік грамадскага парадку турэмнаму зняволенню. Іудзейскія цары насуперак парадам Ераміі заводзілі палітычныя інтрыгі і шукалі пагаднення з егіпецкімі фараонамі, каб знайсці ў іх абарону ад месапатамскіх заваёўнікаў. А гэта выклікала гнеў з боку апошніх, і лёс Іудзейскага царства быў вырашаны. Пасля захопу Іерусаліма Навухаданосарам ў 586 г. да н. э. у часы панавання цара Седэкіі, разбурэння горада і палянення яго жыхароў прароку заставалася толькі аплакваць папялішчы і руіны «свяшчэннага горада», што ён і зрабіў у сваіх глыбокажалобных песнях, якія захаваліся ў кнізе «Плач Ераміі». Быў вывезены ў Егіпет, дзе ён і загінуў, пабіты камянямі сваімі суайчыннікамі, якіх ён і там не пераставаў выкрываць. Апрача «Плача Ераміі» яго пяру належыць яшчэ адна кніга Бібліі, у якой падаецца гісторыя жыцця гэтага прарока і аснову складаюць пропаведзі і афарызмы, пададзеныя часткова ў яго ўласных запісах, а таксама ў запісах яго паплечніка Варуха, які ўключыў у гэту кнігу і свае пераказы пра Ерамію. Кніга «Прарок Ерамія» з'яўляецца важнай крыніцай для гісторыі Блізкага Усходу VII—V стст. да н. э.

Чацвёртая кніга «Царстваў», якая змяшчае ў сабе 25 раздзелаў і ахоплівае перыяд ад пачатку панавання Ахозіі да забойства Гадоліі, вавілонскага намесніка Навухаданосара II у Іудзеі, у выданні Францыска Скарыны пачынаецца з л. 183, на якім пададзена яго тлумачальная тытульная гравюра на ваенную тэму з надпісам: «Навходносор, царь вавилонский, добывает Ерусалима». На л. 184 у чацвёрты раз паўторана гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў». Апрача свайго пасляслоўя да чацвёртай кнігі Скарына змясціў яшчэ і агульнае пасляслоўе да ўсіх чатырох кніг, перад якім падаў віньетку, перанесеную з прадмовы да «Прытчаў прамудрага Саламона». Усяго захавалася 16 экземпляраў гэтага скарынаўскага выдання.

## Кніга «Ісус Навін»

[1] *Ісус Навін* — асоба міфічная. У біблейскіх паданнях выступае як непасрэдны пераемнік Майсея-заканадаўца. Першапачаткова называўся Осіем. Яго Майсей назваў Ісусам у знак таго, што ён выратуе свой народ ад цяжкага вандравання па пустыні і прывядзе ў зямлю запаветную. Калі пасля 40-гадовага падарожжа па пустыні Майсей памёр, Ісус Навін, будучы яго галоўным памочнікам, стаў правадыром, перайшоў Іардан і ў радзе бітваў на тэрыторыі Палесціны перамог хананеяў і заваяваў гэту краіну. Пасля ён авалодаў умацаваным Ерыхонам, спапяліў яго і ачысціў для яўрэяў усю зямлю ад Аравійскай пустыні да Лівана. Як сцвярджаецца ў Бібліі, ён памёр ва ўзросце 110 гадоў ад нараджэння і быў пахаваны на гары Яфрэмавай. Традыцыя прыпісвае Ісусу Навіну аўтарства аднайменнай кнігі, якая ўяўляе сабою зборнік рэляцый з поля бітваў, вылучаецца багаццем апавяданняў фальклорнага паходжання, па сваіх стылістычных прыкметах вельмі блізкая да пяцікніжжа Майсея.

[2] *Амалех* — паводле падання, сын Еліфаза, роданачальнік амелікян, старажытнага арабскага племені, якое качавала ў пустынях Аравіі і паўднёвай

Палесціны і было роднасным ідумеям. Імя Амалеха служыць у Бібліі часта назвай ўсяго племені, як і імя Ізраіль нярэдка азначае ўвесь народ ізраільскі. З прычыны векавой варожасці, якая панавала паміж яўрэямі і амелікянамі, імя Амалех стала ў пазнейшых яўрэйскіх рэлігійна-містычных тлумачальніках «Свяшчэннага пісання» сінонімам зла і нячыстай сілы.

[3] *Рафадзім* — месца ў Аравійскай пустыні, дзе, паводле падання, амелікяне напалі на ізраільцян, але былі пераможаны апошнімі.

[4] *Зямля абетаваная* (г. зн. *запаветная*) — паводле Бібліі, уся Палесціна, заселеная рознымі хананейскімі плямёнамі і філісцімлянамі, але якую бог быццам бы абяцаў навечна аддаць толькі «абранаму народу» — яўрэям.

[5] *Ерыхон* — адзін са старажытных гарадоў Палесціны. Узнік ля р. Іардан на тэрыторыі сучаснай Іарданіі ў 22 км на паўночны ўсход ад Іерусаліма яшчэ ў неалітычны перыяд на пладароднай, багатай садамі раўніне. Гэта быў сталічны горад хананеяў, умацаваны шырокай сцяной, які ляжаў на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў. Ён першы падвергся нападу яўрэяў пры іх уварванні ў Палесціну, і непрыступныя яго сцены, паводле біблейскага падання, самі рассыпаліся ад гукаў «свяшчэнных труб». Адсюль пайшоў выраз «ерыхонская труба». За доўгую гісторыю свайго існавання неаднаразова разбураўся і аднаўляўся. Яго разбуралі не толькі ізраільцяне, але і асірыйцы, вавілонскі цар Навухаданосар, персы і іншыя. Пасля заваявання Іудзеі рымлянамі Ерыхон яшчэ лічыўся ў ліку яе галоўных гарадоў, у якім Ірад пабудаваў шмат прыгожых будынкаў і свой пышны палац. У часы панавання Візантыі з цягам часу горад стаў занепадаць і ў рэшце рэшт на яго месцы вырасла толькі невялічкая арабская вёска Эр-Рыха.

[6] *Зямля Ханаан* — пад гэтым тэрмінам выступае малаазіяцкая тэрыторыя паўночнай часткі Палесціны, заселенай плямёнамі хананеяў, якіх грэкі называлі фінікійцамі.

[7] *Хам* — у біблейскай міфалогіі выступае як адзін з трох сыноў (Хам, Сім і Яфет) казачнага, фальклорнага героя Ноя, які нарадзіўся ў апошнім стагоддзі да «сусветнага патопу». Паводле легенды пра Ноя і яго нашчадкаў, выкладзенай у першай кнізе Майсея («Быццё»), у Хама было чатыры сыны: Хуш, Міцраім, Фут і Ханан, патомкі якіх засялілі Егіпет, Эфіопію, частку Вавілоніі, Палесціны і іншыя краіны. Але ўсе гэтыя народы былі «пракляты богам» і асуджаны на рабства за тое, што Хам асмяяў перад братамі свайго бацьку, якога ўбачыў голым, калі той спаў п'яны ў шатры. Гэты міф пра Хама служыў іудзейскаму жрэчаству і рабаўладальнікам для апраўдання палітыкі рабства. У пераносным сэнсе імя Хам раней ужывалася для абазначэння чалавека з простанароддзя. Пазней яно стала агульным вызначэннем грубага, нахабнага чалавека.

[8] *Ной* — міфічны дзесяты і апошні з біблейскіх «дапатопных» патрыярхаў. Па яўрэйскаму тэксту Бібліі нарадзіўся ў 1056 г. ад «стварэння свету», а па славянскай Бібліі — у 1662 г. Паводле біблейскага міфа, ён жыў у часы, калі ўсё чалавецтва паддалося разбэшчанасці, за што бог вырашыў знішчыць яго «сусветным патопам», за выключэннем праведнага Ноя і яго сям'і. У выніку чаго Ной стаў родапачынальнікам новага, «пасляпатопнага» чалавецтва, а праз сваіх сыноў зрабіўся родапачынальнікам рас, якія вядуць сваё паходжанне ад імя яго сыноў (семіты, яфеты, або арыйцы, і хаміты). Ад «патопу» 600-гадовы Ной выратаваўся дзякуючы пабудаванаму ім па загаду бога каўчэгу даўжынёю у 300, шырынёю ў 50 і вышынёю ў 30 локцяў, на які былі таксама ўзяты прадстаўнікі ўсіх відаў жывёл і птушак. Гэты дзівосны карабель вандраваў па вадзе 40 дзён, пакуль не спыніўся нябесны лівень. Апавяданне пра міфічнага Ноя трапіла на старонкі Бібліі, відаць, з запазычаных яе аўтарамі больш старажытных шумерскіх і вавілонскіх міфалагічных сказанняў.

[9] *Іудзея* — старажытнаяўрэйскае царства, якое ўзнікла пасля смерці цара Саламона ў выніку распаду Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы, выкліканага ўварваннем егіпцян і працяглай вайною з імі (923—911 гг. да н. э.) на два самастойныя царствы — Ізраільскае і Іудзейскае. Сваю самастойнасць яна захоўвала да захопу яе сталіцы Іерусаліма вавілонскім царом Навухаданосарам II у 586 г. да н. э. Яго першым царом, вакол якога групаваліся яўрэйскія плямёны быў сын Саламона Раваам (928—911 гг. да н. э.). Нягледзячы на сваю

слабасць, Іудзея праявіла сваю жывучасць і праіснавала даўжэй, чым царства Ізраільскае. Значнай вяхой у гісторыі Іудзейскага царства было панаванне Іасіі, калі яно вызвалілася ад асірыйскай няволі і нават далучыла да сябе значную частку былога Ізраільскага царства. Тады было аблегчана становішча рабоў-даўжнікоў і праведзена цэнтралізацыя культу Яхве ў Іерусаліме. Толькі праз 70 гадоў пасля вавілонскага палону Іудзея аднавіла сваю дзяржаўнасць, якая праіснавала да 70-х гадоў н. э., калі яна канчаткова заняпала пасля разгрому Рымскай імперыяй.

[10] *Аўрам (Абрам)* — міфічны родапачынальнік яўрэяў і арабаў. Ён, паводле біблейскай міфалогіі, нарадзіўся ў Месапатаміі ў халдзейскім горадзе Ур і з'яўляўся малодшым сынам Фары, дзесятага патрыярха па прамой лініі ад Сіма, сына Ноя. Жывучы сярод язычнікаў, гаворыцца ў Бібліі, Аўрам пазнаў ілжывасць іх службы паганскім ідалам і веру ў «адзінага бога», апосталам якога ён стаў. Праследуемы за гэта сваімі суайчыннікамі, ён на 75-м годзе жыцця мусіў пакінуць Радзіму і цераз Еўфрат накіраваўся ў зямлю Ханаанскую, абяцаную богам яму і яго нашчадкам. Там Аўрам быў празваны «гагіўры», што азначала: прыбыўшы з таго берага ракі, адкуль і пайшла назва — яўрэй. Разам з ім сюды перасялілася яго жонка і пляменнік Лот. Доўга ён качаваў па розных краях, пакуль не пасяліўся ў Хеўроне. У біблейскім міфе Аўрам падаецца як узор чалавекалюбства, лагоднасці, цярплівасці, міралюбства, бескарыслівасці, цвёрдай і непахіснай веры ў бога, пакоры і глыбокай павагі да яго. Але пры ўсіх сваіх станоўчых якасцях яму доўгі час не шанцавала мець ад шлюбу з Сарай нашчадка. Толькі пад старасць, калі Сары было ўжо 90, а яму 100 гадоў у іх нарадзіўся сын Ісак, які, па сцверджанню Бібліі, стаў прадаўжальнікам роду яўрэйскага племені. А калі Сара памерла, Аўрам ажаніўся ў другі раз і меў яшчэ 6 сыноў, якія разам з Ізмаілам, яго пазашлюбным сынам ад служанкі Агар, сталі родапачынальнікамі розных арабскіх плямён. Сам жа Аўрам, як падаецца ў Бібліі, пражыў 175 гадоў і памёр у Хеўроне, дзе і быў пахаваны. Магаметане — арабы, якія лічаць Аўрама сваім родапачынальнікам і ў Каране называюць яго Ібрагімам, яшчэ ў старажытнасці пабудавалі над яго магільным склепам сваю мячэць і аберагалі яе як святыню. Вобраз старазапаветнага міфічнага патрыярха Аўрама (Ібрагіма) карыстаўся асаблівай павагай у хрысціян і мусульман, для якіх служыў прыкладам найвялікшай набожнасці і праведнасці. Вобраз гэтага біблейскага героя аброс самымі разнастайнымі міфічнымі паданнямі і легендамі. Паводле іх, Аўрам займаўся прыродазнаўствам, ведаў хімію, астраномію і іншыя навукі, якія ён унаследаваў на радзіме ў халдзеяў, а потым распаўсюджваў сярод фінікійцаў і егіпцян. Сцвярджалі нават, што ён быў вынаходцам літарнага шрыфту і каляндарных вылічэнняў. У сувязі з гэтымі легендамі некаторыя старажытныя багасловы атаясамлівалі вобраз Аўрама (Ібрагіма) з Зараастрам.

[11] *Міжрэчча (Двурэчча, Месапатамія)* — гістарычная тэрыторыя ў заходняй Азіі ў сярэднім і ніжнім цячэнні Еўфрата і Тыгра, якая ахоплівала сучасны Ірак, Сірыю і частку Ірана і Турцыі. Гэта быў адзін з найбольш буйных ачагоў культуры старажытнага Усходу, цэнтраў тагачаснай цывілізацыі. На тэрыторыі Месапатаміі ў IV—III тысячагоддзі да н. э. сфарміравалася ранняя класавая дзяржава, у выніку гістарычнага развіцця якой узнік рад іншых дзяржаў (Асірыйская, Акад, Ур). У пачатку II тысячагоддзя да н. э. у паўднёвай частцы Месапатаміі складалася Вавілонская дзяржава. У IV ст. гэта гістарычная вобласць увайшла ў склад імперыі Аляксандра Македонскага, а пасля яго смерці спачатку падпарадкоўвалася дзяржаве Селяўкідаў, потым знаходзілася ў складзе імперыі Сасанідаў, а ў VII ст. падпала пад уладу арабскага халіфата.

[12] *Аравія* — у тыя далёкія гістарычныя часы, пра якія ідзе гутарка ў біблейскай кнізе Ісуса Навіна, ахоплівала вялікую тэрыторыю, заселеную рознымі качавымі плямёнамі, у якую ўваходзілі ўвесь Аравійскі паўвостраў і паўднёвая частка сучаснага Ірака.

[13] *Сірыя* — у тыя далёкія часы ахоплівала значную тэрыторыю, якая выходзіла за яе сучасныя межы. Ужо ў першай палавіне II тысячагоддзя да н. э. на яе тэрыторыі існавала шмат раннякласавых гарадоў-дзяржаў, якія размяшчаліся на гандлёвых шляхах з Месапатаміі ў Егіпет і былі аб'ектам увагі

знешніх заваёўнікаў: старажытнага Егіпта, Ізраільска-Іудзейскага царства, Асірыі, Вавілоніі, імперыі Аляксандра Македонскага, старажытнага Рыма. У VII ст. н. э. яна была заваявана арабамі, а ў 1516 г.— туркамі і стала часткай Асманскай імперыі.

[14] *Галілея* — гістарычная вобласць на поўначы Палесціны, якая прымыкае да Міжземнага мора. Гістарычныя яе межы былі досыць неакрэсленыя. Вядома толькі, што на поўначы яна межавала з Сірыяй і ліванскімі гарамі, на захадзе — з Фінікіяй, на ўсходзе яе граніцай служыла рака Іардан, а на поўдні судакраналася з Самарыяй. Заселеная хурытамі і хананеямі, яна яшчэ ў часы Іосіфа Флавія (І ст. н. э.) вызначалася багатымі нівамі, вінаграднікамі і садамі, якія абумовілі гушчыню яе засялення. Ужо ў XIII—XII стст. да н. э. Галілея была захоплена ізраільцянамі. Яе жыхары, па сведчанню І. Флавія, славіліся храбрасцю і былі заўзятымі ворагамі рымлян. Грэчаская адукацыя, да якой з недаверам ставіліся іудзеі, у галілеян карысталася гарачай прыхільнасцю. Вось чаму ў некаторых гарадах Галілеі, найбольш значныя сярод якіх былі Кана, Капернаўм, Назарэт і Тыверыяда, аддавалася перавага грэчаскай мове. Галілея адыгрывала важную ролю ў распаўсюджванні хрысціянства, таму ранніх хрысціян называлі «галілеянамі». У І ст. н. э. тут адбылося паўстанне супраць іудзейскай рабаўладальніцкай арыстакратыі, цесна звязанай з Рымам, і супраць рымскіх стаўленікаў — цароў Ірада Агрыпы II і інш. Для прыхільнікаў хрысціянскага веравызнання Галілея мела асаблівае значэнне, паколькі з ёю легенда звязвала галоўнае месцапрабыванне і дзейнасць Ісуса Хрыста.

[15] *Ідумея (Эдом)* — назва гістарычнай часткі Палесціны на поўдзень ад Мёртвага мора. Першапачатковымі яе жыхарамі былі харэі, якія потым змяшаліся з заваёўнікамі і стварылі магутную дзяржаву. Пазней, калі сфарміравалася Іудзейскае царства, ідумеі, нягледзячы на падтрымку аманітаў і маавіцян, былі разгромлены іудзеямі. Спрадвечная варожасць да іудзеяў дасягнула найвышэйшага накалу ў часы аслаблення яўрэйскай манархіі, калі Навухаданосар II асадзіў Іерусалім: ідумеі адразу перайшлі на бок халдзеяў і прымалі ўдзел у грабяжах і забойствах сваіх былых заваёўнікаў, садзейнічаючы разарэнню Іудзейскага царства. Пасля разгрому Іудзеі і вываду яе жыхароў у вавілонскі палон, ідумеі авалодалі спустошанай зямлёю. Гэта племя і гістарычная назва іх зямлі канчаткова сышлі з гістарычнай арэны пасля разбурэння Іерусаліма рымлянамі ў І ст.

[16] *Фінікія* — старажытная краіна Блізкага Усходу, размешчаная ва ўсходнім Міжземнамор'і, займала ўзбярэжжа сучасных Сірыі і Лівана. У пачатку II тысячагоддзя да н. э. тут пачало складвацца класавае грамадства, узнікалі рабаўладальніцкія гарады-дзяржавы, важнейшымі з якіх былі Угарыт (Гас-Шамра), Арвід (Арад), Берута (Бейрут), Гебал (Бібл), Сідон (Сайда), Цір (Сур), яны вялі паміж сабой барацьбу за гегемонію ў Фінікіі. Сама ж тэрыторыя Фінікіі знаходзілася пад уладай егіпецкіх фараонаў. У пачатку XIII ст. да н. э. барацьба за авалоданне ёю паміж егіпцянамі і хеттамі закончылася падзелам краіны на дзве сферы ўплываў. У пачатку XII ст. да н. э. гарады Фінікіі падвергліся апусташэнню розных блізкаўсходніх плямён. Аднак пасля аслаблення Егіпта і знішчэння Хецкай дзяржавы фінікійцы набылі сваю незалежнасць і заснавалі свае калоніі ў шмат якіх месцах Міжземнамор'я, у тым ліку славуты Карфаген. Рамяство, гандаль і мараходства Фінікіі дасягнулі высокага развіцця і атрымалі сусветнае значэнне. Фінікія стала радзімай стварэння першай сістэмы алфавітнага пісьма. На працягу VIII—IV стст. да н. э. яна з перарывамі падпарадкоўвалася Асірыйскай дзяржаве, Вавілоніі, персам і, нарэшце, Аляксандру Македонскаму. Нягледзячы на гэта, у элліністычныя і рымскія часы яе гарады захоўвалі самакіраўніцтва, чаканілі манету і захоўвалі сваё гандлёва-эканамічнае значэнне аж да часоў ранняй Візантыі.

[17] *Кесарыя* — палесцінскі горад на ўсходнім беразе Міжземнага мора паміж Яфай і Дорай, які быў пабудаваны Ірадам Вялікім у другой палавіне І ст. да н. э. і названы так у гонар рымскага імператара (ад лац. цэзар, кесар). Кесарыя хутка расла, багацела і стала адным з галоўных гарадоў Палесціны. Яна служыла рэзідэнцыяй рымскіх пракуратараў і цэнтрам грамадска-палітычнага жыцця краіны, адыгрывала важную ролю ў гісторыі рас-

паўсюджання хрысціянства. Пасля падзення і разбурэння Іерусаліма Навуходаносарам Кесарыя стала сталіцай Палесціны. У часы крывавых паходаў Кесарыя іграла важную ролю як адна з крэпасцей краіны. Але з XIII ст. пасля яе разбурэння ў 1265 г. султанам Бібарсам стала занепадаць і зараз ад яе засталіся толькі руіны, за якімі захавалася старажытная назва даўняга горада.

[18] *Ісак* — адзін з легендарных біблейскіх патрыярхаў, сын Аўрама і Сары, якая нарадзіла яго ў глыбокай старасці. Цікавым і драматычным момантам біблейскай біяграфіі Ісака з'яўляецца славутае ахвяраванне Аўрама, яго бацькі. Бог загадаў апошняму прынесці ў ахвяру свайго любімага сына Ісака. Каб даказаць сваю вернасць усявышняму, Аўрам вырашыў выканаць яго волю, аднак у самы апошні момант, апавядаецца ў Бібліі, рука анёла адвяла занесены Аўрамам нож ад звязанага ім Ісака. Гэта апавяданне з'яўляецца сведчаннем пачатку працэсу адмены чалавечага ахвярапрынашэння і замены яго прынясеннем у ахвяру прадстаўнікоў жывёльнага свету ў першабытных плямёнаў.

[19] *Якаў* — патрыярх, міфічны роданачальнік ізраільскага народа. Паводле біблейскага падання, быў малодшым сынам-блізнюком Ісака і Равекі, падрабязны «жыццяпіс» якога падаецца ў першай кнізе Бібліі «Быццё». Купіўшы абманным чынам у свайго брата-блізнюка Ісака яго права першародства, Якаў, каб пазбегнуць у будучым яго помсты, накіраваўся ў Месапатамію, дзе наняўся служыць пастухом да свайго дзядзькі па маці Лавана за права ажаніцца на яго меншай дачцы Рахілі. За гэту згоду ён мусіў адслужыць Лавану сем гадоў. Але Лаван парушыў свае слова і замест Рахілі аддаў яму ў жонкі старэйшую дачку Лію, а каб атрымаць права на шлюб з Рахіляй, ён патрабаваў ад Якава далейшай службы на працягу яшчэ сямігадовага тэрміну. Якаў пагадзіўся. Пасля 20-гадовага знаходжання ў Месапатаміі ён вярнуўся на радзіму ў зямлю Ханаанскую і па дарозе атрымаў ад бога другое для сябе імя — Ізраіль. Маючы ад чатырох жонак 12 сыноў, Якаў (Ізраіль), паводле Бібліі, стаў роданачальнікам 12 каленаў (плямён) яўрэйскага народа і пражыў 147 гадоў.

[20] *Езекііль* — трэці вялікі старазапаветны прарок, належаў да жрэчаскага роду. Нарадзіўся ў часы панавання Іасіі, цара іудзейскага. Юнацкія гады правёў у Іудзеі. Калі яму было 25 гадоў ад нараджэння, яго вывезлі як палоннага ў Вавілон. Там на пятым годзе свайго паланення, як падаецца ў Бібліі, быў «закліканы богам» на прароцкую службу, якой аддаў больш чым 22 гады свайго жыцця. Будучы сучаснікам прарока Ераміі і цяжкіх выпрабаванняў ізраільскага народа, ён пільна сачыў за жыццём у Месапатаміі палоненых суайчыннікаў. Сваімі прароцтвамі Езекііль імкнуўся аблегчыць іх лёс, засцерагаючы ад бяды палоннага жыцця і канчатковай гібелі сярод язычнікаў. Ён суцяшаў суайчыннікаў надзеяй на вызваленне з палону, умацоўваў іх волю і веру ў надыход лепшых часоў. Біблейскае паданне сцвярджае, што ён быў выдадзены на смерць адным з іудзейскіх палонных князёў, якога ён выкрываў за яго ідаласлужэнне і амаральнае жыццё.

[21] *Сёлы Кедарскія* — арабскія пасяленні, заселеныя, паводле Бібліі, нашчадкамі Кедара, Аўрамавага сына Ізмаіла, якія вялі качавы вобраз жыцця ў Аравійскай пустыні і вылучаліся храбрасцю, воінскім майстэрствам, хітрасцю і варожасцю да ізраільцян.

[22] *Архангел Гаўрыіл* — у іудзейскай, хрысціянскай і мусульманскай міфалогіі адзін з вышэйшых анёлаў, які карыстаецца асаблівым даверам у самога бога. Паводле хрысціянскай легенды, Гаўрыіл паведаміў дзеве Марыі, што ў яе народзіцца Ісус Хрыстос, сын божы.

[23] *Нікадзім* — паводле біблейскага падання, славуты фарысей, член сінедрома, або вярхоўнага іудзейскага савета, настаўнік ізраільцян, князь яўрэйскі, які меў таемную начную гутарку з Ісусам Хрыстом, пасля якой стаў яго шчырым вучнем. Ён адкрыта выступіў супраць першасвяшчэннікаў і фарысеяў, якія пасылалі сваіх служак захапіць Ісуса Хрыста. Пасля пакут і ўкрыжавання Ісуса Хрыста прыняў хрышчэнне ад апосталаў, за што быў выгнаны іудзеямі з сінедрома і з Іерусаліма. Яму прыпісваецца апакрыфічнае евангелле.

[24] *Назаранін* — так у старазапаветнай частцы Бібліі называўся чалавек,

які даваў абяцанне адмовіцца ад віна, стрыжкі валасоў. За дзяцей такое абяцанне давалася бацькамі, і яно насіла характар свяшчэнства. Абяцанне мела дабравольны характар і давалася або пажыццёва або на пэўны час. У перыяд ранняга хрысціянства назарэямі называлі ўсіх хрысціян з іудзеяў, якія верылі ў Ісуса Хрыста, пазней сталі называць іудзействуючых хрысціян, умераных прыхільнікаў закону Майсея. Хрысціянская царква адносілася да назарэяў паблажліва, не лічыла іх ерэтыкамі. У іудзеяў жа, наадварот, назарэі — жыхары Назарэта, дзе, паводле біблейскага міфа, значную частку свайго жыцця правёў Ісус Хрыстос, не карысталіся элементарнай павагай, да іх ставіліся з адкрытай пагардай.

Кніга «Ісус Навін» у выданні Францыска Скарыны пачынаецца тэматычнай гравюрай, змешчанай на тытульным лісце. Зверху яе надпісана: «Исус Навин ведеть людей Ізраілевых через Іордан». З адваротнага боку тытульнага ліста пачынаецца вялікая прадмова Скарыны. Перад пасляслоўем да гэтага выдання змешчана віньетка з прадмовы да «Прытчаў прамудрага Саламона», і на першым лісце тэксту самой кнігі пададзена гравюрная застаўка, выкананая ў тэраталагічным стылі.

Гэта выданне Скарыны захавалася да нашага часу ў 11 экземплярах.

## Кніга «Юдзіф»

[1] *Царства Асірскае (Асірыя)* — старажытная дзяржава Блізкага Усходу, якая існавала на тэрыторыі сучаснага Ірака ад пачатку II тысячагоддзя да канца VII ст. да н. э. Ядром яе быў горад Ашур, а пераважную масу насельніцтва складалі акадцы, мова якіх адносілася да семіта-хаміцкай моўнай сям'і. У XVIII ст. да н. э. Ашур з суседнімі гарадамі падпарадкоўваўся вавілонскаму цару Хамурапі. У канцы XV—пачатку XIV ст. кіраўніку Ашура Ашурбаліту ўдалося стварыць моцную дзяржаву і падпарадкаваць свайму ўплыву Вавілонію. Яго пануючыя нашчадкі пачалі называць сябе царамі асірыйскімі. На працягу двух наступных стагоддзяў ім удалося падпарадкаваць Паўночную Месапатамію і захапіць шляхі ў Вавілон. Значнага дзяржаўнага ўздыму Асірыя дасягнула ў часы панавання Тыглатпаласара I (канец XII — пачатак XI ст.), які вёў паспяховыя войны з Вавiлоніяй, Сірыяй, Фінікіяй і іншымі краінамі. Пры Тыглатпаласары III (745—727 гг. да н. э.) Асірыя ператварылася ў магутную ваенную дзяржаву. У VII ст. да н. э. пачала занепадаць, пакуль пасля цяжкай і працяглай барацьбы (626—605 гг.) супраць кааліцыі Вавілоніі і Мідыі не пацярпела паражэнне і канчаткова не перастала існаваць як дзяржава.

[2] *Ніва (Ніневія)* — самы старажытны горад Асірыі на левым беразе р. Тыгр. Як пасяленне вядзе сваю гісторыю з V тысячагоддзя да н. э. і ўжо ў другой палавіне III тысячагоддзя стала адным з галоўных палітычных і рэлігійных цэнтраў Асірыі. У часы панавання Ашурбаніпала (VII ст. да н. э.) — сталічны горад Асірыйскай дзяржавы і важнейшы гандлёвы пункт на перакрыжаванні дарог з поўначы на поўдзень і ад Міжземнага мора да Персідскага заліва. Менавіта тады ў горадзе быў пабудаваны багаты царскі палац і заснавана вялікая бібліятэка, якая налічвала 30 000 гліняных таблічак, пакрытых клінапісам. У 612 г. да н. э. Ніва была захоплена, а ў 607 г. разбурана персідскім царом Кіяксарам і вавілонскім царом Набапаласарам і ў далейшым ужо не аднаўлялася.

[3] *Сарданапал* — міфічны, апошні асірыйскі цар, на якім закончылася панаваўшая на працягу амаль чатырнаццаці стагоддзяў асірыйская дынастыя цароў. Паводле легенды, ён у сваім жыцці вылучаўся схільнасцю да раскошы, любіў закрывацца ў сваім палацы і праводзіў час ва ўцехах. Гэты вобраз яго жыцця выкарысталі халдзейскі жрэц Беліс і мідзянін Арбак. Падняўшы паўстанне, яны закрылі Сарданапала ў Ніневіі і трымалі яго ў блакадзе на працягу двух гадоў. Тады Сарданапал, бачачы безвыходнасць свайго становішча, спаліў сябе ў палацы разам са сваімі жонкамі і багаццем. Гэта легендарнае апавяданне пра Сарданапала яшчэ ў старажытныя часы выклікала падазрэнне. У выніку гістарычных пошукаў аказалася, што апошнім асірыйскім царом

быў Сінашкун (Сарак). Рысы характару гэтага цара і лёс яго былі перанесены на міфічнага Сарданапала, імя якога стала хадзячай назвай, а сам вобраз, як ён пададзены ў легендзе, паслужыў асновай сюжэта аднайменнай трагедыі Байрана.

[4] *Арба* — міфічны герой, які ў аповесці выступае ў ролі мідыйскага ваяводы.

[5] *Мідыя* — старажытная краіна ў паўночна-заходніх абласцях Іранскага нагор'я. Першае ўпамінанне аб мідыйцах у асірыйскіх летапісах адносіцца да другой палавіны IX ст. да н. э. У IX—VIII стст. мідыйцы вялі барацьбу з Асірыяй. Паводле тых жа летапісных крыніц, Мідыйскае царства ўзнікла ў VIII ст. да н. э., яго сталіцай была Эктабама. У часы панавання цара Кіяксара (625—584 гг. да н. э.) Мідыя ператварылася ў вялікую дзяржаву Старажытнага Усходу. У саюзе з Вавілоніяй яна разграміла Асірыю, потым заваявала Урарту і іншыя краіны, а ў 559—549 гг. да н. э. была заваявана персамі і ўвайшла ў склад Персідскай дзяржавы.

[6] *Кір II Вялікі* (? — 530 г. да н. э.) — старажытнаперсідскі цар, якога Скарына ў сваёй прадмове называе Цірам, быў заснавальнікам дынастыі Ахеменідаў. У 558 г. узначаліў саюз персідскіх плямён, якія паўсталі супраць панавання мідыйцаў. У 550 г. заваяваў Мідыю, а пазней грэчаскія гарады ў Малой Азіі і значную частку Сярэдняй Азіі. У 538 г. захапіў Вавілон і далучыў яго да Персідскай дзяржавы. Імкнучыся ператварыць Іудзею ў плацдарм супраць Егіпта, выпусціў з вавілонскага палону іудзеяў, аднавіў Іерусалім, а таксама некаторыя фінікійскія гарады. У 530 г. да н. э. загінуў у бітве ў час свайго чарговага паходу ў Сярэднюю Азію.

[7] *Вавілонскае царства* — старажытная дзяржава часткі Месапатаміі (тэрыторыя сучаснага Ірака), якая ўзнікла ў пачатку II тысячагоддзя да н. э. і праіснавала да сярэдзіны VI ст. да н. э. Сваю назву атрымала ад сталічнага горада, пабудаванага, паводле біблейскай легенды, Німродам, адным з нашчадкаў міфічнага Хама. Пануючым насельніцтвам у ім было племя халдзеяў. У часы цара Хамурапі (1792—1750 гг. да н. э.) гэта дзяржава ператварылася ў буйную рабаўладальніцкую дэспатыю. У XV ст. трапіла пад уладу егіпецкіх фараонаў, а з 1300 г.— асірыйскага цара Ніна і на працягу многіх стагоддзяў была правінцыяй Асірыі. У 626 г. да н. э. асірыйскі намеснік Набапаласар, які па паходжанню быў халдзеем, аддзяліўся ад Асірыі і аб'явіў сябе вавілонскім царом. У часы панавання Навухаданосара II (604—562 гг. да н. э.) Вавілон дасягнуў найвышэйшага росквіту. У 538 г. пры Валтасары Вавілон быў заваяваны персідскім царом Кірам II. Пасля паходаў Аляксандра Македонскага Вавілонскае царства прыйшло ў заняпад, а яго сталіца паступова страціла сваё гістарычнае значэнне.

[8] *Дарый I* — старажытнаперсідскі цар (522—486 гг. да н. э.). На царскі трон уступіў у выніку падаўлення падуладных Персіі народаў. Каля 518 г. заваяваў паўночна-заходнюю частку Індыі, ■ ў 512 г., па сцверджанню Герадота, зрабіў няўдалы паход супраць скіфаў у Прычарнамор'е. У часы свайго панавання правёў рад ваенна-адміністрацыйных рэформ: падзяліў краіну на сатрапіі, рэарганізаваў армію, упарадкаваў падатковую сістэму, устанавіў адзіную залатую грашовую манету «дарык», вёў будаўніцтва гандлёвых дарог, храмаў і палацаў у розных гарадах царскай рэзідэнцыі ў Персепалі. Часы яго панавання былі перыядам найвышэйшай магутнасці дзяржавы Ахеменідаў і старажытнаперсідскай культуры.

[9] *Валтасар* — апошні вавілонскі цар (сярэдзіна VI ст. да н. э.). Імкнучыся адказаць персам супраціўленне, ён закрыўся ў вавілонскай крэпасці, дзе адкойчы наладзіў багаты банкет. Персам удалося авалодаць крэпасцю і забіць Валтасара. У біблейскай кнізе прарока Данііла змяшчаецца маляўнічае апісанне банкету гэтага вавілонскага цара.

[10] *Алаферн* — вымышлены літаратурны герой, у біблейскай аповесці пра Юдзіф выступае ў якасці ваяводы вавілонскага цара Навухаданосара II.

[11] *Вефулія (Ветулія)* — назва горада Палесціны, не засведчанага гістарычнымі крыніцамі.

[12] *Юдзіф* — галоўная гераіня аднайменнай гістарычнай аповесці. У час

нападу на Палесціну вавілонскіх войск яна здзейсніла гераічны ўчынак — забіла іх военачальніка Алаферна. Аўтар гэтай чыста свецкай аповесці «Юдзіф», якая дайшла да нас у перакладзе на грэчаскую мову, невядомы.

[13] *Ездра* — адзін з галоўных іудзейскіх святароў, які пабываў у вавілонскім палоне. Паводле біблейскай легенды жыў у часы панавання іудзейскага цара Іасіі. Будучы ў Вавілоне, ён звярнуў на сябе ўвагу цара Артаксеркса і заслужыў у яго асаблівы давер. Цар зрабіў яго сваім упаўнаважаным па справах іудзеяў. Ад Артаксерса ён атрымаў паўнамоцтвы вывесці ў Палесціну іудзеяў, якім не ўдалося вярнуцца на радзіму з першай часткай перасяленцаў, даставіць у Іерусалім дары і прынашэнні ад цара і народа для храма, назіраць за захаваннем закону і парадку сярод насельніцтва. Сваю дзейнасць на радзіме ён пачаў з правядзення рада неабходных рэформ, якія мелі на мэце адраджэнне іудзейскага народа пасля вавілонскага палону. Па яго даручэнню іудзейскія кніжнікі сталі рабіць пераклады кніг Майсея на арамейскую мову і суправаджаць іх тлумачэннямі. Імем бога Яхве і персідскага цара Кіра ён сумесна з Неяміем дамогся скасавання змешаных шлюбаў і выгнання з Палесціны іншаплямённых жонак іудзеяў з іх дзецьмі, якім забараняўся доступ у Іерусалім. Гэтаму іудзейскаму рэфарматару прыпісваецца ўвядзенне ў літаратурны ўжытак халдзейскай (арамейскай) мовы замест забытай у палоне старажытнаяўрэйскай, аб'яднанне ў адзіны звод «свяшчэнных кніг» Старога запавету Бібліі, выпраўленне пашкоджаных спісаў, а таксама аўтарства трэцяй і чацвёртай кніг «Царствы», двух кніг «Параліпаменона» і адной кнігі Бібліі, вядомай пад яго імем. Што ж датычыцца другой і трэцяй кніг «Ездра», якія дайшлі ў грэчаскім і лацінскім перакладах і прыпісваюцца па традыцыі гэтаму аўтару, то яны не лічацца кананічнымі, не з'яўляюцца арыгінальнымі і ўзніклі значна пазней жыцця самога Ездры.

[14] *Нікея* (цяпер Ізнік) — старажытны і сярэдневяковы горад Малой Азіі, размешчаны ў паўднёва-заходняй частцы сучаснай Турцыі. У IV ст. да н. э. тут кіраваў македонскі цар Антыгон I, які заснаваў гэты горад і назваў яго сваім імем. Пазней палкаводзец Аляксандра Македонскага Лізімах авалодаў большай часткай Малой Азіі і перайменаваў Антыгонію ў Нікею ў гонар сваёй жонкі. З таго часу Нікея становіцца важным пунктам, які віфанскія цары робяць сваёй рэзідэнцыяй. У I ст. да н. э. горад падпаў пад уладу Рымскай імперыі, але захаваў права аўтаноміі. У 325 г. тут быў скліканы першы ўсяленскі царкоўны сабор, на якім разглядалася справа аб ерасі прасвітара Арыя. З канца IV і да пачатку XIII ст. Нікея была буйным гандлёва-рамесніцкім цэнтрам Візантыі.

[15] *Даніїл* — адзін з чатырох вялікіх пракоаў, які яшчэ ў маладосці быў вывезены ў Вавілон у час першага захопу Іерусаліма Навуходаносарам II. Там пры двары гэтага цара ён выхаваўся ў халдзейскім духу і, паводле вавілонскага звычаю, быў перайменаваны ў Валтасара. За час навучання Даніїл праявіў выключныя поспехі і здольнасці і быў прызначаны старшынёй вавілонскіх мудрацоў, што дало яму магчымасць адыгрываць важную ролю пры двары Навуходаносара і яго пераемнікаў па трону. Пасля падзення Вавілона ён карыстаўся выключнай павагай у намесніка персідскага цара Кіра ў Вавілоне мідыйца Дарыя, які зрабіў яго адным са сваіх бліжэйшых суправіцеляў. Такое выключнае становішча прыдворнага служкі Даніїла выклікала зайздрасць туземных князёў, якія дамагаліся знішчэння яго, дзеля чаго прыдумвалі розныя прычыны. Але ва ўсіх неверагодных здарэннях яго, сцвярджаецца ў Бібліі, выратоўваў сам бог. Валодаючы вялікай сілай уздзеяння на цара Дарыя, Даніїл правёў апошнія гады свайго жыцця ў прароцкіх сузіраннях будучых лёсаў свайго іудзейскага народа і, паводле біблейскай легенды, нават вылічыў час вызвалення іудзеяў з вавілонскага палону, які адбыўся ў часы панавання Кіра ў 536 г. да н. э. У той жа год састарэлы прарок Даніїл і памёр у Вавілоне.

[16] *Халдзейская мова* — дыялект, якім карысталася насельніцтва старажытных Сірыі і Палесціны. Яна выцесніла з літаратурнага ўжытку старажытнаяўрэйскую мову пасля падзення Іудзеі ў 586 г. да н. э. і па сваіх рысах адносілася да сям'і семіцкіх моў, у якую ўваходзяць арамейская, хананейская, фінікійская, яўрэйская, арабская, абісінская і іншыя мовы.

Кніга «Юдзіф» друку Францыска Скарыны захавалася ў 9 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання змешчана тэматычная гравюра з надпісам: «Іудиф-вдовица отсече главу Олоферну-воеводе». Прадмова Скарыны заканчваецца віньеткай, запазычанай з прадмовы да кнігі «Прытчы прамудрага Саламона». На першай старонцы тэксту змешчана гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Навін».

## Біблія

[1] *Біблія* ўяўляе сабой зборнік старажытных рэлігійных легенд, гістарычных паданняў, розных літаратурных і фальклорных твораў, складзеных у розныя часы многімі асобамі. Нягледзячы на мноства змешчаных у ёй гістарычных памылак, фантастычных звестак і шматлікіх супярэчнасцей, яна выдаецца царквой за «свяшчэннае пісанне» і складаецца з дзвюх частак. Першая носіць назву Старога запавету і ўключае творы, у якіх апавядаецца пра дахрысціянскія часы, г. зн. пра часы да н. э. Другую частку Біблії, Новы запавет, складаюць кнігі, у якіх апісваецца зямное жыццё і дзейнасць міфічнага Ісуса Хрыста і пашырэнне яго вучэння пасля яго «зямной» смерці.

[2] *Грыгорый Вялікі (Дваяслоў)* — царкоўны пісьменнік (каля 540—604 гг.), папа рымскі з 590 да 604 г. Паходзіў з сям'і патрыцыя. Будучы рымскім прэтарам, пакінуў пасаду, сваё багацце аддаў на заснаванне 7 манастыроў і сам стаў манахам. Пасля смерці папы Пелагія II быў абраны на папскі трон. Будучы папай, пашыраў сферы ўплываў рымскай царквы, дзеля чаго пасылаў сваіх месіянераў у Брытанію да англа-саксаў, у Іспанію да вестготаў, умешваўся ў царкоўныя справы Францыі і Афрыкі, заяўляў аб сваім выключным праве выступаць вярхоўнай апеляцыйнай інстанцыяй для ўсёй каталіцкай царквы. З яго дзейнасцю ўзмацняюцца прэтэнзіі рымскіх пап на сусветнае духоўнае панаванне. Рэфармаваў царкоўнае песнапенне і пакінуў пасля сябе рад твораў багаслоўскага і рэлігійна-маральнага зместу, у тым ліку «Пастырскае правіла», якое на працягу многіх гадоў было сапраўды кодэксам для духавенства. Разам з тым ён варожа ставіўся да свецкай адукацыі, знішчаў многія антычныя літаратурныя помнікі. Вёў змаганне з канстанцінопальскім патрыярхам за першынствуючае становішча ў хрысціянскай царкве. За свае рэлігійныя «подзвігі» быў далучаны хрысціянскай царквой да ліку святых. Яго творы ў свой час былі надзвычай пашыраны ў краінах Еўропы, былі таксама вядомы і на землях усходніх славян. Вось чаму ў сваёй «Прадмове... ва ўсю Біблію» Ф. Скарына невыпадкова называе Грыгорыя Вялікага «учителем вселенским».

[3] *Макавейскія кнігі,* вядомыя ў яўрэяў пад назвай кніг Асманеяў,— гэта чатыры кнігі, напісаныя рознымі аўтарамі ў розны час, якія мелі на мэце сфальсіфікаваць гістарычныя факты ў інтарэсах іудзейскага жрэчаства. Першыя тры кнігі Макавеяў увайшлі ў хрысціянскі канон Біблії, а чацвёртая адкінута з прычыны апакрыфічнасці зместу. Першая з іх была напісана на рубяжы II—I стст. да н. э. на яўрэйскай мове, але захавалася толькі ў грэчаскім перакладзе. У ёй пасля кароткіх заўваг пра заваяванні Аляксандра Македонскага і паказу страшнага ганення сірыйскага цара Антыёха IV на яўрэяў і іх рэлігію далей паведамляецца аб паўстанні іудзейскага свяшчэнніка Матафі ў абарону сваёй веры і бацькаўшчыны, а потым апісваюцца подзвігі яго сыноў Іуды, Іанафана і Сімона Макавеяў. Аўтар гэтай кнігі быў выразнікам інтарэсаў найбольш агрэсіўнай групы іудзейскіх рабаўладальнікаў, якія падтрымлівалі заваёўніцкую палітыку Макавеяў.

Другая кананічная кніга Макавеяў не працяг першай кнігі, а толькі больш падрабязнае, пашыранае апісанне некаторых падзей часоў Іуды Макавея. Першыя два раздзелы змяшчаюць два пасланні палесцінскіх іудзеяў да аднаверцаў у Егіпце, у якіх яны паведамляюць аб перанесеных імі ганеннях і пакутах ад Антыёха IV і аб выратаванні іх ад ворагаў подзвігамі Іуды Макавея. Далей паведамляецца пра крывавыя міжусобіцы рада іудзейскіх першасвяшчэннікаў і падаецца малюнак жахлівай лютасці сірыйскага цара да іудзеяў. У канцы прыводзяцца прыклады высокай маральна-рэлігійнай доблесці і самаадданасці веравызнанню сваіх бацькоў. Прымаючы пад увагу, што арыгінал

тэтай кнігі дайшоў на грэчаскай мове, можна меркаваць, што яе аўтарам быў іудзей, які паходзіў з элінізаванай егіпецкай Александрыі.

Трэцяя кніга Макавеяў мае мала агульнага з дзвюма першымі кнігамі, пададзеныя ў ёй падзеі адносяцца да іншага часу і мясцовасці. Зместам яе служыць апісанне ганенняў егіпецкага цара Пталамея IV Філапатара на егіпецкіх іудзеяў. Узнікла яна, верагодна, у Александрыі на грэчаскай мове ў I ст. да н. э., але аўтарства яе таксама не высветлена.

Чацвёртая кніга Макавеяў, якая не ўвайшла ў біблейскі канон, была напісана на грэчаскай мове ў I ст. да н. э. Асноўны яе змест — паказ пакутніцкай смерці старца Елеазара і Саламоніі з усімі яе сямю сынамі. Гэта кніга прыпісвалася Іосіфу Флавію, і яна нават падавалася ў ліку яго твораў. Але ні каталіцкая, ні праваслаўная царква не ўключылі яе ў кананічны звод Бібліі, бо іудзейскае багаслоўе спалучаецца ў ёй з ідэалістычным вучэннем філасафаў-стоікаў.

4 *«Александрыя»* — помнік сусветнай літаратуры, прысвечаны апісанню жыцця і подзвігаў Аляксандра Македонскага. Арыгінал твора з'явіўся ў II—III стст. на грэчаскай мове ў Егіпце і атрымаў шырокае распаўсюджанне ў сярэднія вякі на Захадзе і на Усходзе. У цэнтры твора ідэальны вобраз Аляксандра, які паказаны выдатным палкаводцам, чалавекам высокіх фізічных сіл і духоўных якасцей, мудрым і знаходлівым, мужным і высакародным. Сюжэт твора займальны, драматычна напружаны, багаты прыгодніцкімі і казачна-фантастычнымі элементамі. Усходнім славянам «Александрыя» стала вядома ў часы Кіеўскай Русі XI—XII стст. На Беларусі бытавала ў дзвюх рэдакцыях — сербскай і лацінскай. Першыя пераклады на беларускую мову былі зроблены ў XV ст. Як сведчаць розныя крыніцы, гэты твор карыстаўся вялікай папулярнасцю ў беларускіх чытачоў XVI—XVIII стст. Раман пра Аляксандра Македонскага добра ведаў і Францыск Скарына, сведчаннем чаго служыць згадка яго ў «Прадмове... ва ўсю Біблію».

5 *«Троя»* — адзін з найбольш ранніх помнікаў перакладной літаратуры Беларусі, сюжэтам для якога паслужыў трагічны лёс малаазіяцкага г. Троі, зруйнаванага грэчаскімі плямёнамі ў час Траянскай вайны каля 1184 г. да н. э. Гераічнае змаганне грэчаскіх і траянскіх герояў, якія не адзін раз ваявалі пад сценамі Троі, давала багаты матэрыял для народных паданняў і легенд. Пазней частка іх была выкарыстана Гамерам у славутых эпічных паэмах «Іліяда» і «Адысея». Але мноства разнастайных варыянтаў аб траянскіх падзеях засталося за рамкамі гамераўскіх паэм і прадаўжала бытаваць у вуснай перадачы, падвяргаючыся творчым апрацоўкам. Гэты фальклорны матэрыял служыў багатай крыніцай і для пазнейшых антычных пісьменнікаў і гісторыкаў, якія ў сваіх творах закранalі і па-свойму адлюстроўвалі падзеі Траянскай вайны, акружанай у народных паданнях рамантычным арэолам.

Першыя звесткі аб Траянскай вайне ўсходнія славяне атрымалі па паўднёва-славянскаму перакладу Хронікі Іаана Малалы (VI ст.) яшчэ ў часы Кіеўскай Русі. У XVI ст. аповесць пра Трою, як сведчыць Скарына, была ўжо шырока вядома на Украіне і Беларусі. Але найбольшую папулярнасць на ўсходнеславянскіх землях «Троя» атрымала дзякуючы перакладу праз балгарскае пасрэдніцтва грэчаскай апрацоўкі, якая была змешчана ў Хроніцы Манасіі (XIV ст.). У гэтым творы паядынкі траянскіх герояў нярэдка напамінаюць рыцарскія турніры, а сама асаджаная Троя нагадвае феадальны замак. Аўтар асуджае жорсткасць на вайне.

6 *«Быццё»* — кніга, якой адкрываецца кананічны звод Старога запавету. Створана ў V ст. да н. э. на старажытнаяўрэйскай мове, у II ст. да н. э. перакладзена на грэчаскую мову і названа «Генезіс», г. зн. «Паходжанне». У гэтай кнізе выкладаецца фантастычная гісторыя «стварэння» свету і чалавека богам, апісваецца міфічная гісторыя чалавецтва да так званага патопу і пасля яго, а таксама сам патоп. Падзеі даведзены да часоў легендарных патрыярхаў Аўрама, Ісака і Якава. Смерцю апошняга і яго сына Іосіфа завяршаецца апавяданне ў кнізе «Быццё». Цесна звязаная сваім зместам з усім так званым Пяцікніжжам Майсея, яна ўяўляе сабой своеасаблівыя ўводзіны да наступных біблейскіх кніг («Выхад», «Левіт», «Лічбы» і «Другі закон»), змест якіх прысвечаны апісанню станаўлення і развіцця легендарнага жыцця шматпля-

меннага старажытнаяўрэйскага народа і зараджэнню ў ім прыкмет арганізаванага грамадскага ладу з уласцівай яму сістэмай светапогляду, традыцый і заканадаўства, прасякнутых міфалагічнымі уяўленнямі, характэрнымі не толькі яму, але і іншым старажытным народам тагачаснага Блізкага Усходу. Змест, вобразы, сюжэты кнігі «Быццё» шырока выкарыстоўваліся ў фальклоры, літаратуры і мастацтве.

[7] *Аарон* — асоба міфічная. Паводле біблейскай легенды, першасвяшчэннік ізраільскага народа, сын Амрама і Іахаведы, левіт, старэйшы брат міфічнага прарока Майсея, дзейсны яго супрацоўнік і памочнік у справе «вызвалення сваіх суайчыннікаў ад егіпецкай няволі». Быў заклікаиы да гэтай дзейнасці самім богам, які адвёў яму 123 гады зямнога жыцця і надзяліў яго род правам першасвяшчэнства. Менавіта ад яго першасвяшчэнніцкі сан зрабіўся спадчынным і перадаваўся да старэйшага прадстаўніка ў яго родзе. Астатнія прадстаўнікі гэтага жрэчаскага роду выконвалі абавязкі свяшчэннікаў. Аб велізарным значэнні гэтай жрэчаскай касты ў тагачасным грамадскім жыцці сведчыць той факт, што першасвяшчэннікі прымалі самы дзейсны ўдзел як у рэлігійных, так і грамадска-палітычных справах. Яны служылі ў войску ў якасці кіраўнікоў, пісцоў і простых воінаў. Амаль усе ізраільскія суды былі запоўнены свяшчэннікамі, якія судзілі народ па закону Майсея. Але галоўным і важнейшым іх абавязкам была служба алтару, вывучэнне закону і навучанне народа. Апрача іх ніхто не меў права наблізіжацца да алтара, запальваць свяцільні, курыць фіміям, прымаць ахвярапрынашэнні і ажыццяўляць розныя іншыя «свяшчэнныя» дзеянні. Галоўным жа начальнікам над свяшчэннікамі і над усім племем левітаў з'яўляўся сам першасвяшчэннік, які прадстаўляў народ свайго племя, насіў спецыяльнае адзенне, быў кіраўніком судовых спраў, тлумачальнікам «волі боскай» і вестуном ісціны ў апошняй інстанцыі. Ён абвяшчаў будучы лёс краіны і народа, карыстаўся выключнымі правамі і адыгрываў выдатную ролю ў яго гісторыі, таму нярэдка здаралася, што вярхоўная ўлада і годнасць першасвяшчэнніка спалучаліся ў адной асобе. Падзенне Іерусаліма ў часы Рымскай імперыі паклала канец існаванню іудзейскага першасвяшчэнства.

[8] *Валаам* — міфічны месапатамскі вяшчун, прарок. Паводле легенды, выкладзенай у Бібліі, Валаам, спакушаны багатымі дарамі, пагадзіўся прыняць прапанову маавіцянскага цара Валака — магічнымі сродкамі перашкодзіць пранікненню яўрэяў у Палесціну, нягледзячы на перасцярогу і ўнушэнне з неба. Аднак задума Валака не здзейснілася. Калі пасля багатага піру вяшчун быў выведзены на гару, з якой добра бачыў ізраільцян, каб пракласці іх і забяспечыць маавіцянам перамогу, кожны раз з яго вуснаў замест пракляцця зрывалася велічнае благаслаўленне «богам абранага» народа. Валаам загінуў у час агульнага вынішчэння ізраільцянамі маавіцян.

[9] *Самсон* — старажытнаяўрэйскі міфічны герой, біблейскі суддзя, які праславіўся сваімі подзвігамі ў барацьбе з філісцімлянамі і вылучаўся звышнатуральнай адвагаю і сілай. Паводле легенды, паходзіў з яўрэйскага племя Дана, якое найбольш падвяргалася прыгнёту з боку філісцімлян. Крыніцай казачнай магутнасці Самсона цудадзейна служылі яго валасы, якія ён ніколі не павінен быў стрыгчы. Калі Самсон стаў дарослым, ён закахаўся ў філісцімлянку Далілу і, насуперак волі бацькоў, пажадаў яе мець за жонку. Гэта стала прычынай розных няшчасцяў і прыгод. Аднойчы ў дарозе да сваёй нявесты Самсон сустрэўся з львом, які напаў на яго і якога ён разарваў уласнымі рукамі. Неўзабаве пасля вяселля Самсон на пэўны час пакінуў сваю жонку і накіраваўся ў дом сваіх бацькоў, а калі вярнуўся, аказалася, што яе выдалі замуж за другога чалавека, які быў яго шлюбным сябрам. Скупляючы сваю віну перад зяцем, цесць прапанаваў Самсону ў жонкі меншую дачку, але Самсон, не зважаючы на яе выключную прыгажосць, адмовіўся ад яе і пачаў помсціць філісцімлянам за такую здраду. Для гэтага ён злавіў 300 лісіц, звязаў іх папарна хвастамі, паміж хвастамі прывязаў па факелу і выпусціў на тэрыторыю філісцімлян. Пачаўся знішчальны пажар. Тады, спаганяючы зло на віноўніку прычыненых ім бедстваў, філісцімляне схапілі цесця Самсона і спалілі яго разам з двойчы выдадзенай замуж дачкою. Але гэта яшчэ больш абурыла магутнага волата, і ён, як апісваецца ў біблейскай кнізе

«Суддзі», узброены толькі адною сківіцай асліцы, знішчыў 1000 філісцімлян. Аднойчы філісцімляне імкнуліся знішчыць Самсона, які заначаваў у зачыненым імі горадзе Газе, але ён, прачнуўшыся апаўночы, разбурыў гарадскую браму і вынес яе разам з касякамі на вяршыню суседняй гары.

Давер Самсона да пакаханай ім філісцімлянкі Далілы ў рэшце рэшт абярнуўся для яго самога трагедыяй. Сквапная да абяцаемага суайчыннікамі дарагога падарунка крывадушная Даліла паабяцала выведаць у Самсона, у чым сакрэт яго неверагоднай сілы, і гэта ёй удалося. Выкарыстаўшы зручны момант, філісцімляне абстрыглі соннага Самсона, потым асляпілі і закавалі ў ланцугі. Калі аднойчы сляпога Самсона прывялі ў храм, каб прынесці яго на пацеху прысутных у ахвяру богу Дагону, ён папрасіў праведніка падвесці яго да апорнага слупа храма, каб можна было да яго прытуліцца. Праведнік выканаў просьбу. Тады Самсон, абмацаўшы апору, адчуў сваю былую сілу і з усёй моцы так штурхнуў гэты слуп, што храм рухнуў і пад сваімі абломкамі пахаваў Самсона, а разам з ім і мноства прысутных у храме філісцімлян. У гэтым міфічным паданні пра Самсона знайшлі сваё адлюстраванне гістарычныя падзеі XII—XI стст. да н. э., звязаныя з барацьбой старажытнаяўрэйскіх плямён з філісцімлянамі. Відаць, на гэтай біблейскай легендзе ляжыць яўны адбітак уплыву вавілонскай, а магчыма, і грэчаскай міфалогіі, у прыватнасці міфаў пра Гільгамеша і Геракла.

[10] *Кніга «Товіт»* — адна з найбольш павучальных біблейскіх кніг. Час і месца ўзнікнення дакладна невядома. Першапачатковым тэкстам яе прызнаецца грэчаскі, напісаны кімсьці з 70 тлумачальнікаў Бібліі. Галоўным яе героем выступае Товіт, які сваё дзяцінства правёў у строгім захаванні закона Майсея. У часы панавання асірыйскага цара Салманасара трапіў у палон, быў выведзены з роднага горада і паселены ў сталіцы Асірыйскага царства Ніневіі. Вылучаючыся сваёй рэлігійнай праведнасцю на радзіме, ён не адмовіўся ад засвоенага ім набожнага вобраза жыцця і ў палоне, дзе праяўляў свае дабрачыннасці да гаротных аднапляменнікаў, за што падвяргаўся праследаванням з боку асірыйскіх улад і перажыў рад цяжкіх выпрабаванняў (пазбавіўся зроку і інш.). Пададзеная ў гэтай кнізе гісторыя жыцця Товіта вылучаецца сваёй выключнай павучальнасцю, узорам самаадданай грамадскай дзейнасці, падпарадкаванай неабмежаванай любві да гаротных і прыгнечаных сваіх суайчыннікаў, прыкладам захавання старых патрыярхальных сямейных узаемаадносін і нораваў, народных традыцый.

[11] *Кафізма* — грэчаскі царкоўны тэрмін, які абазначае назву кожнага з 12 раздзелаў, на якія падзелен Псалтыр ва ўжытку праваслаўнага богаслужэння.

[12] *Фаран* — пустынная паўночная гарыстая частка Сінайскага паўвострава паміж Палесцінай, Егіптам і Ідумеяй, дзе, паводле біблейскай легенды, пасялілася міфічная Агар са сваім сынам Ізмаілам, пасля таго, як яна была адпушчана з дому Аўрама і заблудзілася каля Вірсавіі, дзе спыняўся Майсей і хаваўся будучы цар Давыд ад праследаванняў Саула.

[13] *«Апакаліпсіс»* — апошняя кніга Новага запавету Бібліі, якая змяшчае ў сабе прароцтвы аб канцы свету. Яе аўтарства хрысціянская царква прыпісвае пяру Іаана Багаслова. Напісаны хрысціянінам з яўрэяў на востраве Патмас, гэты твор уяўляе сабой выклад сусветнай і царкоўнай гісторыі, пачынаючы ад праследаванняў хрысціян імператарам Неронам і да мяркуемага «канца свету». Узнікшы дзесьці паміж 67 і 69 гг. у часы панавання рымскага імператара Гальбы, ён з'яўляецца адным са старажытнейшых твораў хрысціянскай літаратуры, які захаваўся да нашага часу. Па свайму характару «Апакаліпсіс» цесна прымыкае да прароцкіх кніг Бібліі Старога запавету і нават часткова з'яўляецца прамым запазычаннем з іх. Тут у форме самых фантастычных прывідаў, нібы адкрытых аўтару самім богам, аўтар вядзе гутарку пра шырокае кола пытанняў, звязаных з будучым лёсам свету і чалавецтва, а іменна пра хуткі прыход на зямлю Хрыста, сына боскага, і з'яўленне Антыхрыста, пра непрымірымую паміж імі барацьбу, пра страшны суд для ўсіх жывучых на зямлі, пра канец свету і ўстанаўленне на зямлі вечнага «тысячагадовага царства». У гэтай рэлігійна-містычнай кнізе адбіўся пачатак працэсу адпачкавання хрысціянства ад іудзейскай рэлігіі, нягледзячы на тое што ў ёй

яшчэ даволі моцны іудзейскі элемент, які пераважае над хрысціянскім. Ф. Энгельс падкрэсліваў, што «Апакаліпсіс» адлюстроўваў незадаволенасць і бунтарскія настроі народа, які знаходзіўся пад прыгнётам Рымскай імперыі, а таму і з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі ранняга хрысціянства. Рэлігійны змест «Апакаліпсіса» прасякнуты метафарычнай сімволікай, паводле якой Рымская імперыя асацыіруецца з міфічным вобразам Антыхрыста, сталічны Рым — з вялікай блудніцай, а рымскі імператар хаваецца пад «звярыным лікам» 666. «Апакаліпсіс» паслужыў асновай хрысціянскай эсхаталогіі — вучэння аб «канцы свету». Містычныя і запалохваючыя малюнкі страшнай будучыні чалавецтва, пададзеныя ў гэтай кнізе, служылі і служаць адным з ідэалагічных сродкаў уздзеяння на псіхалогію веруючых у руках рэакцыйных сіл грамадства, царквы і сектантаў.

## Кніга «Быццё»

Францыск Скарына, не адступаючы ад свайго прынцыпу, не абмежаваўся напісаннем і падачай тэксту публіцыстычна-праграмнай прадмовы да ўсяго зводу біблейскіх кніг, бо лічыў, што яна дае толькі яго агульны погляд на ўсю Біблію, але спецыяльна не закранае яе першай кнігі «Быццё», з якой пачынаецца Стары запавет. Таму ў дадатак да агульнай прадмовы да ўсёй Бібліі ён падрыхтаваў і змясціў яшчэ «Сказание во первые книги Моисеовы, рекомые Бытья», якое, па сутнасці, з'яўляецца своеасаблівай анатацыяй зместу прапануемай чытачу кнігі.

[14] *Ісаў* — першы сын міфічнага Ісака і Равекі, брат-блізнюк Якава, міфічны родапачынальнік ідумеяў. Паводле біблейскай легенды, быў выдатным паляўнічым і любімым сынам Ісака. Пасля таго як у яго абманным шляхам Якаў купіў за сачыўкавую поліўку права першародства, быў пазваны Эдомам. За вераломны ўчынак свайго брата-блізнюка спачатку нават пагражаў знішчыць Якава, але потым зміраўся са сваім лёсам і пасяліўся ў гарыстай і пустыннай зямлі на поўдзень ад Палесціны, якая потым атрымала назву Ідумеі.

[15] *Лаван* — арамеец (сірыец), паводле біблейскай легенды, даводзіўся родным братам Равецы, жонцы Ісака. Гэта ў яго знайшоў прытулак вераломны Якаў, калі ратаваўся ад праследаванняў свайго брата Ісава.

[16] *Іосіф* — адзін з легендарных персанажаў біблейскай кнігі «Быццё», першы і любімы сын міфічнага патрыярха Якава ад Рахілі, якога зненавідзелі ўсе яго браты і прадалі яго ў рабства праходзячаму гандлёваму каравану, а той у сваю чаргу перапрадаў яго ў Егіпет царадворцу фараона. Там Іосіф дасягнуў досыць высокага становішча пры двары фараона, стаў фактычна кіраваць эканамічным жыццём Егіпта. Калі ганімыя голадам прыбылі ў Егіпет за хлебам яго браты, ён прапанаваў ім і ўсяму роду Якава перасяліцца на жыхарства ў Егіпет і выклапатаў у фараона для іх правінцыю Гесем, дзе яны і пасяліліся. Пражыўшы 110 год, ён завяшчаў братам, каб па выхаду з Егіпта яны перанеслі яго прах на радзіму і пахавалі яго там разам з бацькам. Гэты біблейскі сюжэт пра Іосіфа пазней шырока распрацоўваўся ў сусветнай літаратуры і мастацтве эпохі сярэдневякоўя, Адраджэння і новага часу (напрыклад, вядомая тэтралогія Т. Мана «Іосіф і яго браты»).

[17] *Гесем* — тэрыторыя, якая, паводле Бібліі, размяшчалася ў Ніжнім Егіпце, дзе жылі яўрэі ад часоў патрыярха Якава да свайго выхаду пры Майсею. У гэтай акрузе працай катаржан былі пабудаваны пагранічныя гарады Піфан і Рамсес, якія служылі для егіпецкіх фараонаў апорнымі пунктамі, адкуль яны пачыналі свае ваенныя паходы ў Азію.

Чатырнаццатая кніга Бібліі выдання Францыска Скарыны — «Быццё» захавалася да нашага часу ў 16 экземплярах.

Кніга адкрываецца тытульным лістом да ўсіх асобна выдадзеных выпускаў Бібліі. На ім у аздобленай гравюрнай рамцы пададзен чырвонай фарбай загаловак: «Бівлия руска выложена доктором Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Наступны ліст займае тэматычная гравюра, зробленая на біблейскую тэму:

пра выгнанне з неба і знішчэнне анёламі д'яблаў. За ёй пачынаецца тэкст вялікай праграмнай прадмовы Скарыны «во всю Бивлию», за якой ідзе «Сказание во первые книги Моисеовы, рекомые Бытья». Пасля гэтага тэксту змешчана другая тэматычная гравюра, у якой у шасці рамках адлюстравана біблейская легенда аб стварэнні богам зямлі і чалавека.

Уласны тэкст кнігі «Быццё» адкрываецца ілюстрацыйнай застаўкай, на якой паказаны бог у акружэнні шматлікіх істот, «створаных» ім. У канцы кнігі перад тэкстам пасляслоўя змешчана віньетка, якая ўпершыню была выкарыстана ў прадмове да «Прытчаў Саламона». Апрача пералічаных ілюстрацый у некаторых экземплярах гэтай кнігі ёсць яшчэ гравюрны партрэт самога Францыска Скарыны, які па яркасці і выразнасці бадай самы лепшы, аднак ён больш позняга паходжання.

## Кніга «Выхад»

[1] *Херувім* — у іудзейскай і хрысціянскай міфалогіі — вышэйшы чын сярод анёлаў.

[2] *Алтар*—так у старажытныя часы называлася месца, на якім жрацы прыносілі богу ахвяраванні. Пазней, калі сталі будаваць пастаянныя культавыя храмы, так называлася галоўная ўсходняя частка гэтага будынка, у якой здзяйснялася богаслужэнне. У яўрэяў алтары адрозніваліся паміж сабою па сваёй форме і архітэктуры ў залежнасці ад тых мэт, дзеля якіх яны служылі. У іх былі алтары для спальвання жывёлы і алтары бяскроўныя, на якіх спальвалі хлебныя дары і курылі фіміям. У хрысціянскім царкоўна-рэлігійным кульце алтары з'явіліся толькі ў часы панавання рымскага імператара Канстанціна Вялікага (IV ст.), з V ст. пачалі ўпрыгожваць алтар крыжам, а з часоў папы Грыгорыя VI у каталіцкай царкве стала звычаем будаваць у касцёле па некалькі алтароў, адзін з якіх з'яўляўся галоўным. У праваслаўнай жа царкве алтаром прынята называць частку культавага храма, прызначаную для свяшчэннаслужыцеляў і аддзеленую ад сярэдняй часткі храма высокім іканастасам.

[3] *Фіміям*— араматычнае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для акурвання ў царкоўным храме.

[4] *Прытвор* — прыбудова да паўночнай або паўднёвай сцяны храма. Прытворы асабліва былі распаўсюджаны ў смаленска-полацкім і пскоўскім дойлідстве, а таксама ў драўлянай архітэктуры Рускай Поўначы.

[5] *Трэбнік* — богаслужбовая кніга, па якой здзяйсняюцца розныя царкоўныя абрады: хрэсьбіны, вянчанне шлюбаў, адпяванне нябожчыкаў.

Другая кніга так званага Пяцікніжжа Майсея — «Выхад» паводле свайго міфічнага зместу з'яўляецца лагічным працягам папярэдняй ёй біблейскай кнігі «Быццё». У ёй апісваецца далейшы лёс 12 плямён яўрэйскага народа. Паказваюцца надзвычай жорсткія ўмовы іх паднявольнага жыцця ў Егіпце пасля смерці Іосіфа і прыходу да ўлады новага фараона, які, незадаволены хуткім ростам яўрэйскага насельніцтва, выдаў загад для павівальных бабак, каб яны, прымаючы роды ў цяжарных ізраільцянак, бязлітасна знішчалі яўрэйскіх немаўлят мужчынскага полу. Галоўны герой гэтай кнігі — міфічны Майсей. У «Выхадзе» падаецца надзвычай складаная, поўная неверагодных прыгод і драматызму гісторыя яго жыцця ад нараджэння і да таго часу, калі ён стаў правадыром свайго народа і вывеў яўрэяў з егіпецкай няволі. Толькі на другі год іх блуканняў па пустыні, апавядаецца ў Бібліі, бог на адной з гор Сінайскага паўвострава даў ім праз Майсея свой «закон», паводле якога яны павінны былі жыць і ўсталёўваць свае ўзаемаадносіны з богам. Захаванне гэтага дагавору-запавету стала ўмовай заступніцтва ўсявышняга за яўрэяў, іх будучага лёсу і выратавання. Майсей з гэтага часу стаў фактычным заканадаўцам свайго народа, складальнікам маральнага кодэкса, асноўная сутнасць якога сфармулявана ў славутых 10 запаведзях. Далей у творы падаецца падрабязны пералік самых разнастайных і дэталёвых настаўленняў і правіл, якія датычаць быту яўрэяў, іх звычаяў і рэлігійных абрадаў. Кніга «Вы-

ход» завяршаецца апісаннем будаўніцтва свяцілішча і асвячэннем яго «па даручэнню бога» заканадаўцам Майсеем.

Другая кніга скарынаўскага выдання Пяцікніжжа Майсея захавалася ў 17 экземплярах.

Кніга «Выхад» скарынаўскага друку адкрываецца тытульным лістом, на якім змешчана ілюстрацыйная тэматычная гравюра з надпісам: «Дщера фараонова знашла отроча Моисея у воде». На яго адвароце пачынаецца прадмова Скарыны. Пасля яе ідзе тлумачальны тэкст наступнага зместу: «Кто бы пак межи простыми людми братии моей захотел яснее разумети, яковым обычаем был храм уделан, кивот, стол, требник и ризы жреческии, тое все вымалеваное нижей знайдеть». Перед самім тэкстам кнігі «Выхад» Скарына падае застаўку, якая ўжо была ім выкарыстана ў кнізе «Песня песняў». Апрача гэтых гравюр у кнізе пададзена яшчэ пяць ілюстрацый: у раздзеле 25 на л. 45 адв. з подпісам — «Взор кивота или скрини завета господьня», на л. 46 адв.— «Взор стола, на нем же бѣ хлеб посвященый», на л. 47 адв.— «Взор светилника златого с ветием его», у раздзеле 27 на л. 50 адв.— «Взор требника, на нем же приношаху жертвы» і на л. 52 адв. — партрэтная гравюра Аарона з надпісам «Взор риз жреческих, еже быша на Ароне». Апошнія дзве гравюрныя ілюстрацыі Францыск Скарына паўтарыў у наступнай кнізе «Левіт» з некаторымі адрозненнямі тэксту да гэтых ілюстрацый і асобных дэталей фону ў малюнку Аарона.

## Кніга «Левіт»

[1] *Левій* — паводле біблейскай міфалогіі, сын патрыярха Якава, які стаў пачынальнікам асобага класа свяшчэннаслужыцеляў старажытнаяўрэйскага культу — левітаў. Да гэтага класа належалі ўсе нашчадкі Левія, яны атрымалі выключнае права на свяшчэннаслужэнне. Левітаў Біблія падзяляе на тры групы: першасвяшчэннікаў, свяшчэннікаў і простых левітаў. Да апошняй групы адносіліся тыя нашчадкі Левія, якія выконвалі ніжэйшыя абавязкі свяшчэннаслужыцеляў. З іх асяроддзя, як правіла, выходзілі і летапісцы. У матэрыяльных адносінах левіты як племянная каста, не надзеленая зямлёю, знаходзіліся ў залежнасці ад сваіх больш багатых суайчыннікаў. Левіты праіснавалі да часоў узнікнення хрысціянства, у асяроддзе якога яны пераходзілі ў якасці хрысціянскіх пастыраў.

[2] *Ладан* — у перакладзе з грэчаскай мовы азначае араматычную смалу, якую атрымліваюць пры падсечцы кары дрэва баскевіля, што расце на тэрыторыі усходняй Афрыкі, Азіі і ў паўднёва-заходняй частцы Аравійскага паўвострава. Састаў ладана, які ўключае ў сабе густы слізісты сок (т. зв. камедзь), эфірныя маслы і іншыя рэчывы, часткова раствараецца ў вадзе. Пры награванні і спальванні яго выдзяляецца араматычны пах, які выкарыстоўваецца ў час рэлігійных абрадаў.

[3] *Амвросій* (каля 430—4.IV 397) — адзін з айцоў хрысціянскай царквы. Нарадзіўся ў Трыры ў сям'і ўрадавага чыноўніка. Выхаванне атрымаў у Рыме, дзе вывучаў літаратуру і юрыспрудэнцыю, рыхтуючыся стаць адвакатам. У 369 г. імператар Феадосій зрабіў яго сваім намеснікам паўночнай Італіі з рэзідэнцыяй у Мілане. Займаючы пасаду прэфекта Лігурыі і Эміліі, Амвросій заслужыў высокую любоў і павагу да сябе з боку народа і таму ў 374 г. быў адзінагалосна абраны епіскапам. Займаючы гэту высокую пасаду, Амвросій вывучаў багаслоўе і філасофію, шмат энергіі аддаваў арганізацыйнаму ўмацаванню хрысціянскай царквы, змагаўся за захаванне чысціні царкоўных дагматаў, раўніва клапаціўся аб незалежнасці царквы ад дзяржавы. Хітры і лоўкі дыпламат, ён ніколі не пераставаў быць юрыстам, рашуча выступаў супраць растаўшчыкоў і яўрэяў, да якіх быў вельмі варожа настроены, праслаўляў аскетызм. Амвросій Міланскі — аўтар 8 кніг па царкоўнай экзагетыцы (г. зн. каменціраванню), 84 лістоў і пропаведзей. Ва ўсіх яго творах вельмі прыкметна празмерная схільнасць да алегарызацыі, адчуваецца моцная залежнасць ад грэчаскіх і рымскіх пісьменнікаў. Асноўнай крыніцай яго твораў служылі працы Філона Александрыйскага, за што пазней Амвросія празвалі хрысціянскім Філонам.

[4] *Пасха* — слова арамейскае, якое адпавядае яўрэйскаму песах, азначае: скакаць, танцаваць, весяліцца. Паводле біблейскай міфалогіі, гэта першае з трох галоўных нацыянальных свят яўрэяў, якое было ўстаноўлена ў сувязі з вялікай гістарычнай падзеяй — днём «выхаду» іх з егіпецкай няволі і святкавалася на працягу васьмі дзён, пачынаючы з вечара 14 да 21 чысла асірыйскага месяца нісана, што адпавядае еўрапейскаму сакавіку — красавіку. Сама пасха, па Бібліі адносілася толькі да вечара з 14 на 15 нісана, калі ў памяць аб «выхадзе з няволі» патрабавалася пасля абеду зарэзаць ягнё, падсмажыць і есці мяса з апраснакамі і горкімі травамі, есці абутым, падпяразаным поясам і з посахам у руках у знак хуткага выхаду з Егіпта. Астатнія сем дзён пасля пасхі займала свята апраснакоў (г. зн. мацы). Апраснак у культавым рытуале яўрэяў азначаў спешнасць выхаду з Егіпта, калі цеста не паспявала скіснуць. З цягам часу, калі ў нетрах іудзейскага веравызнання зарадзілася і пачало развівацца хрысціянства, яно перанесла гэта яўрэйскае свята ў свой рэлігійны рытуал і дастасавала яго сімволіку да свайго міфічнага Ісуса Хрыста, паводле якой велікоднае ягнё стала правобразам Хрыста, які прыняў пакутніцкую смерць на крыжы, а потым уваскрэс, як і сама прырода пасля зімовай спячкі. Так аграрнае свята яўрэяў у хрысціянскіх святцах набыло псеўдагістарычны характар і стала адным з дванаццаці вялікіх свят веруючых як свята ачышчэння ад зямных грахоў. Час абавязковага святкавання пасхі, па-беларуску вялікадня, афіцыйна быў устаноўлены ў 325 г. на Нікейскім хрысціянскім саборы.

[5] *Пяцідзесятніца* — другое з вялікіх свят старажытнаяўрэйскага народа, якое было ўстаноўлена ў знак даравання народу праз Майсея «боскага закона» на гары Сінай. Гэта свята «Адкрыцця» адзначаецца іудзеямі ў 50-ы дзень пасля вялікадня і прыпадае у краінах Блізкага Усходу на час жніва і збірання пладоў. Паводле біблейскага міфа, у дзень пяцідзесятніцы нібы адбывалася «зыходжанне святога духа» на апосталаў, таму гэта свята было перанесена ў хрысціянскую царкву з захаваннем яго назвы. Пазней яно атрымала іншую назву — дзень святой тройцы, або «зыходжанне святога духа», па-беларуску сёмуха. Храмы і дамы веруючых перад гэтым аграрным святам упрыгожваліся галінкамі розных дрэў, травы і кветак, якія сімвалізавалі абнаўленне і росквіт прыроды з надыходам цёплага лета.

[6] *Свята кушчаў (шатроў)* — адно з трох галоўных яўрэйскіх свят, якое пачыналася па іх календару 15 тышра (сёмага месяца) і працягвалася 8 дзён. Устаноўлена яно было ў памяць «40-гадовага падарожжа яўрэяў» па пустынях Сінайскага паўвострава. Свята адзначалася пасля заканчэння ўборкі і палявых работ. На час свята людзі пасяляліся ў шатрах, пабудаваных з драўляных галінак, і кожны дзень прыносілі ў ахвяру цялят. Народ з галінкамі пальмаў і іншых дрэў у руках спяваў хвалебныя псалмы.

[7] *Надаб (Надаў) і Абігу, або Абіеуд* — сыны міфічнага Арона і яго жонкі Элішэбы (Елізаветы), якія разам са сваім бацькам былі далучаны да сану свяшчэннікаў. Але пры асвяшчэнні скініі яны, паводле біблейскага міфа, былі спалены «нябесным» агнём за ўскурэнне свяшчэннага састава «чужым» агнём, а не ўзятым з алтара.

Біблейская кніга «Левіт» цалкам прысвечана апісанню шматлікіх абрадавых інструкцый і настаўленняў. Галоўнае месца сярод іх займаюць настаўленні, якія адносяцца да богаслужэння і культу. У прыватнасці, даюцца дакладныя ўказанні, як здзяйсняць абрад ахвярапрынашэння, прычым гэта гаворыцца па кожнаму з відаў ахвяры. Далей ідуць шматлікія прадпісанні, якія адносяцца да ежы: што і калі можна есці, а чаго нельга. Дазваляецца есці толькі мяса жвачных і парнакапытных жывёл. Вялікая колькасць відаў жывёл абʼяўляецца Бібліяй нячыстымі, і ўжыванне іх мяса ў ежу прызнаецца богам цяжкім грахом. Падаюцца таксама розныя санітарна-гігіенічныя правілы. Многія з іх адлюстроўваюць накопленую вякамі народную мудрасць і самі па сабе з'яўляюцца мэтазгоднымі.

Апавяданне пра падзеі далёкага мінулага яўрэяў у кнізе «Левіт», як і ў іншых кнігах Пяцікніжжа Майсея, увесь час пераплятаецца з павучаннямі, як паводзіць сябе, каб заваяваць і захаваць прыхільнасць бога, а таксама павучаннямі на самыя разнастайныя гаспадарчыя, санітарна-гігіенічныя, юрыдыч-

ныя, богаслужбовыя, маральна-этычныя і іншыя тэмы. Жыццё веруючага было да дробязей рэгламентавана ўмовамі боскага запавету і трымала яго ў страсе перад усявышнім. Тых жа, хто парушаў «святыя» запаведзі, палохалі самымі рознымі пакараннямі і жахамі. Апрача гэтага, у ёй змяшчаецца багата пазнаваўчага матэрыялу этнаграфічнага характару з жыцця старажытнаяўрэйскага народа.

Кніга «Левіт» у выданні Скарыны захавалася ў 15 экземплярах. На тытульным лісце змешчана тэматычная гравюра, зверху якой надпіс: «Господь бог глаголеть к Моисею у храму Свѣдения». Прадмова пачынаецца на адвваротным баку тытульнага ліста і заканчваецца на л. 6 віньеткай, а на л. 6 адв. зноў паўторана гравюра трэбніка. Пад ёй тлумачальны тэкст: «То ест образ требника, на нем же приношаше Арон жертвы господу богу. Он же стоиваше во притворе храмове. И на той крате, еже висить посреди его, паляху жертвы; огнь же всегда горяше зысподу на огнищи его».

Перед пачаткам тэксту кнігі «Левіт» паўтараецца застаўка з кнігі «Песня песняў». На л. 42 адв. паўтораны і гравюрны партрэт Аарона з надпісам: «Сей ест Аарон, архиерей найвышший сынов ізраилевых, брат Моисеев, правнук Леувиев. От него же называется книга сия — «Леувит». Сама гравюра тут адрозніваецца ад першага варыянта, змешчанага ў кнізе «Выхад», светлымі прасветамі паміж рукамі Аарона і слупамі аркі, а таксама чорна-белымі квадратамі падлогі, на якой ён стаіць.

## Кніга «Лічбы»

[1] *Іудзіна пакаленне,* паводле біблейскай міфалогіі, сваю радаслоўную вядзе ад Іуды, чацвёртага сына патрыярха Якава ад Ліі. Іуда (Іегуда) у перакладзе азначае пахвала або слава богу. Імя гэта было надзвычай папулярным у яўрэйскай гісторыі. Першапачатковыя звесткі пра Іуду ў Бібліі надзвычай скупыя. Вядома толькі, што хоць ён і падзяляў з іншымі сваімі братамі нянавісць да Іосіфа, сына сваёй цёткі Рахілі, другой жонкі Якава, аднак быў больш памяркоўны і спагадлівы і параіў братам лепш прадаць Іосіфа праезжым купцам, чым знішчыць яго фізічна. З яго племені ў Бібліі выводзіцца радаслоўная Ісуса Хрыста. Калі пасля смерці цара Саламона адбыўся падзел яго манархіі, Іудзіна пакаленне стварыла асобнае царства Іудзейскае, якое займала паўднёвую Палесціну са сталіцай Іерусалімам і праіснавала да заваявання зго Навухаданосарам II у 586 г. да н. э.

[2] У дадзеным выпадку Скарына памылкова называе біблейскае пакаленне Ісахарава пакаленнем Захаравым, якое вяло сваю радаслоўную ад Ісахара, сына патрыярха Якава. Пры падзеле Палесціны гэтаму пакаленню была адведзена яе паўночная частка.

[3] *Зевулонава пакаленне,* паводле Бібліі, вяло сваю радаслоўную ад Зевулона, шостага і апошняга з сыноў патрыярха Якава. Пры падзеле Палесціны яно атрымала ад Ісуса Навіна лепшую частку зямлі на яе паўночным захадзе паміж Галілейскім возерам і Міжземным морам з пладароднай раўнінай і гарадамі Віфлеем, Назарэт, Кана, Тыверыяда і інш. Племя вылучалася выяўнічасцю і храбрасцю.

[4] *Данава пакаленне,* паводле Бібліі, паходзіла ад Дана, пятага сына патрыярха Якава. Племя гэта вылучалася ваяўнічасцю і па колькасці ўступала толькі пакаленню Іудзіну. Займала невялікую па памерах тэрыторыю Ханаана па суседству з філісцімлянамі, таму часта падвяргалася нападам з боку апошніх. Пасля панавання цара Саламона ў далейшай біблейскай гісторыі род Дана больш не згадваецца.

[5] *Асірава пакаленне,* паводле Бібліі, сваю радаслоўную вяло ад Асіра (што ў перакладзе азначае: шчаслівы), другога сына патрыярха Якава. Яму належала самая пладародная паўночная частка зямлі Ханаанскай (Фінікійскай). Задаволенае сваім геаграфічным становішчам, яно не праяўляла ваяўнічасці і мірна жыло з суседзямі. Пасля падзелу Ізраільскай дзяржавы на два самастойныя царствы яно падтрымлівала сувязі з іудзейскім Ерусалімам.

[6] *Нефілімава пакаленне,* паводле Бібліі, вяло сваю радаслоўную ад імені

аднаго з сыноў Якава. Пры падзеле Палесціны заняло самую паўночную частку зямлі Ханаанскай, з прычыны чаго больш за ўсіх падвяргалася знешнім нападам і ўплывам і адно з першых было выведзена асірыйцамі ў палон. Прадстаўнік гэтага пакалення Товіт называецца ў Бібліі аўтарам адной з яе кніг.

[7] *Рувімава пакаленне* паходзіла, паводле Бібліі, ад Рувіма, першага сына патрыярха Якава. Як старэйшы сярод сваіх братоў, ён мог спадзявацца на асаблівае бласлаўленне бацькі. Аднак за тое, што ён апаганіў ложа свайго бацькі распусная сувяззю з наложніцай апошняга, патрыярх пазбавіў яго гэтага права першародства. Пры заняцці Палесціны пакаленне Рувіма атрымала ў сваё валоданне пладародныя землі за ракой Іардан.

[8] *Сімяонава пакаленне,* паводле біблейскай міфалогіі, паходзіла ад Сімяона, другога сына патрыярха Якава. Яго роданачальнік падаецца як чалавек надзвычай жорсткі. Разам са сваім братам Левіем ён учыніў крывавае знішчэнне жыхароў горада Сіхема за абразу сваёй сястры Дзіны сынам сіхемскага князя. У час прыезду братоў Іосіфа ў Егіпет Іосіф пакінуў Сімяона ў якасці заложніка і пасадзіў яго ў цямніцу да вяртання братоў у Егіпет разам з любімым братам Веніямінам. Племя Сімяона вяло пастухоўскі спосаб жыцця ў паўднёва-заходняй частцы Палесціны і не іграла значнай ролі ў гісторыі яўрэйскага народа, а таму паступова змяшалася з суседнімі арабскімі плямёнамі і знікла з гістарычнай арэны. Прадстаўніцай гэтага племені выступае ў Бібліі легендарная Юдзіф, гераіня некананізаванай царквой аднайменнай кнігі на гістарычную тэму.

[9] *Гадава пакаленне* сваю радаслоўную вяло ад Гада, сёмага сына Якава. Пры заняцці Палесціны яно, валодаючы мноствам статкаў жывёлы, атрымала разам з пакаленнем Рувіма і палавінай пакалення Манасіі тэрыторыю на ўсходнім беразе ракі Іардан. Нягледзячы на пастухоўскі спосаб жыцця, вылучалася сваёй ваяўнічасцю. Будучы пярэднім краем ізраільскага народа за Іарданам, яно актыўна дапамагала сваім супляменнікам заваёўваць палесцінскія землі, вяло паспяховыя і пераможныя войны з агаранамі, ізмаілцянамі і іншымі аравійскімі плямёнамі таго часу. Пакаленне Гадава раней за іншыя ізраільскія плямёны стала аб'ектам нападаў сірыйскіх цароў. У часы прарацтва Ерамії яго тэрыторыя была заваявана аманітамі, а ў 733—732 гг. да н. э. далучана да Асірыі.

[10] *Ефраімава пакаленне* паходзіла, як падаецца ў Бібліі, ад малодшага сына Іосіфа, які нарадзіўся ў Егіпце. Пры падзеле Палесціны яно атрымала цэнтральную, багатую і ўраджайную паласу зямлі ад ракі Іардан да Міжземнага мора на поўнач ад Іерусаліма. Прасякнутае духам самабытнасці і адчуваючу сваю сілу, яно ўступіла ў саперніцтва з пакаленнем Іуды і пастаянна праяўляла свой сепаратызм і гегеманізм, матывуючы тым, што з яго асяроддзя паходзіў пераемнік Майсей і правадыр ізраільскага народа Ісус Навін, што ў іх уладаннях знаходзіцца яго бацькаўшчына і месца пахавання. Нашчадкі Ефраіма, паводле біблейскіх паданняў, адыгралі вялікую ролю ў гісторыі ізраільскага народа, прымалі чынны ўдзел у вырашэнні яго гістарычнага лёсу. Менавіта з іх асяроддзя паходзіў Самуіл, вядомы прарок і суддзя ізраільскі. Калі пасля смерці цара Саламона яго дзяржава распалася на два царствы, палітычную вагу ў новаствораным Ізраільскім царстве набыло пакаленне Ефраіма. Яно абрала царом прадстаўніка свайго племя Ераваама, а яго рэзідэнцыяй зрабіла свой горад Самарыю, якая была сталіцай Ізраільскага царства да канца яго гістарычнага існавання.

[11] *Манасіева пакаленне* вяло сваю радаслоўную ад Манасіі, старэйшага сына Іосіфа. Яшчэ ў часы Майсея пакаленне Манасіі колькасна пераўзыходзіла пакаленне Ефраіма і таму пры падзеле Палесціны атрымала землі па абодвух баках Іардана. З цягам часу заіарданская частка гэтага пакалення стала аб'ектам нападаў з боку асірыйцаў, а ў перыяд панавання цара Осія была заваявана асірыйскім царом Салманасарам.

[12] *Веніямінава пакаленне,* паводле Бібліі, паходзіла ад малодшага і апошняга сына патрыярха Якава і яго любімай жонкі Рахілі, для якой нараджэнне гэтага сына мела смяротны зыход, таму бацька называў яго «сынам смутку», а часцей «сынам сваёй старасці». Як адзінага роднага брата па маці Ве-

ніяміна вельмі любіў Іосіф. Калі Веніямін пакідаў Егіпет, яму было крыху больш трыццаці гадоў, ён меў ужо дзесяць сыноў. За час свайго саракагадовага падарожжа па сінайскіх пустынях яго род, дзякуючы сваёй высокай пладавітасці вырас да 45 600 чалавек. Пры падзеле Палесціны яму дасталася невялікая, але затое цэнтральная і пладаносная мясціна на поўнач ад Іерусаліма побач з племем Іуды і зямельнымі абшарамі Ефраіма і Манасіі. Гэта пакаленне вылучалася надзвычайнай ваяўнічасцю і мужнасцю. З яго асяроддзя, паводле біблейскага падання, выйшаў першы ізраільскі цар Саул. Племя Веніяміна валодала вялікімі воінскімі сіламі і прымала ўдзел у стварэнні самастойнага Іудзейскага царства. Пасля сямідзесяцігадовага вавілонскага палону яно разам з іудзеямі складала галоўную частку яўрэйскага насельніцтва. Менавіта з гэтага пакалення хрысціянская традыцыя выводзіць паходжанне свайго славутага апостала Паўла.

[13] *Рамес* — верагодна, галоўны горад Гесемскай зямлі ў Егіпце.

[14] *Чэрмнае (г. зн. Чырвонае) мора* — вялікі вузкі заліў Індыйскага акіяна, які аддзяляе Аравію ад Егіпта і Азію ад Афрыкі. Гэта самае салёнае і цёплае мора на зямлі, абодва залівы якога амываюць гарысты Сінайскі паўвостраў.

[15] *Іафор* (у Скарыны: Етро) — свяшчэннік, у якога, ратуючыся ад гневу фараона, міфічны Майсей знайшоў сабе прытулак і на дачцы якога Сапфоры, або Цыпфоры, ажаніўся.

[16] *Марыя* — паводле Бібліі, дачка Амрама, сястра Майсея і Аарона. Упершыню ўпамінаецца ў апавяданні пра ранняе дзяцінства Майсея. Калі яе маці, паводле жорсткага загаду фараона, не магла далей трымаць у сябе трохмесячнага Майсея і вымушана была пакінуць яго ў карзіне на беразе Ніла, Марыя (Марыям) назірала за сваім братам. Пасля са згоды дачкі фараона, якая знайшла Майсея, яна прывяла сваю маці пакарміць яго. Пасля выхаду ізраільцян з Егіпта і «незвычайнага» пераходу Чырвонага мора яна ўзначаліла жаночы хор. За нараканні на шлюб Майсея з іншаземкай Марыям была пакарана богам праказай. У Бібліі сцвярджаецца таксама, што яна была прамаці ізраільскага цара Давыда і памерла ў глыбокай старасці.

[17] *Дафан і Авірон* — паводле біблейскага міфа, унукі Рувіма, першынца патрыярха Якава, якія былі ўдзельнікамі змовы супраць Майсея і Аарона, за што іх бог жорстка пакараў: зямля праглынула іх жывымі.

[18] *Сыны Карэевы* (у Скарыны яны называюцца сынамі Харэевымі) — паводле Бібліі, паходзілі ад роду Левія, які ім даводзіўся прапрадзедам. Калі іх бацька Карэй, дамагаючыся вышэйшай для сябе ўлады, арганізаваў сумесна з Дафанам і Авіронам змову супраць Майсея і Аарона, за што і паплаціўся ўласным жыццём, яны пазбеглі боскага пакарання, бо не прымалі ўдзелу ў гэтым бунце. Жорсткае пакаранне змоўшчыкаў паслужыла ім добрым урокам і зрабіла іх у далейшым прыкладнымі выканаўцамі сваіх левіцкіх абавязкаў. Па традыцыі ім прыпісваецца аўтарства рада псалмоў Псалтыра.

[19] *Эдом* — пад гэтай назвай у Бібліі выступае тэрыторыя, якая належала Ісаву, першароднаму сыну Ісака і Равекі, нашчадку патрыярха Якава. Ляжала гэта зямля на поўдзень ад Мёртвага мора. Ужо ў часы Майсея там была моцная і квітнеючая дзяржава.

[20] *Валак* — у перакладзе са старажытнаяўрэйскай мовы азначае: спусташальнік, разбуральнік. Паводле Бібліі, быў царом маавіцкім і сучаснікам Майсея. Гэта ён заклікаў з Месапатаміі ведзьмара Валаама для пракляцця ізраільцян, калі яны апынуліся на мяжы яго ўладанняў.

[21] *Фініес* — трэці першасвяшчэннік царства Іудзейскага, сын Елеазара і ўнук Аарона. Карыстаўся ў народзе вялікай павагай за сваю рэлігійную руплівасць і мужнасць. Змагаўся за чысціню і непарушнасць іудзейскага веравызнання, выступаў супраць паклання чужым ідалам, у прыватнасці маавіцянскаму бажаству Ваалу.

[22] *Замврый (Зімры)* — паводле біблейскай міфалогіі, ізраільскі военачальнік. Яго закалоў кап'ём першасвяшчэннік Фініес у спальні разам з наложніцай неіудзейкай, якую Замврый прывёў у ізраільскі лагер.

[23] *Дочкі Сальфатавы* — так Скарына называе пяць дачок Салпада, які, паводле Бібліі, даводзіўся праправўнукам Манасіі. Паколькі іх нябожчык

бацька не пакінуў пасля сябе наследнікаў па мужчынскай лініі, яны звярнуліся з просьбай да Майсея, першасвяшчэнніка Елеазара і ўсяго грамадства выдзеліць ім зямельны надзел сярод братоў свайго бацькі. Іх просьба была задаволена як справядлівая і законная.

Кніга «Лічбы», надрукаваная Скарынам у Празе ў 1519 г., захавалася ў айчынных кнігасховішчах у 17 экземплярах. У гэтым выданні Скарыны змешчана толькі адна арыгінальная гравюра «Людие ізраилевы с полки своими около храму божия», якая знаходзіцца на тытульным лісце кніжкі. Астатнія ж ілюстрацыі ўзяты з папярэдніх выданняў. Так, застаўка да самога тэксту кнігі запазычана з выдання кнігі «Ісус Сірахаў», а віньетка да скарынаўскага пасляслоўя — з прадмовы да кнігі «Левіт».

## Кніга «Другі закон»

[1] *Каін* — паводле біблейскага міфа, старэйшы сын Адама і Евы, земляроб, які ад зайздрасці забіў свайго роднага брата Авеля-пастуха за тое, што бог прыняў дары апошняга, а яго дары адхіліў. За гэты ўчынак быў асуджаны і пракляты богам. У легендзе пра забойства Каінам Авеля рад даследчыкаў бачаць яскравае адлюстраванне барацьбы земляробчых і жывёлаводчых этнічных груп яўрэйскага народа старажытнага часу.

[2] *Авель* — міфічны персанаж Бібліі. У іудаісцкай і хрысціянскай традыцыях выступае як вобраз лагоднай і нявіннай ахвяры чалавечай жорсткасці.

[3] *Сотнік* — тэрмін ваеннага значэння, які абазначаў камандзіра сотні, адзінкі ўзброенага войска ў старажытныя часы. Ужываўся таксама на Русі.

[4] У дадзеным выпадку маюцца на ўвазе тры міфічныя патрыярхі — Аўрам, Ісак і Якаў.

Апошняя біблейская кніга з так званага Пяцікніжжа Майсея «Другі закон»— гэта своеасаблівы выклад зместу ўсіх папярэдніх яго кніжак. Пададзена ў форме прамовы Майсея перад ізраільцянамі напярэдадні іх пераходу праз Іардан і ўступлення ў «зямлю запаветную».

Скарынава выданне гэтай кнігі захавалася ў 14 экземплярах.

Як і папярэдняя, яна не вылучаецца багаццем мастацкага афармлення. Тут змешчаны толькі дзве гравюры, адна з іх — на тытульным лісце з надпісам: «Моисей навчает людей ізраилевых вторaго закону» ды паўтораная перад тэкстам кнігі застаўка, перанесеная з кнігі «Ісус Навін».

## Кніга «Руф»

[1] *Руф* — міфічная асоба, імем якой названа невялікая агіяграфічная аповесць, што была ўключана ў кананічны біблейскі звод. Паводле падання, будучы маавіцянкай, яна выйшла замуж за яўрэя, бацькі якога часова перасяліліся з Палесціны ў Мааў. Пасля смерці свёкра і мужа Руф са свякроўю паехала на іх радзіму і пасялілася ў Віфлееме. Каб пракарміць сябе і свякроў, Руф збірала каласы на чужым полі. Выпадкова яна сустрэла багатага сваяка яе мужа-нябожчыка па імені Ваоз. Той, даведаўшыся, хто яна, спагадліва аднёсся да Руфі, пахваліў яе за вернасць свякрові і дазволіў ёй збіраць каласы на сваім полі. Дабрачыннае жыццё і прыгажосць Руфі паслужылі прычынай таго, што яна стала жонкаю багатага Ваоза і нарадзіла яму сына Аведа, які потым стаў дзедам цара Давыда.

[2] *Ваоз* — асоба міфічная. У Бібліі ён называецца багатым віфлеемлянінам з роду Іуды. Праз свой шлюб з Руф'ю ён стаў дзедам Іясея, імя якога хрысціянская традыцыя ўключыла ў радаслоўную міфічнага Ісуса Хрыста.

[3] *Авед (Авід)* — сын Руфі і Ваоза.

[4] *Іаан Прадцеча* (г. зн. папярэднік) — паводле Бібліі, прапаведнік, які хрысціў Ісуса Хрыста. Паходзіў з жрэчаскага роду, быў сынам свяшчэнніка Захарыя і Елізаветы, сваячкі маці Ісуса Хрыста. Незадаволены станам грамадства, яшчэ ў маладосці пасяліўся ў пустыні, дзе вырас у прапаведніка-прарока. На пятнаццатым годзе панавання рымскага імператара Тыберыя, калі кіраўніком Іудзеі быў Понцій Пілат, ён з'явіўся ля Іардана з пропаведдзю

пакаяння і паведамленнем, што набліжаецца прыход «царства нябеснага». Знешнім знакам пакаяння і духоўнага абнаўлення ён абраў хрышчэнне праз абмыванне ў вадзе. Прыняць яго павучэнне прыйшоў і сам Ісус Хрыстос з Назарэта, якога і хрысціў Іаан ў Іардане. Выкрываючы ў сваіх пропаведзях заблуджэнні і заганы людзей, Іаан не шкадаваў і зямных уладароў. Ён выклікаў незадавальненне галілейскага царка Ірада, які, не церпячы выкрыцця за незаконную пазашлюбную сувязь з жонкай свайго брата Ірадыядай, пасадзіў прапаведніка ў турму. Там ён стаў ахвярай Ірадыяды, якая патрабавала, каб ёй прынеслі на талерцы адсечаную галаву Іаана Хрысціцеля. Хрысціянская царква далучыла гэтага міфічнага прапаведніка да ліку сваіх святых і для ўшанавання яго памяці адвяла ў святцах рад дзён.

Скарынаўскае выданне кнігі «Руф» дайшло да нашага часу ў 8 экземплярах. На тытульным лісце гэтай кнігі Бібліі змешчана арыгінальная тлумачальная гравюра: «Руф, прабаба царя Давыдова, подбирает класы за женци». Перад тэкстам твора пададзена застаўка з кнігі «Ісус Навін», якая часта паўтараецца ў іншых кнігах, выдадзеных Скарынам.

### Кніга «Прарок Даніїл»

[1] *Іяхін (Яхонія)* — паводле біблейскіх звестак, сын цара Іяхіма, цар іудзейскі, пераселены Навуходаносарам II у Вавілон. Імя гэтага цара ў розных біблейскіх кнігах падаецца па-рознаму. Нават узрост, у якім Іяхонія ўступіў на царскі трон, аўтары біблейскіх кніг падаюць па-рознаму. Так, у адных кнігах ён стаў царом, калі яму было 8 гадоў, а ў чацвёртай кнізе «Царствы»— у 18 гадоў. Царскі трон Іяхоніі дастаўся ў самы цяжкі і складаны час. Яго бацька Іяхім спачатку прызнаваў над сабой уладу Навуходаносара, а потым пачаў шукаць шляхі да вызвалення і ўступіў у саюз з егіпецкім фараонам, за што быў жорстка пакараны: цар яго паланіў і вывез у Вавілон. Панаванне Іяхоніі было кароткачасовым. Ён пратрымаўся на царскім троне толькі 3 месяцы і 10 дзён, пасля чаго быў скінуты Навуходаносарам і заменены братам Метафаніяй, якога вавілонскі цар перайменаваў у Седэкію. Сам жа Іяхонія быў пасаджаны ў турму, у якой прасядзеў 36 гадоў, пакуль яго не вызваліў сын Навуходаносара.

[2] *Сусана* — прыгожая і багатая іудзейка, жонка Іяхіма, перасяляецца з царства Ізраільскага ў Вавілон. Несправядліва абвінавачаная ў парушэнні шлюбнай вернасці свайму мужу, яна была апраўдана і выратавана ад пагражаўшага ёй смяротнага прыгавору юнаком Даніїлам. Тэкст гэтай легенды пра Сусану ўнеслі ў Біблію першыя перакладчыкі на грэчаскую мову, якія падалі яе ў канцы прароцкай кнігі Даніїла ў апошнім, трынаццатым раздзеле. У яўрэйскай Бібліі гэтай аповесці няма, што дало падставы даследчыкам адносіць яе напісанне да апошняга стагоддзя напярэдадні нашай эры. Не ўвайшла аповесць пра Сусану і ў кананічны тэкст Бібліі рускай. Мяркуюць, што ў яе аснову пакладзены сапраўдныя падзеі.

[3] *Понцій Пілат* — асоба гістарычная. Ён з 26 па 36 г. н. э. быў рымскім пракуратарам Іудзеі. У час яго дзесяцігадовага перыяду кіраўніцтва ўзмацніўся сацыяльна-палітычны і рэлігійны прыгнёт падуладнага іудзейскага насельніцтва, што выклікала рад народных паўстанняў, якія бязлітасна ім падаўляліся, у выніку чаго Рым вымушаны быў змясціць Пілата. Пастаяннай яго рэзідэнцыяй была Кесарыя, але па святах і для важных адміністрацыйных спраў ён прыязджаў у Іерусалім і там падоўгу затрымліваўся. Прымаючы ў разлік яго жорсткі і вераломны характар, хрысціянская царква прыпісала Понцію Пілату зацверджанне смяротнага прыгавору Ісусу Хрысту. Пасля чаго пракуратар узяў вады і памыў рукі перад народам па старадаўняму звычаю, які сімвалізаваў невінаватасць у праліцці крыві. Пракуратар публічна заявіў, што не ён асабіста, а іудзейскія жрацы хацелі гэтай смерці. Пра далейшы жыццёвы лёс Пілата дакладна нічога невядома. Па сведчанню царкоўна-палітычнага дзеяча IV ст. Яўсевія Кесарыйскага, ён пакончыў з сабою, а іншыя сцвярджаюць, што яго пакараў смерцю імператар Нерон.

[4] *Гісторыя Персідскага царства* пачынаецца з VII ст. да н. э., калі іран-

скае племя мідзян, якое займалася жывёлагадоўляй і земляробствам, з дапамогай іншых роднасных плямён знішчыла Асірыйскую дзяржаву і распаўсюдзіла сваю ўладу амаль на ўвесь Іран. У VI ст. да н. э. іх змянілі персы, якія жылі на крайнім паўднёвым захадзе Ірана. Заснавальнікам персідскай манархіі быў Кір, які паходзіў з роду Ахеменідаў і панаваў з 558 да 530 г. да н. э. Ён заваяваў усю Заходнюю Азію і большую частку Ірана. Яго пераемнік Камбіз (530—521) далучыў да гэтых заваёў Егіпет і частку Эфіопіі. У часы панавання Дарыя (522—486) межы Персідскай дзяржавы пашырыліся да Індыі. Пры ім краіна была падзелена на 120 сатрапій, уведзена залатая манетная сістэма і замацавалася рэлігія Зараастры. Да рэлігійных вераванняў іншых народаў персы тады ставіліся верацярпіма. Галоўнымі гарадамі Персіі пры Дарыі былі Сузы і Персепаль. З часам Персія страціла сваю былую магутнасць і пад ударамі Аляксандра Македонскага спыніла сваё гістарычнае існаванне як самастойная дзяржава.

[5] *Царства Македонскае* размяшчалася ў цэнтральнай частцы Балканскага паўвострава, заселенай ілірыйскімі і фракійскімі плямёнамі. У V ст. да н. э. на яе тэрыторыі ўзнікла рабаўладальніцкая дзяржава. Непасрэднае суседства з Грэцыяй спрыяла ўздзеянню грэчаскай культуры і мовы, устанаўленню цесных узаемасувязей з грэчаскімі гарадамі-полісамі. З утварэннем у Македоніі класавага грамадства адбывалася і яе паступовае палітычнае аб'яднанне, пашырэнне дзяржаўных межаў, умацаванне незалежнасці і рост ваенна-палітычнай магутнасці. У часы кіравання Філіпа II (359—336 гг. да н. э.) канчаткова сфарміравалася македонская манархія і была падпарадкавана Верхняя Македонія. Гэты цар завяршыў рэарганізацыю войска і стварыў македонскі флот. Імкнучыся пашырыць свае ўладанні і палітычныя ўплывы, а таксама авалодаць марскім узбярэжжам, якое знаходзілася ў руках грэкаў, Філіп II на працягу 357—346 гг. вёў вайну супраць Афін і іх саюзнікаў, у выніку якой авалодаў больш чым 30 гарадамі, падпарадкаваў Фесалію і захапіў усё фракійскае ўзбярэжжа Эгейскага мора. Паўторнае яго ўмяшанне ў справы Грэцыі завяршылася ў 338 г. да н. э. бітвай пры Херанеі, у якой македонскае войска выйшла пераможцам і грэчаскія гарады прызналі гегемонію македонскай манархіі. У 336 г. да н. э., рыхтуючыся выступіць супраць Персіі і мясцовай знаці, Філіп II стаў ахвярай змовы. Яго пераемнікам стаў сын Аляксандр Македонскі (336—323 гг. да н. э.), які падавіў паўстанні грэчаскіх гарадоў і ажыццявіў намеры свайго бацькі ў адносінах да Персіі. Ён разбіў цара Дарыя III, заваяваў Персідскую дзяржаву і на яе тэрыторыі ўтварыў сваю вялікую манархію, якая, аднак, была нетрывалай. Пасля смерці славутага заваёўніка яго імперыя даволі хутка распалася. У выніку няўдалых войн з Рымам у II ст. да н. э. Македонія ператварылася ў правінцыю Рымскай імперыі.

[6] Скарына, напэўна, тут мае на ўвазе не дробнае Рымскае царства VIII—VI стст. да н. э., якое займала невялікую тэрыторыю ў даліне ракі Тыбр, а Рымскую імперыю — адну з найбольш вялікіх і магутных дзяржаў старажытнага свету, уладанні якой ахоплівалі ўсе краіны Міжземнамор'я.

[7] *Талмуд* — збор дагматычных, рэлігійна-этычных і прававых законапалажэнняў іудаізму, якія склаліся на працягу IV ст. да н. э.— V ст. н. э. часткова на старажытнаяўрэйскай мове, а часткова на арамейскіх дыялектах. Гэты зборнік змяшчае павучанні па маралі і праву, разважанні пра дагматыку і рэлігійны культ, легенды пра светапабудову, навуковыя звесткі па медыцыне, астраноміі, геаграфіі, матэматыцы, заалогіі, батаніцы, фізіцы і, такім чынам, уяўляе сабой своеасаблівы від старажытнаяўрэйскай энцыклапедыі. Самая старажытная частка Талмуда, якая называецца Мішна (г. зн. паўтарэнне), дае тлумачэнне норм закону Пяцікніжжа Майсея. Потым Мішна стала прадметам тлумачэння іудзейскіх багасловаў. Зборнік гэтых тлумачэнняў атрымаў назву Гемара (г. зн. завяршэнне). Мішна разам з Гемарай і складае змест Талмуда, які змяшчае юрыдычна-прававыя палажэнні, рэгламентуючыя сямейнае і грамадзянскае жыццё іудзеяў, розныя легенды, прытчы, казкі, апавяданні, якія спадарожнічалі жыццю іудзеяў. Як рэлігійная кніга Талмуд прасякнуты ідэяй залежнасці чалавека ад бога, прапаведдзю цярпення і нецярпімасці да іншаверцаў.

[8] *Авакум* — адзін з т. зв. біблейскіх прарокаў, які, паводле падання, паходзіў з пакалення Сімяона і жыў у часы вавілонскага палону. Перад нашэсцем Навухаданосара, ведаючы, што горад не зможа супраціўляцца такому моцнаму заваёўніку, ён пакінуў Іерусалім і пасяліўся ў адным аравійскім горадзе. Калі ж халдзеі пакінулі Іудзею, ён вярнуўся на радзіму, займаўся хлебаробствам і за два гады перад вяртаннем іудзеяў з вавілонскага палону памёр. Стыль Авакума вылучаецца велічнасцю, прастатой, яснасцю, сціеласцю і выразнасцю думкі.

[9] *Феадосій* — у Скарыны — выдатны настаўнік грэчаскай мовы, які пераклаў з халдзейскай мовы поўны тэкст кнігі «Прарок Данііл». Дадатковых звестак пра гэтага перакладчыка адшукаць не ўдалося.

[10] *Еранім* — пісьменнік-палеміст, філолаг, перакладчык Біблії на лацінскую мову. Нарадзіўся ў Далмацыі ў 330 г. у сям'і грэка або ілірыйца. У Рыме атрымаў выдатную для свайго часу адукацыю, потым наведаў іншыя навуковыя цэнтры. У 373 г. накіраваўся на Блізкі Усход, папярэдне прыняўшы хрысціянства. Два гады правёў у Антыёхіі, пасля накіраваўся ў Халкідонскую пустыню, дзе аддаўся подзвігам аскетызму, вывучэнню яўрэйскай і халдзейскай моў. Наведаўшы Палесціну, Еранім накіраваўся ў Канстанцінопаль, а адтуль зноў у Рым, дзе папа Дамасій зрабіў яго сваім дарадчыкам. Пасля смерці папы ў 385 г. назаўсёды пакінуў сталіцу імперыі, вярнуўся ў Палесціну і пасяліўся ў Віфлееме, дзе заснаваў мужчынскі манастыр, вучыў дзяцей і манахаў. Там ён сабраў вялікую бібліятэку, паглыбляў свае веды па старажытных мовах і літаратурах і займаўся перакладам Біблії на лацінскую мову. Пераклад Ераніма, вядомы пад назвай Вульгаты, пасля афіцыйна быў прызнаны каталіцкай царквой кананічным. Ён напісаў рад палемічных твораў на розныя тэмы, тлумачэнняў да асобных біблейскіх кніг («Быццё», «Эклезіяст», Евангелле ад Мацвея, Пасланні апостала Паўла і інш.), якія ў хрысціянскай літаратуры лічацца аднымі з найлепшых. Яго дагматычныя творы маюць вострa палемічны характар, бо іх аўтар быў выдатным майстрам палемікі. За сваё жыццё Еранім напісаў каля 180 твораў. Памёр у Віфлееме каля 419 г. Праваслаўная царква называе яго блажэнным, а каталіцкая кананізавала яго ў лік святых.

Кніга «Прарок Данііл» друку Скарыны захавалася да нашых дзён ў 10 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання змешчана тэматычная гравюра: «Даниилу, седящему со львы, принесе Аввакум обед». Л. 1 адв.— 4 адв. займае прадмова Францыска Скарыны, у канцы якой паўторана віньетка з кнігі «Іоў», а на л. 5 — застаўка з кнігі «Ісус Навін».

## Кніга «Эсфір»

[1] *Эсфер (Эсфір)* — адна з біблейскіх гераінь, якая, паводле Біблії, была дачкой Амінавада і паходзіла з пакалення Веніяміна. Першапачаткова яна насіла яўрэйскае імя Гадасы, была сваячкай і выхаванкай набожнага іудзея Мардахея, які жыў у Сузах і аднойчы выратаваў жыццё персідскаму цару. Калі цар выбіраў сабе новую жонку, яго выбар паў на Гадасу, якая атрымала новае імя — Эсфір, што ў перакладзе з персідскай мовы азначае Зорка. Узвышэнне пры двары іудзейкі выклікала зайздрасць і злосць у некаторых прыдворных цара, асабліва ў Амана, уладалюбівага, гордага і дэспатычнага царскага любімца. Раззлаваны тым, што Мардахей адносіўся да яго без рабалепства, Аман вырашыў знішчыць не толькі Мардахея, але і ўсіх іудзеяў у Персідскім царстве, і дабіваўся ад цара згоды на выданне такога карнага ўказа. Калі пра гэта даведаўся Мардахей, ён патрабаваў ад Эсфіры, каб яна заступілася перад царом за свой народ. Мужная Эсфір пад страхам згубіць не толькі сваё становішча, але і ўласнае жыццё, насуперак строгаму прыдворнаму этыкету з'явілася без запрашэння да цара і пераканала яго наведаць падрыхтаваны ёю пір, у час якога звярнулася да цара з просьбай аб абароне. Калі цар даведаўся пра сутнасць просьбы Эсфіры, ён загадаў павесіць свайго любімца Амана на той шыбеніцы, якая была падрыхтавана для Мардахея, і выдаў новы загад аб праве іудзеяў на самаабарону. Некаторыя даследчыкі Біблії бачылі ў гэтай кнізе адлюстраванне не сапраўднай гісторыі, а свайго роду

прытчу або гістарычную аповесць і сцвярджалі, што яна сваім зместам, падрабязным апісаннем быту і абставін, некаторых гістарычных рэалій адносіцца да часоў панавання Ксеркса (у рускім перакладзе Артаксеркса) і што сапраўднае імя гэтага цара Агасвер.

[2] *Аман* — вяльможа, любімец персідскага цара Агасвера (Артаксеркса), вораг іудзеяў, які збіраўся іх знішчыць, але сам быў павешаны на шыбеніцы.

[3] *Агасвер* (у Скарыны Асвер, у рускім перакладзе Артаксеркс) — персідскі цар, які выведзены ў Біблії апекуном яўрэяў. Розныя прамыя і ўскосныя даныя сведчаць, што пад гэтым іменем у кнізе «Эсфір» выступае не хто іншы, як вядомы Ксеркс, сын Дарыя І, які нарадзіўся ў 513 г., стаў царом у 485 г. і быў забіты ў 465 г. да н. э.

[4] *Мардахей* — паводле біблейскай міфалогіі, набожны іудзей, які палонным быў вывезены персамі ў сталіцу, горад Сузы, дзе займаў сціплую пасаду царскага брамніка. Апякун і выхавальнік сваёй рана асірацелай пляменніцы Гадасы (Эсфіры).

Кніга «Эсфір» выдання Скарыны захавалася ў 9 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання змешчана тэматычная тлумачальная гравюра «Есьфер-царица пришла пред Асъвера-царя», якая паўторана ў гэтай кнізе на л. 18 і суправаджаецца тэкстам: «Сие же речи, нижей положеные, написаны суть во книгах греческаго и латинъскаго языка выкладу посполитого. И абы не было уменъшено в руском языку, положил есм яко и в тых писмах все зуполне». Пасля сваёй прадмовы перад тэкстам самой кнігі Скарына змясціў, ужо каторы раз, гравюрную застаўку з кнігі «Ісус Навін». Цікавай своеасаблівасцю скарынаўскага выдання гэтай кнігі Біблії з'яўляецца наяўнасць у ёй двух пасляслоўяў. Кароткае пасляслоўе пададзена на л. 17 пасля 9 раздзела кнігі, у ім гаворыцца: «Книги Есфер, зовемые от еврей Мъкгіля, доконаваются зуполне, выложены на руский язык доктором Франциском Скориною с Полоцька. А толико ест сее книги написано еврейским языком». Разгорнутае пасляслоўе змешчана на л. 26 адразу пасля тэксту біблейскага твора.

## Кніга «Плач Ераміі»

[1] *Анафацыт* — радзіма біблейскага прарока Ераміі. Пасля вяртання яўрэяў з вавілонскага палону быў захоплены нашчадкамі Веніяміна і Левія. Па сцверджаннях Іосіфа Флавія і Ераніма, ён знаходзіўся недалёка ад Ерусаліма.

[2] *Іасія (Асія)* — паводле біблейскіх звестак, сын і пераемнік Амона, цар іудзейскі, які стаў царом пасля смерці бацькі, калі яму было толькі 8 гадоў. Дасягнуўшы свайго паўналецця, праявіў сябе заўзятым ворагам язычніцкага ідалапаклонства. Рашуча разбураў язычніцкія капішчы і ахвярнікі, знішчаў ідалаў і куміраў. Будучы абаронцам рэлігійнай чысціні, ён паспяхова знішчаў сляды язычніцтва не толькі на тэрыторыі свайго іудзейскага царства, але і на землях, падуладных Ізраільскай дзяржаве. У бітве з егіпцянамі на 31-м годзе свайго панавання Іасія атрымаў смяртэльную рану, ад якой памёр, і быў пахаваны ў Іерусаліме. Яго смерць аплакаў Ерамія ў сваёй жалобнай песні.

[3] *Ціт Флавій* (39—81) — рымскі імператар з 79 г., сын імператара Веспасіяна Флавія. Выхаванне атрымаў пры дварах імператараў Клаўдзія і Нерона. Яго ваенная кар'ера пачалася ў Германіі і Брытаніі, дзе ён вылучыўся, займаючы пасаду ваеннага трыбунала. Калі імператар Нерон накіраваў яго бацьку ва ўзбунтаваную Іудзею, Ціт паехаў туды разам з бацькам, атрымаў у камандаванне легіён і дапамог свайму бацьку пракласці шлях да дзяржаўнай улады. У 69 г. стаў галоўнакамандуючым рымскага войска ў Палесціне ў час вайны з іудзеямі. У 70 г. Ціт захапіў Іерусалім і разбурыў яго, праявіўшы пры гэтым выключную жорсткасць. За час знаходжання ў Палесціне ажаніўся на прыгажуні Вераніцы, дачцы Ірада Агрыпы, і сястры Ірада Агрыпы II, іудзейскіх царкоў. Вяртаннем Ціта ў Рым з пышным трыумфам было адсвяткавана ўціхаміранне Іудзеі. У 73 г. Ціт стаў сакіраўнікам свайго бацькі і ад яго імя вёў барацьбу з арыстакратычнай сенатарскай апазіцыяй. Займаў пасаду прэфекта (начальніка) гвардыі. Бязлітаснае знішчэнне асоб, якія

выклікалі ў яго падазрэнне, яшчэ пры жыцці бацькі рабілі яго імя ненавісным у Рыме. У мэтах прымірэння з падданымі Ціт, стаўшы імператарам, пачаў кіраваць імперыяй сумесна з сенатам, сурова караў даносчыкаў, схіляў да сябе народ раскошнымі пабудовамі і гульнямі. У часы яго панавання быў адкрыты славуты рымскі Калізей, будаваць які пачаў яшчэ яго бацька, і адбылося (у 79 г.) страшнае вывяржэнне вулкана Везувія.

[4] *Веспасіян Флавій* (9—79) — рымскі імператар (69—79), заснавальнік дынастыі Флавіяў. Нарадзіўся ў знатнай сям'і. У часы імператарства Калігулы быў ваенным трыбунам у Фракіі, потым квестарам, ■ пасля прадстаўніком вышэйшай судовай улады. У 51 г. быў прызначаны консулам, пазней намеснікам у Афрыцы. Пры імператарах Клаўдзіі і Нероне займаў вышэйшыя пасады ў магістратуры і камандаванні. У 66 г. Нерон прызначыў яго галоўнакамандуючым рымскага войска ў Палесціне. Пасля звяржэння Нерона прысягнуў на вернасць са сваім войскам спачатку Гальбе, а пасля яго забойства — Атону. Аднак пасля смерці апошняга ў 69 г. егіпецкія войскі абвясцілі Веспасіяна імператарам. Будучы імператарам, ён уключыў многіх прадстаўнікоў правінцыяльнай знаці ў сенат і распаўсюдзіў на іх шэраг правоў рымскага і лацінскага грамадства, умацоўваў сацыяльную базу рабаўладальніцкай імперыі, траціў вялікія сродкі на ўзвядзенне манументальных грамадскіх будынкаў. Пасля смерці ў 79 г. пакінуў двух сыноў, Ціта і Даміцыяна, якія таксама былі імператарамі.

Кніга «Плач Ераміі»— адно з найбольш рэдкіх выданняў Францыска Скарыны. Яно захавалася толькі ў 4 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання змешчана тэматычная тлумачальная гравюра з надпісам: «Еремиа, пророк господень, плачеть, гледя на Ерусалим». На л. 3 пасля тэксту прадмовы Скарыны паўторана застаўка з кнігі «Ісус Навін». Перад тэкстам пасляслоўя паўторана віньетка з прадмовы Скарыны да кнігі «Левіт».

## Кніга «Суддзі»

[1] *Кніга «Суддзі»*— адна з частак Старога запавету, у якой апісваюцца падзеі двухсотгадовага перыяду гісторыі яўрэйскіх плямён пасля «выйсця іх ■ Егіпту» (прыблізна XII—XI стст. да н. э.), які папярэднічаў фарміраванню раннефеадальнай рабаўладальніцкай Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы. Паводле біблейскай міфалогіі, пасля Майсея і Ісуса Навіна старажытныя яўрэі не мелі пастаянных важакоў і кіраўнікоў, а таму яны часта падвяргаліся прыгнёту з боку суседніх народаў, зазнавалі шмат пакут і бед. Менавіта ў гэты перыяд іх гісторыі наступіла эпоха Суддзяў, якія арганізоўвалі народ на барацьбу са знешнімі ворагамі і ажыццяўлялі ўладкаванне ўнутрыплемяннога правапарадку. Іх улада не мела пастаяннай пераемнасці і не была самадзяржаўнай. Яны кіравалі, піша Скарына, не «яко цари или властели вышнии, силу имеющие над ними, но яко ровнии и товарищи, раду им даючи и справедливость межи ними чинячи». Сваім зместам гэта кніга ахоплівае перыяд ад смерці Ісуса Навіна да першасвяшчэнніка Ілы, або да смерці суддзі Самсона. Іудзейскае паданне называе складальнікам гэтай кнігі Бібліі прарока Самуіла Мяркуюць, што яна апрацоўвалася на працягу значнага часу і завершана ў VI ст. да н. э. Паколькі ў прадмове Скарыны падаюцца кароткія звесткі, паводле Бібліі, пра ўсіх 12 суддзяў, пра якіх вядзецца гаворка ў кнізе «Суддзі», то мы іх дадаткова не тлумачым у сваіх каментарыях.

[2] *Неямія* — адзін з іудзейскіх патрыётаў, губернатар Іерусаліма, які шмат гадоў працаваў над аднаўленнем гэтага горада пасля вавілонскага разбурэння. Жыў у V ст. да н. э. Паводле біблейскай міфалогіі, сын Ахалія з іудзейскага роду. Знаходзячыся ў палоне, быў падчашым у персідскага цара Артаксеркса Лангімана. І калі ён даведаўся пра бядотнае становішча сваіх суайчыннікаў у Палесціне, Неямія папрасіў у цара адпусціць яго на радзіму. У Палесціне ён разам з Ездрай прыняўся за рэлігійна-маральнае і грамадзянскае добраўпарадкаванне народа. Гісторыя гэтай дзейнасці Неяміі выкладзена ў біблейскай кнізе, вядомай пад яго імем. Яна складаецца з 13 раздзелаў і

змешчана ў іудзейскім каноне Біблії пасля кніг «Ездры» як аднародная па зместу, у хрысціянскай Біблії — пасля першай кнігі «Ездра».

[3] *Хузарсатан (Хусарсафем)* — паводле біблейскага падання, месапатамскі цар, які панаваў над ізраільцянамі 8 гадоў, пакуль яго не перамог Гафанііл (у Скарыны — Афаніель). Іосіф Флавій называе яго царом асірыйскім.

[4] *Яглон* — маавіцкі цар у хананейскім горадзе Яглон, які напаў на яўрэяў, авалодаў іх горадам Ерыхонам і на працягу 18 гадоў прыгнятаў іх, карыстаючыся палітычнымі беспарадкамі. Загінуў Яглон ад рукі Аода. Яго смерць паслужыла сігналам для агульнага паўстання ізраільцян супраць маавіцян, якіх яны выгналі з Палесціны, а Аод (у Скарыны — Аіоф) стаў другім па ліку суддзёй ізраільскім.

[5] *Варак (Варах)* — сын Авінаама з пакалення Нефаналіма. Ён па закліку Дэборы-прарочыцы (у Скарыны — Дэльворы) узначаліў апалчэнне ізраільцян і нанёс сакрушальнае паражэнне Сісару, военачальніку цара Іявіна. Варак нечакана напаў на Сісара, прывёў у замяшанне непрыяцеля, які ў паніцы кінуўся наўцёкі, і цалкам разбіў яго. Сам жа Сісара быў забіты адной яўрэйкай у шатры, куды ён схаваўся. Гэта перамога прынесла Вараку вялікую славу, яго імя праслаўляецца ў Старым і Новым запаветах Біблії, у прыватнасці ў славутай «Песні Дэборы», якая змешчана ў кнізе «Суддзі».

[6] *Зізар (Сісара)* — военачальнік цара Іявіна, які панаваў у горадзе Асор, што на поўначы Палесціны, і на працягу 20 гадоў прыгнятаў ізраільцян.

[7] *Царства Асорскае* — паводле біблейскага падання, знаходзілася ў Хананейскай зямлі Палесціны з цэнтрам у горадзе Асор. Пры заваяванні Палесціны яўрэйскімі плямёнамі горад быў захоплены легендарным Ісусам Навінам, спалены, а жыхары знішчаны. У часы панавання ізраільскіх цароў яго аднавіў і ўмацаваў цар Саламон. Пазней быў заваяваны асірыйскім царом, а жыхары горада перасалены ў Асірыю. Дакладнае месцазнаходжанне былога Асора невядома.

[8] *Авімелах* — імя філісцімскіх цароў у часы біблейскага Аўрама, Ісака і Давыда. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе сын ізраільскага суддзі Гедэона. У Біблії ён паказаны як чалавек надзвычай уладалюбівы і па-тыранску жорсткі. Каб дасягнуць для сябе пануючага становішча і панаваць аднаму, ён выклікаў да сябе прыхільнасць жыхароў Сіхема і з іх дапамогай знішчыў усіх сваіх 70 братоў, пашкадаваў толькі аднаго, самага малодшага брата Іофама. Праз тры гады сіхемляне зненавідзелі Авімелаха і падрыхтавалі супраць яго змову. Калі гэта стала вядома цару, ён сабраў войска, разграміў змоўшчыкаў, авалодаў Сіхемам і знішчыў усіх яго жыхароў. Тых жа, каму ўдалося выратавацца ад гэтага набоішча ў вежы капішча Ваала, ён спаліў у ёй. Тое ж ён хацеў учыніць і з жыхарамі суседняга горада Фівеса, але адна з жанчын кінула ў яго каменем і прабіла яму галаву. Саромячыся памерці ганебнай смерцю ад рукі жанчыны, Авімелах загадаў свайму збраяносцу дабіць яго мячом.

Кніга «Суддзі», датаваная 1519 г., была апошнім пражскім выданнем Францыска Скарыны. Яна захавалася да нашага часу ў 9 экземплярах. На тытульным лісце гэтага выдання змешчана тэматычная тлумачальная гравюра: «Самсон пресилный расторгал льва на пути». У канцы прадмовы Скарыны паўторана віньетка з выдання кнігі «Іоў», а на л. 4 — застаўка з прадмовы да кнігі «Прытчы прамудрага Саламона».

## «Малая падарожная кніжка»

Другое выданне Псалтыра, зробленае Францыскам Скарынам у 1522 г. пасля пераезду яго на жыхарства з чэшскай Прагі ў сталічны горад Вялікага княства Літоўскага Вільню, азнаменавала сабой ўзнікненне і пачатак развіцця кнігадрукарскай справы на радзіме беларускага гуманіста. Гэта кніга адкрывае зборнік, так званую «Малую падарожную кніжку», якая, па задуме Скарыны, павінна была служыць практычным дапаможнікам для многіх людзей, што праводзілі па роду сваёй дзейнасці шмат часу ў дарозе. Менавіта

гэта абумовіла назву і сам склад такога своеасаблівага зборніка, а таксама яго выдавецкі фармат у 12-ю долю ліста.

У склад гэтага зборніка, як сведчыць яго досыць падрабязны змест, Скарына ў парадку чарговасці ўключыў: Псалтыр, «Часасловец», акафісты і каноны, «Шасціднევец», сціслыя «Святцы» і «Пасхалію». Але ці былі ўсе яны аб'яднаны самім выдаўцом у адзіную кнігу і ці быў надрукаваны Скарынам агульны да ўсяго выдання тытульны ліст з загалоўкам «Малая падарожная кніжка», нам дакладна невядома, паколькі слядоў такога тытульнага ліста нідзе не захавалася. Што ж датычыцца самой назвы гэтага зборніка, якая ўжо даўно і трывала ўвайшла у навуковы ўжытак, то так азагаловіў яго сам першадрукар у прыведзеным ім пасля «Пасхаліі» падрабязным змесце сваёй кнігі.

Не ўсе часткі «Малой падарожнай кніжкі» аднолькава зберагліся да нашага часу. Па колькасці ў гэтых адносінах першае месца займае Псалтыр. Гэта выданне захавалася ў 9 экземплярах.

[1] *«Часасловец» («Часаслоў»)* — рэлігійная кніга, у якой падаюцца пэўныя гадзіны царкоўных службаў у праваслаўных хрысціян, а таксама тэксты малітваў, якія чытаюцца за гэтымі службамі. Аднак ён не змяшчае тэксты літургій, якія сабраны ў асобны зборнік — так званы «Служэбнік». У старажытныя часы і ў перыяд сярэдневякоўя «Часасловец», як і Псалтыр, выконваў ролю вучэбна-педагагічнай кнігі.

[2] *Акафіст* — род асобнага хвалебнага царкоўнага песнапення ў гонар Ісуса Хрыста, багародзіцы і святых, якое выконваецца стоячы. Першы акафіст у гонар маці боскай співаўся ўсю ноч у суботу на пятым тыдні вялікоднага посту.

[3] *Канон* — музычная разнавіднасць устаноўленага ў XII ст. царкоўнага песнапення ў пахвалу пэўнага рэлігійнага свята, якое выконвалася шляхам паўтарэння напеву мелодыі іншымі галасамі праз пэўны вышэйшы або ніжэйшы музычны інтэрвал.

[4] *Архістратыг Міхаіл* выступае ў хрысціянскай міфалогіі як адзін з сямі самых вышэйшых анёлаў, якія служаць богу і з'яўляюцца выканаўцамі яго волі. У «Апакаліпсісе» Іаана Багаслова ён падаецца абаронцам хрысціян і звяргальнікам з неба дракона з яго світай. Гэты міфічны сюжэт свяшчэннай вайны з нячысцікамі Францыск Скарына адлюстраваў у гравюры, змешчанай на адваротнай старонцы тытульнага ліста «Библии рускай», якая адкрываецца кнігай «Быццё».

## «Акафіст Іаану Хрысціцелю»

[1] *Ерэй* (ад грэч. жрэц) — назва рэлігійнага служкі, якая перайшла са старажытнагрэчаскай культавай тэрміналогіі ва ўсходнеславянскую хрысціянскую царкву.

[2] *Ірад Анціпатар* — іудзейскі цар ідумейскага паходжання, сын Ірада Вялікага (73—4 гг. да н. э.). Ён быў царом Іудзеі ў 4 г. да н. э.— 39 г. н. э., паставлены рымскім трыумвірам Маркам Антоніем. Кіраваў чацвёртай часткай Іудзейскага царства, як і яго бацька, быў заўзятым будаўніком, заснаваў горад Тыверыяду, названую ў гонар рымскага імператара Тыберыя, куды перанёс сваю рэзідэнцыю. Будучы слабавольнай і беспрынцыпнай асобай, ён любіў шыкоўнае жыццё і вострыя адчуванні. Адвергнуўшы законную жонку, Ірад сышоўся з Ірадыядай, жонкай свайго зводнага па бацьку брата. За гэту сувязь Іаан Хрысціцель ганьбаваў Ірада, які баючыся выкрыцця, імкнуўся да часу цярпець Іаана, пакуль у справу не ўмяшалася сама Ірадыяда. Каб звесці з Іаанам асабістыя рахункі, яна спачатку дамаглася яго зняволення ў крэпасць, а пасля пакарання яго смерцю адсячэннем галавы. Натхняемы Ірадыядай, Ірад у мэтах дамагання царскай годнасці заключыў сепаратны саюз з парфянамі супраць рымлян. За гэта ён разам з Ірадыядай па загаду імператара Кайя Калігулы быў высланы ў галілейскі горад Ліон і пасаджаны там у турму, дзе і скончыў сваё жыццё. Хрысціянская легенда абвінавачвае Ірада не толькі ў абразе, але і ў прамым саўдзеле ў смерці Ісуса Хрыста.

[3] *Кандак* — кароткая група царкоўных песнапенняў, асаблівасць якіх заключаецца ў тым, што ў чынапаследаваннях у гонар таго або іншага святога ці свята такое песнапенне ўтрымлівае ў сабе тэму ўсяго чынапаследавання. Першым аўтарам кандака быў візантыйскі пісьменнік канца V — пачатку VI ст. Раман Салодкапевец, якому належыць кандак у гонар багародзіцы.

[4] *Алілуя* (у перакладзе з яўрэйскай мовы азначае: хваліце госпада) — адна з урачыстых і свяшчэнных песень хрысціянскага багаслужэння, якая ўжываецца і асобна як прыпеў да другіх песнапенняў. У свой шырокі ўжытак яна ўвайшла яшчэ ў I ст. н. э. у так званыя апостальскія часы і пры спяванні ў гонар св. тройцы звычайна паўтаралася тройчы. Алілуя выконвалася таксама ў хрысціянскіх цэрквах і як самастойная песня.

[5] *Ікас* — багаслужэбная песня, якая служыць праслаўленню святога або святкуемай царкоўнай падзеі. Ён утварае састаўную частку ранішняга канона, у якім змяшчаецца пасля шостай песні, а таксама акафіста, дзе ён чаргуецца з кандаком, з якім мае аднолькавы змест і ад якога адрозніваецца толькі большай шматслоўнасцю. Такім чынам, ікас уяўляе сабой разгорнутае развіццё тэмы, змешчанай у кандаку.

[6] *Захарый* — іерусалімскі свяшчэннік, бацька Іаана Хрысціцеля. Паводле біблейскай легенды, належаў да свяшчэнніцкага іудзейскага роду і да самай старасці быў бяздзетным. Калі ж яму ў храме было «відзенне» анёла, які паведаміў яму чакаемае нараджэнне сына, Захарый усумніўся, за што быў пакараны нематою і пазбаўлены ад яе толькі пасля нараджэння сына.

[7] *Елізавета* — жонка свяшчэнніка Захарыя, маці Іаана Хрысціцеля. Паводле біблейскай легенды, паходзіла з роду Аарона і даводзілася сваячкай багародзіцы.

[8] *Фарысеі* — адна з трох старажытнаяэўрэйскіх рэлігійна-палітычных плыней (сект), якая ўзнікла ў эпоху росквіту дынастыі Макавеяў (каля 150 г. да н. э.). Яны выражалі інтарэсы пераважна сярэдніх слаёў насельніцтва і аказвалі вялікі ўплыў на народныя масы, а часам і ўзначальвалі народныя паўстанні супраць рымскага панавання ў I ст. да н. э. Сваім заняткам яны лічылі тлумачэнне і выкладанне біблейскіх законаў, таму іх называлі яшчэ кніжнікамі. Фарысеі вялі строга пурытанскі вобраз жыцця і карысталіся папулярнасцю ў народзе. У пытаннях унутранай палітыкі фарысеі заўсёды былі на баку народных нізоў і выступалі супраць замахаў пануючага класа. Паколькі іх лозунгам было сцверджанне: «Закон для народа, а не народ для закона», народ ім давяраў і быў паслядоўнікам іх веравучэння, бо яны прызнавалі абавязковасць захавання ўсіх пастаноў старадаўніх законавучыцеляў і ўсіх старадаўніх народных звычаяў. На гістарычную арэну фарысеі выступілі ў часы жыцця іудзейскага князя-першасвяшчэнніка Іаана Гіркана (каля 140 г. да н. э.). У канцы I ст. да н. э. у часы панавання Ірада Вялікага іх палітычная дзейнасць у грамадскім жыцці Іудзеі спынілася, і ўсю сваю далейшую дзейнасць яны сканцэнтравалі на даследаванні рэлігійнага закону, працягваючы захоўваць уплыў у народных масах.

[9] *Садукеі* — другая з трох разнавіднасцей рэлігійна-палітычных плыней у старажытнай Іудзеі ў II ст. да н. э.— I ст. н. э. Сваю назву вялі ад Садока, першасвяшчэнніка іерусалімскага храма, які жыў у X ст. да н. э. і якога яны лічылі сваім духоўным бацькам. Як рэлігійна-ідэалагічная плынь, садукеі выражалі інтарэсы прадстаўнікоў іудзейскай рабаўладальніцкай знаці, вышэйшага іерусалімскага жрэчаства і чыноўнікаў. У адрозненне ад фарысеяў садукеі ў дагматычных пытаннях праяўлялі пэўны рацыяналізм, вучылі аб існаванні свабоды волі і свабоды выбару чалавекам паміж дабром і злом. Пасля падпарадкавання Іудзеі рымскаму панаванню ў 63 г. н. э. садукеі захапілі камандныя пазіцыі ў храмавым кульце і ў палітычным жыцці, вылучаліся сваім багаццем і раскошным вобразам жыцця. Групуючыся вакол кіруючай дынастыі ў якасці яе военачальнікаў і дарадцаў, садукеі сканцэнтравалі ў сваіх руках ваенную і адміністрацыйную ўладу ў краіне, бо самі складалі не толькі радавую, але і грашовую арыстакратыю старажытнай Іудзеі. Пасля разбурэння Іерусаліма ў 70 г. н. э. садукеі страцілі сваё духоўнае значэнне і палітычную магутнасць і сышлі з гістарычнай арэны.

[10] *Часы* — гэта пэўныя гадзіны кожнага дня, на працягу якіх быў уста-

ноўлены рэгламентаваны парадак царкоўнага богаслужэння чытаннем малітваў і спяваннем псалмоў: раніцай з 7 да 9, перад абедам з 10 да 12, пасля абеду з 13 да 15 і вечарам з 16 да 18 гадзін.

[11] *Малітва* — рэлігійная форма звароту веруючага да бажаства, адзін з галоўных элементаў любога веравызнаўчага культу, пры якім ствараецца ілюзорнае адчуванне непасрэднага кантакту рэальнай асобы ці рэлігійнай групы са звышнатуральнай сілай, міфічнай істотай і інш. Узнікшы з магіі слова, малітва яшчэ ў антычныя часы была часткай публічнага рытуалу.

[12] *Філіп* — сын іудзейскага цара Ірада Вялікага ад другой жонкі Марыяны, дачкі першасвяшчэнніка Сімона; быў першым мужам Ірадыяды, якая нарадзіла яму дачку Саламію. У евангеллях згадваецца ў сувязі з турэмным зняволеннем Іаана Хрысціцеля. Па завяшчанню бацькі Філіп быў пазбаўлены спадчыны і права панавання, неўзабаве пасля яго смерці разам з жонкай выехаў у Рым, дзе жыў на ўтрыманні імператара. Такое незайздроснае становішча мужа глыбока ўразіла фанабэрыстую і ўладалюбівую Ірадыяду, і яна дасягнула жаданага звання царыцы без Філіпа, калі разарвала свой шлюб з ім і стала жонкай яго зводнага брата Ірада Анціпы.

[13] *Асія* — паводле Бібліі, адзін з 12 меншых прарокаў, які прарочыў ад пачатку панавання цара Ераваама II і да падзення Ізраільскага царства ў 723 г. да н. э. Яго кніга прароцтваў накіравана супраць агульнага разладу і беспарадкаў у краіне, дзе панавалі крамолы, змовы, міжусобіцы і хваляванні, якія садзейнічалі поспехам знешніх ворагаў. Яна прасякнута духам непрымірымасці, выкрыцця і заклікамі апамятацца, пакуль яшчэ не позна, каб пазбегнуць пакарання зверху і пагібелі.

[14] *Іаіль* — прарок з ліку 12 меншых прарокаў. Паводле біблейскай легенды, яго дзейнасць праходзіла ў Іерусаліме ў часы панавання Іяаса. Яго прароцтвы, як сведчыць змест аднайменнай біблейскай кнігі, у значнай меры мелі апакаліптычны характар.

[15] *Амос* — трэці прадстаўнік з ліку 12 меншых прарокаў, сучаснік прарокаў Іаіля, Асіі і Ісаіі. Спачатку быў пастухом і займаўся жывёлагадоўляй. Прароцкую дзейнасць пачаў у часы панавання Іасіі, цара іудзейскага, і Еравеама II, цара ізраільскага. Жыў у Ізраільскім царстве ў г. Вефілі. За свае выкрывальныя і грозныя прамовы, накіраваныя супраць сучасных яму ізраільскіх уладароў, сацыяльнай несправядлівасці і маральнага разлажэння ізраільцян, падвяргаўся нападкам з боку галоўнага вефільскага жраца Амасіі, які патрабаваў ад цара Еравеама II выгнаць яго прэч з горада ў зямлю Іудзейскую.

[16] *Аўдзей* — чацвёрты з ліку 12 меншых прарокаў. Яго прароцтва звернута да ідумеяў, якіх ён дакараў за здрадніцтва, зробленае імі ў дачыненні да сваіх брацціяў ізраільцян, калі яны ў час першага разгрому іх царства вавілонцамі перакрылі шлях ізраільцянам да выратавання.

[17] *Міхей* — пяты прарок, які прапаведаваў у Іудзеі. Яго прароцкая дзейнасць адносіцца да часоў панавання іудзейскіх цароў Іяфана, Ахама і Езекіі, калі Ізраільскае і Іудзейскае царствы хутка хіліліся да свайго заняпаду. Прадказваў разбурэнне Іерусаліма, узнікненне дыяспоры і іншыя беды і няшчасці, якія спасцігнуць народ.

[18] *Навум* — біблейскі прарок з Галілеі, што ў паўночнай Палесціне. Паводле падання Іосіфа Флавія, прароцкую дзейнасць пачаў у часы панавання Езекіі (745—716 гг. да н. э.), якая працягвалася да першых гадоў панавання Манасіі. Яго прароцкая кніга пропаведзяў змяшчае ў сабе яркі малюнак сучаснага яму рэлігійна-маральнага і палітычнага становішча Палесціны і разам з тым падае шмат звестак па гісторыі Асірыі.

[19] *Сафоній* — адзін з 12 меншых прарокаў, паходзіў са знатнага роду, жыў у часы панавання іудзейскага цара Іасіі ў VII ст. да н. э., калі пад уплывам набожнага цара іудзеі вярнуліся да веравызнання сваіх продкаў, але само Іудзейскае царства знаходзілася ўжо напярэдадні свайго заняпаду. Прадказанне Сафоніі аб гэтай небяспецы і заклік да пакаяння складаюць галоўны змест яго кнігі прароцтваў.

[20] *Агей* — адзін з апошніх 12 меншых прарокаў, які жыў і прарочыў у другой палавіне VI ст. н. э., г. зн. пасля вавілонскага палону. Яго прароцкія

прамовы заклікалі суайчыннікаў да аднаўленчых работ па рэстаўрацыі іерусалімскага храма.

[21] *Захарыя* — біблейскі прарок, сучаснік Агея. Нарадзіўся ў часы вавілонскага палону, які яму самому прыйшлося перажыць, і пасля вяртання з палону на радзіму шмат садзейнічаў маральнаму і духоўнаму адраджэнню народа. Кніга яго прароцтваў багата паэтычнымі мясцінамі. У ёй раскрываюцца прывіды Захарыя, выказваюцца розныя пагрозы ворагам, прадказваюцца некаторыя будучыя падзеі, а таксама прышэсце месіі — «збавіцеля».

[22] *Малахія* (у перакладзе са стараяўрэйскай азначае: «мой веснік»), паводле біблейскага падання, паходзіў з пакалення Зевулона і памёр у маладым узросце. Яго прароцкая дзейнасць праходзіла ў V ст. да н. э., калі іерусалімскі храм ужо быў адбудаваны пасля вавілонскага палону. Ён выступаў змагаром за веру і закон продкаў, выкрываў і крытыкаваў яўрэйскае насельніцтва і свяшчэннікаў за адсутнасць стараннасці ў захаванні традыцыйных абрадаў веравызнання і пагражаў ім страшным боскім судом за розныя заганы і грахі. Кніга Малахіі пабудавана ў форме своеасаблівага дыялогу паміж богам і прарокам, з аднаго боку, і народам — з другога.

[22] Пад «девицей» Францыск Скарына ў дадзеным выпадку меў на ўвазе Саламію, дачку Філіпа, зводнага брата Ірада Анціпы.

З трэцяй пары «Акафіста чесному и всехвалному пророку, предтечи и крестителю господьню Іоанну» і «Канона акафісту светому Іоанну Предтечи» да нашага часу дайшлі экземпляры, з якіх «Акафіст Іаану Хрысціцелю», напэўна, належыць пяру беларускага першадрукара, пра што сведчыць акраверш, які чытаецца ў гэтым творы: «Писал доктор Скоринич Францискус». На тытульным лісце гэтага акафіста змешчана тэматычная гравюра: «Іоанн Предтеча крещаеть во Іордане нашего Ісуса Христа».

## Акафісты «вярхоўным апосталам Пятру і Паўлу» і «вялікаму цудатворцу Міколе»

[1] *Апостал Пётр* — у новазапаветнай хрысціянскай міфалогіі падаецца як рэальная асоба рыбака, які першапачаткова насіў імя Сімон. Як паведамляюць евангелісты, ён быў выхадцам з галілейскага горада Віфсаіды, размешчанага каля Генісарэцкага возера, і даводзіўся братам апостала Андрэя, празванага Першазваным. Пачуўшы ад свайго брата пра назарэцкага прапаведніка Ісуса, ён паспяшаўся ўбачыць яго і, па сцверджанню Евангелля ад Мацвея, першым абвясціў Ісуса месіяй (Хрыстом). За гэта Ісус назваў яго каменем (па-грэчаску Петрс), на якім будзе ўзведзена хрысціянская царква. Стаўшы актыўным паслядоўнікам Хрыста, адным з дванаццаці абраных ім пасланнікаў-апосталаў, Пётр аддаўся месіянерскай дзейнасці, прапаведзі веравучэння на прасторах ад Вавілона да Рыма, дзе яго разам з другім апосталам Паўлам напаткала пакутніцкая смерць праз распяцце ўніз галавою на крыжы ў часы панавання рымскага імператара Нерона не пазней 68 г. н. э. Перш чым стаць адным з галоўных прапаведнікаў новага веравызнання, Пётр у самы рашучы момант тройчы адмовіўся ад свайго настаўніка, хоць за некалькі дзён перад гэтым кляўся, што гатоў за яго жыццё ахвяраваць сваім жыццём. Як падаецца ў евангеллях, ён горка перажываў сваю здраду настаўніку, і таму Хрыстос, пасля свайго «ўваскрэсення», дараваў яму яго адступніцтва. Пётр, паводле царкоўнага падання, адыграў вялікую ролю ў развіцці ранняга хрысціянства, бо, стаўшы рымскім епіскапам, на працягу 25 гадоў узначальваў хрысціянскую царкву ў Рыме і прыняў там пакутніцкую смерць на крыжы. У барацьбе за ўмацаванне рэлігійнага ўплыву папства ў хрысціянскім свеце каталіцкая царква выкарыстала гэту легенду для распаўсюджання сцверджання аб перадачы «ключоў ад царства нябеснага» непасрэдна папе рымскаму, якога сталі лічыць прамым пераемнікам апостальскіх царкоўных традыцый Пятра. Пяру апостала Пятра хрысціянская царква прыпісвае аўтарства двух саборных пасланняў, якія ўключаны ў «Апостал».

[2] *Мікола* — архіепіскап мірлікійскі (горад Мір у Лікіі), жыў у IV ст. Лічыцца вялікім хрысціянскім святым, які праславіўся сваімі «цудамі» пры жыцці і пасля смерці. Яго хрысціянская царква называе «правілам веры і вобразам пакорлівасці». Памяць гэтага архіепіскапа шануецца хрысціянамі, ерэтыкамі і нават мусульманамі. Яго жыццяпіс ўпершыню быў пададзены візантыйскім агіёграфам X ст. Сімяонам Метафрастам.

## «Акафіст імю Ісуса Хрыста»

[1] *Цімей* — магчыма, адзін з сямі паважаных дыяканаў, якія, паводле новазапаветнай легенды, былі абраны апосталамі распаўсюджваць евангельскае вучэнне ў розных краінах свету. За гэту дзейнасць ён быў абраны епіскапам Басры ў Аравіі, дзе і загінуў на кастры ад рук язычнікаў.

[2] *Варцімей* — сляпы ерыхонскі жабрак, якога, паводле евангельскіх паданняў, Ісус Хрыстос сваім «цудам» зрабіў відушчым.

[3] *Генісарэцкая зямля* — раўніна на заходнім беразе Генісарэцкага возера, у Галілеі на яе тэрыторыі ў старажытныя часы было шмат гарадоў (Капернаўм, Віфсаіда, Тынерыяда і інш.).

[4] *Наін* — старадаўні галілейскі горад Палесціны на поўдзень ад Назарэта. Цяпер на яго месцы знаходзіцца невялічкая вёска з руінамі старажытных гарадскіх пабудоў.

[5] *Капернаўм* — старажытны горад Галілеі на паўночна-заходнім беразе Генісарэцкага возера, які, відаць, узнік за стагоддзе да н. э. Яго назва ў перакладзе з яўрэйскай мовы азначае «Пасяленне Навума». Размяшчаўся на скрыжаванні гандлёвых шляхоў непадалёку ад вусця ракі Іардан. У часы рымска-іудзейскай вайны быў разбураны. Яго руіны цяпер называюцца Тэль Гум. Паводле евангельскіх паданняў, у гэтым горадзе большую частку свайго «зямнога жыцця» правёў Ісус Хрыстос.

[6] *Філіп* — апостал, нарадзіўся ў галілейскім горадзе Віфсаідзе. Сярод апосталаў, паводле біблейскай легенды, займаў пятае месца. Прапаведаваў у Скіфіі і Фрыгіі, дзе быў распяты на крыжы ў часы панавання імператара Даміцыяна Флавія.

[7] *Закхей* — начальнік мытараў у Ерыхоне. Каб убачыць уласнымі вачыма Ісуса Хрыста, які ішоў у Ерыхон, ён, паводле легенды, будучы малога росту, залез на смакоўніцу, на якой яго і заўважыў сам Хрыстос і загадаў яму спусціцца на зямлю, дзе паведаміў аб сваім жаданні наведаць яго дом і даць сваё блаславенне. Пасля гэтага Закхей, паводле біблейскага падання, быў першым епіскапам у Кесарыі, што ў Палесціне.

[8] *Лазар* — жыхар горада Віфаніі, што непадалёку ад Ерусаліма. Разам са сваімі сёстрамі Марфай і Марыяй ён надзвычай любіў, паважаў і цёпла сустракаў Ісуса Хрыста. За гэта, паводле біблейскага падання, удзячны Ісус Хрыстос, калі аднойчы выпадкова даведаўся пра смерць Лазара, ажывіў яго.

[9] *Фама* — адзін з ліку 12 вялікіх біблейскіх апосталаў. Паводле легенды, ён паходзіў з Галілеі і па прафесіі быў рыбак. Фама самааддана служыў Ісусу Хрысту, хоць і не заўсёды разумеў сэнс яго слоў, але шчыра выказваў сваю гатоўнасць памерці за свайго настаўніка. Калі аднойчы Ісус Хрыстос, як падаецца ў Бібліі, пасля свайго распяцця на крыжы «ўваскрэс» і ў адсутнасць Фамы паказаўся іншым апосталам, якія паведамілі пра гэта Фаме, то апошні не паверыў ім і заявіў, што пераканаецца толькі тады, калі сам убачыць на яго руках раны ад цвікоў і памацае іх сваімі пальцамі. Адсюль і пайшоў крылаты выраз: няверуючы Фама.

У пададзеным ў «Малой падарожнай кніжцы» змесце Францыск Скарына «Акафіст імю Ісуса Хрыста» называе творам якогасьці Феакціста, у той час як у змешчаным у ім акравершы чытаецца: «Делал доктор Скоринич Францискус». Як разумець гэтыя словы? Ці яны азначаюць, што твор належыць пяру беларускага гуманіста, ці што Скарына проста перарабіў чужы тэкст, выкарыстаў акафіст іншага аўтара для складання патрэбнага акраверша, дакладна невядома.

У ленінградскім камплекце выданняў Францыска Скарыны на тытульным лісце гэтага акафіста пададзена гравюра, у цэнтры якой змешчана матка боская з Ісусам Хрыстом, а паабапал іх стаяць два анёлы. Пад гравюрай надрукаваны загаловак: «Починаеться акафіст пресладкому імени господа нашего Ісуса Христа, глаголемы по вся дни». Тэкст пасляслоўя да гэтага канона надрукаваны чырвонай кінаварнай фарбай. Ён адкрываецца гравюрай з надпісам: «Господь наш Ісус Христос во храме навчаеть законовчителей іудейских».

### «Шасцідневец»

Чацвёртай састаўной часткай «Малой падарожнай кніжкі» з'яўляецца «Шестодневець кратъкій на всу неделю, поченши от суботы, по обычаю всех восточных церквий». Ён займае 36 лістоў друкаванага тэксту, але ні прадмовай, ні пасляслоўем выдаўца не суправаджаецца.

«Шасцідневец» — назва вялікай колькасці твораў хрысціянскай літаратуры, якія ўяўляюць сабой тлумачэнне біблейскага міфа аб стварэнні богам свету на працягу 6 дзён, пераплеценае рознымі прыродазнаўчымі звесткамі. Як пісьмовы помнік ён узнік у першыя стагоддзі хрысціянства.

У ленінградскім камплекце, які паслужыў асновай нашага выдання твораў Францыска Скарыны, пасля «Шасцідзеўца» змешчаны тэкст «Канона пакаяльнага», за якім пададзены суботні «Канон ранішні».

### «Саборнік»

Апошняй, заключнай часткай «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны з'яўляецца «Саборнік», які складаецца з дзвюх частак — «Святцаў» і «Пасхаліі», мае агульную пагінацыю (л. 1—20) і агульны тытульны ліст з загалоўкам: «Последование церковнаго собърания въселетънаго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви». Найбольш поўны экземпляр скарынаўскага выдання захаваўся ў Каралеўскай бібліятэцы Капенгагена, паводле якога і падаецца тут тэкст «Пасхаліі».

Гэта частка «Малой падарожнай кніжкі» цікава тым, што ў ёй Скарына падаў астранамічныя звесткі пра даўжыню дня і ночы кожнага месяца, пра колькасць дзён у названых месяцах і рух нябесных сузор'яў, даты царкоўных святаў, зацьменняў сонца і месяца на 1523—1543 гг. Важна адзначыць, што беларускаму друкару была вядома сістэма высакосных гадоў. Так, ён звяртаў увагу на тое, што «месець февраль імать дни 28, аще прилучится на четверты год висекст, тогда сей месец има 29 дни. День же вначале его имать годин 9, а дробных (так называў Скарына мінуты.— *А. К.*) 6, в нощи ж — 14, дроб[ных] — 54. Знамена бегу солнъцева — Водолей и Рибы».

Унікальным з'яўляецца і пададзены Скарынам змест гэтых яго віленскіх выданняў — «Писаныи речи в сей малой подорожной книжце по ряду кратце положены суть», у якім пералічваюцца ўсе часткі, усе творы, змешчаныя ў «Малой падарожнай кніжцы».

### «Пасхалія»

[1] *Пасхалія* — царкоўны хрысціянскі каляндар, у якім падаюцца даты вялікадня і іншых рэлігійных хрысціянскіх свят на кожны год.

[2] *«Сошествие святого духа»* — гл. каментарый 5 да прадмовы Скарыны да кнігі «Левіт», дзе падаецца тлумачэнне пяцідзесятніцы. Гэта свята ў хрысціян адзначаецца на другі дзень пасля тройцы (сёмухі) і прыпадае на канец мая або пачатак чэрвеня.

[3] *Мясапуст* — дзень, у які, паводле правіл хрысціянскай царквы, забараняецца есці мяса. Як царкоўны тэрмін звычайна ўжываецца для абазначэння тыдня, т. зв. масленіцы, перад пачаткам вясенняга 7-тыднёвага велікоднага посту.

[4] *Пятроў пост* па хрысціянскаму царкоўнаму календару не мае пэўнай колькасці дзён і папярэднічае святу апосталаў Пятра і Паўла (12 ліпеня па

новаму стылю). У залежнасці ад даты вялікадня вызначаецца і працягласць гэтага посту.

[5] *Трыодзь* — хрысціянская богаслужэбная кніга царкоўных песнапенняў у тры галасы, якая ўзнікла ў V ст. у Візантыі. Яна змяшчае песнапенні і малітвы, якія ўжываюцца ў царкоўных службах перад велікодным постам і ў час самаго посту (трыодзь посная), а таксама ў велікодную і наступныя нядзелі (трыодзь каляровая).

[6] *Благавешчанне* — адно з вялікіх рэлігійных свят хрысціянскай царквы, якое ў католікаў называецца звеставаннем. Для абгрунтавання яго багасловы выкарысталі евангельскі міф аб абвяшчэнні архангелам Гаўрыілам у галілейскім горадзе Назарэце дзеве Марыі тайны дзівоснага зачацця ёю ад бога сына, якога назавуць Ісусам і які стане выратавальнікам чалавечага роду. Яшчэ Іаан Златавуст назваў благавешчанне першым святам і асновай усіх іншых хрысціянскіх свят. У дзень гэтага свята (25 сакавіка) нават сам пост веруючых, як правіла, паслабляўся хрысціянскімі цэрквамі. Гэта легенда служыла пастаянным сюжэтам для мастакоў эпохі сярэдневякоўя, а ў паэзіі яго выкарыстаў А. С. Пушкін для стварэння атэістычнай паэмы «Гаўрыліяда».

[7] *Георгій (Юрый)* — адзін са святых хрысціянскай царквы, пакутнік, але перамаганосец. Паводле сказання Метафраста, ён паходзіў са знатнага кападакійскага роду і займаў досыць высокае становішча ў войску. Калі рымскі імператар пачаў праследаваць хрысціян, Георгій злажыў з сябе ваенны сан і стаў прапаведнікам хрысціянства, за што пасля цяжкіх пакут каля 303 г. быў пазбаўлены галавы. Існуе шмат розных жыцій і сказанняў пра жыццё, подзвігі і цуды гэтага святога велікамучаніка. Старажытныя ўсходнія і заходнія календары адносяць яго смерць да 23 красавіка, у гонар чаго і было ўведзена рэлігійнае свята. На царкоўных іконах св. Георгій Перамаганосец малюецца юнаком на белым кані, які паражае сваім кап'ём дракона. На Русі ад часоў Яраслава Мудрага гэты малюнак быў традыцыйным на пячатках і манетах.

[8] *40 севацийскіх пакутнікаў* — царкоўна-рэлігійнае свята, якое ў хрысціянскім календары мае пастаянную дату: 9 сакавіка.

[9] *Аляксей* — у хрысціянскай легендзе выступае сынам знатнага рымляніна. Яго жыццё адносіцца да часоў папы Інакенція І (402—416 гг.). Ужо ў маладосці вылучыўся сваёй дабрачыннасцю. Пражыўшы доўгі час пустэльнікам, вярнуўся ў бацькоўскі дом, але яго не пазналі ні бацькі, ні жонка, жыў сярод сваіх як незнаёмы чалавек, часта цярпеў з іх боку знявагу. Толькі незадоўга перад смерцю ён адкрыўся ім. Хрысціянская царква адзначае дзень яго памяці 17 ліпеня. Гэта легенда пра Аляксея, чалавека божага, была ўлюбёнай тэмай у сярэдневяковай паэзіі і прозе.

[10] *Круг сонца* — астранамічная адзінка часу, які займае праходжанне сонцам свае арбіты за трапічны год паміж нябесных сузор'яў.

[11] *Круг месяца* — адзінка вымярэння часу, за перыяд праходжання месяцам арбіты зямлі паміж нябесных сузор'яў.

[12] *Ражство Хрыстова* — вялікае царкоўна-рэлігійнае хрысціянскае свята ў гонар нараджэння легендарнага заснавальніка хрысціянства. Першае старажытнае ўпамінанне пра яго падаў Клімент Александрыйскі, які пісаў, што гэта свята адзначалася 6 студзеня і называлася багаз'яўленнем. У католікаў яно адзначаецца 25 снежня па грыгарыянскім календары.

[13] *Індыкт* — так у старажытнавізантыйскім календары, устаноўленым Канстанцінам Вялікім, называўся лік часу за 15-гадовы перыяд, праз які перыядычна праводзілася ацэнка маёмасці для збору падаткаў.

[14] *Пятро* — рэлігійнае хрысціянскае свята, якое адзначаецца царквой 29 чэрвеня па юліянскаму календару, або 12 ліпеня па новаму, грыгарыянскаму календару. Гэта дата лічыцца ў хрысціян днём пакарання легендарных апосталаў Ісуса Хрыста ў Рыме Пятра і Паўла ў часы панавання рымскага імператара Нерона.

[15–16] *Гібель месяца і сонца* — так Францыск Скарына называў месячнае і сонечнае зацьменні.

[17] *Узнясенне (ушэсце)* — адно з вялікіх царкоўных свят, якое адзнача-

сцца хрысціянскай царквой на 40-ы дзень пасля вялікадня. Знаходзячыся ў залежнасці ад вялікадня, яно не звязана з пэўнай датай і належыць да так званых рухомых або перахадных свят. Ужо ў IV ст. яно было ўсеагульным святам у хрысціянскай царквы. З цягам часу ў гонар гэтага свята была складзена асобая царкоўная служба, заснаваная на спяванні канонаў, аўтарам якіх быў славуты царкоўны гімнограф Іаан Дамаскін.

[18] *Святая нядзеля* — так у хрысціянскіх святцах называецца першы тыдзень пасля вялікадня.

[19] *Параклiт* — багаслоўскі тэрмін, які абазначае трэцюю асобу т. зв. святой тройцы — святы дух.

[20] *Страсная нядзеля* — гэта сёмы і апошні тыдзень, які папярэднічае вялікадню. Ім завяршаецца вялікі пост.

## Змест «Малой падарожнай кніжкі»

[1] *Іаан Дамаскін* (каля 675 — каля 753) — візантыйскі багаслоў, філосаф і паэт, адзін з так званых айцоў царквы. Нарадзіўся ў Дамаску ў знатнай арабскай сям'і хрысціянскага веравызнання. Атрымаў рознабаковую энцыклапедычную адукацыю. Спачатку, відаць, быў прыбліжаным халіфа, потым стаў манахам. Выступіў вядучым ідэйным кіраўніком т. зв. іконапаклоннікаў, абаронцам буйнога манастырскага землеўладання, адстойваў тэзіс аб перавазе духоўнай улады над свецкай, быў завяршальнікам і сістэматызатарам грэчаскай патрыстыкі. Імкнучыся ўпарадкаваць сучасныя яму навукі пад эгідай царквы на аснове Арыстоцелевай логікі, заклаў асновы схаластычнага метаду сярэдневяковай тэалогіі. Яго пяру належаць шматлікія творы філасофскага і багаслоўскага характару, сярод якіх галоўным была «Крыніца ведаў» (каля 742 г.) — своеасаблівая энцыклапедыя філасофскіх і багаслоўскіх звестак, якія аказалі вялікі ўплыў на фарміраванне сярэдневяковай схаластыкі. Яго творы ў скарочаным выглядзе і перакладах былі пашыраны ў Заходняй Еўропе, у славянскіх краінах і на Русі. У гісторыю літаратуры Іаан Дамаскін увайшоў як славуты паэт-гімнограф. У літургічнай лірыцы ён ускладніў архітэктоніку канона, дапоўніў яе акравершамі іператварыў яе ў структуру, якая глыбока ўздзейнічала на ўяўленне чытача і слухача прадуманасцю і стройнасцю.

[2] *Трапар* — рэлігійны зборнік малітоўных вершаў і песнапенняў праваслаўнай царквы ў гонар якога-небудзь свята або святога, якія ідуць у каноне за ірмасам і ў сваім спяванні падпарадкоўваюцца рытму і тону ірмаса. Сваё паходжанне трапар вядзе з Візантыі, дзе гэтыя малітоўныя вершы і песнапенні ўзніклі ў выніку апрацовак біблейскіх гімнаў і іншых духоўных тэкстаў.

[3] *«Обедница» (абедня)* — назва адной з царкоўных літургій, якая адбываецца ў сярэдзіне дня.

[4] *Іосіф* (?—883) — манах, якога хрысціянская царква называе ў ліку сваіх святых. Нарадзіўся ў Сіцыліі. Пэўны час жыў у Салунскім манастыры, пасля ў Канстанцінопалі, дзе праследаваўся і нават быў сасланы ў Херсанес. Вернуты са ссылкі назад у сталіцу імперыі, служыў у патрыярхіі, дзе неўзабаве патрыярх Фоцій зрабіў яго духоўнікам усяго канстанцінопальскага кліру. Надзелены ад прыроды паэтычным талентам і прасякнуты рэлігійным натхненнем, Іосіф усю сваю дзейнасць прысвяціў складанню богаслужэбных песнапенняў, у прыватнасці канонаў. Ёсць звесткі, што ім было складзена каля 300 канонаў, але не ўсе захаваліся да нашага часу. Лепшымі з іх лічацца каноны пакаяльныя.

[5] *Феакціст* — больш таго, што пра яго сказаў сам Скарына, назваўшы Феакціста манахам Студзійскага манастыра, нам нічога іншага пра яго асобу невядома.

[6] *Антыфон* — царкоўнае спяванне, пры якім хор пеўчых падзяляецца на дзве часткі і кожная спявае ў храме напераменку.

[1] *«Дзеянні і пасланні апосталаў»* — ананімны раннехрысціянскі твор, уключаны ў склад Новага запавету Бібліі пасля тэкстаў кананічных евангелляў. У гэтым помніку расказваецца аб распаўсюджванні хрысціянства пасля смерці Ісуса Хрыста. У цэнтры яго першай часткі дзейнасць іерусалімскіх вучняў Хрыста, у другой частцы — пропаведзь апостала Паўла, выказаная ў форме яго 14 пасланняў да розных асоб і народаў. Аўтар гэтага царкоўнага помніка (а ім, хутчэй за ўсё, з'яўляецца адна і тая ж асоба, што склала і Евангелле ад Лукі) выкарыстаў пісьмовыя крыніцы, напісаныя рознымі аўтарамі, літаратурна іх апрацаваў і дапоўніў, не дамогшыся, аднак, поўнага адзінства, не ўнікнуўшы ўсіх супярэчнасцей паміж асобнымі часткамі. Пытанне аб часе складання кананічнага тэксту Апостала спрэчнае. Артадаксальная багаслоўская літаратура адносіць яго да другой палавіны I ст., у савецкай навуцы пераважае думка, што складанне (фарміраванне) тэксту Апостала трэба аднесці да другой чвэрці II ст. Заснаваны на вусных легендах, дапоўнены выдуманымі прамовамі і пропаведзямі, гэты помнік царкоўнага пісьменства пакідае спрэчным таксама і пытанне аб мэтах яго ўзнікнення: ці ён узнік як помнік апалогіі хрысціянства наогул, будучы накіраваным супраць язычніцтва і іудзейства, або адлюстраваў ідэалагічную барацьбу унутры хрысціянства паміж іудзеямі-хрысціянамі, якія выступалі за захаванне ў хрысціянстве некаторых элементаў іудаізму, і паўлюканамі, якія імкнуліся да радыкальнага разрыву з іудаізмам, або паміж якімі-небудзь іншымі рэлігійнымі групоўкамі. Апостал з'яўляецца важнай крыніцай для вывучэння гісторыі ранняга хрысціянства.

[2] *Феафіл* — адзін з набожных жыхароў сірыйскай Антыёхіі, адкуль, паводле біблейскага падання, паходзіў і евангеліст Лука. Для яго як знатнай асобы евангеліст пісаў сваё Евангелле і кнігу «Дзеянняў апостальскіх». Феафіл, напэўна, або ўжо быў хрысціянінам, або толькі прыхільна адносіўся да хрысціянства, але хацеў больш дакладна і грунтоўна пазнаць змест, сутнасць і паўнату хрысціянскай ісціны.

[3] *Елеон, або Маслічная гара,* якая досыць часта згадваецца ў Новым запавеце Бібліі,— адна з высокіх гор Іудзеі, якая знаходзіцца на ўсход ад Іерусаліма. На гэтай гары ў Віфаніі, паводле біблейскай легенды, знаходзіўся дом Лазара, які часта наведваў Ісус Хрыстос па дарозе ў Іерусалім. Тут ён правёў сваю апошнюю ноч перад здрадай апостала Іуды Іскарыёцкага і з гэтай гары пасля свайго ўваскрэсення «ўзнёсся на неба».

## «Першае пасланне Пятра»

[1] *Віфсаіда* — старажытны палесцінскі горад у Галілеі на паўночным беразе Тывярыядскага возера. Паводле Бібліі, у тым раёне ў барацьбе з філісцімлянамі загінуў ізраільскі цар Саул са сваімі сынамі. У першыя вякі хрысціянства Віфсаіда была рэзідэнцыяй епіскапаў, у часы крыжовых паходаў стала рэзідэнцыяй архіепіскапа.

[2] *Андрэй* — адзін з 12 вялікіх апосталаў Ісуса Хрыста, якога, паводле біблейскай легенды, Ісус Хрыстос першым заклікаў ісці за сабой за Іардан у той час, калі ён лавіў рыбу на Галілейскім (Тывярыядскім) возеры. Па сцверджанню Евангелля ад Іаана, Андрэй быў адным з вучняў Іаана Хрысціцеля і яшчэ раней, чым яго брат Сімон (Пётр), быў заклікан на апостальства, а таму ў грэчаскіх рэлігійных паданнях называецца Андрэем Першазваным. Разам са сваім братам Сімонам (Пятром) і двума сынамі Завядзея (Якавам і Іаанам), таксама апосталамі, лічыцца самым блізкім вучнем Хрыста. Яго прапаведніцкая хрысціянская дзейнасць праходзіла сярод скіфаў, якія жылі на берагах Чорнага мора. Паводле падання рускіх летапісцаў, Андрэй прапаведаваў хрысціянства на тэрыторыі Старажытнай Русі, быў каля сучаснага Кіева і нават даходзіў да Ноўгарада. Потым па ўзбярэжжы Чорнага мора прыйшоў у Фракію (Балгарыю), адтуль у Грэцыю, дзе быў распяты на крыжы. Хрысціянская царква адзначае яго памяць 30 лістапада.

[3] *Антыёхія* — старажытная сталіца Сірыі, цяпер адміністрацыйны цэнтр паўднёвай турэцкай акругі Антак'я. Заснаваная за тры стагоддзі да н. э. Селеўкам Нікатарам, палкаводцам Аляксандра Македонскага, яна тады была сталіцай царства Селеўкідаў і з'яўлялася буйным гандлёва-рамесным і грамадска-культурным цэнтрам. У 538 г. была разбурана персамі, потым аднаўлена візантыйскім імператарам Юсцініянам І. У 638 г. заваявана арабамі. У 1098 г. пасля дзевяцімесячнай аблогі была захоплена крыжакамі і стала галоўным горадам Антыяхійскага княства. У 1516 г. увайшла ў склад Турцыі і з таго часу атрымала назву Антак'я.

[4] *Клаўдзій* (10—54) — рымскі імператар з 41 да 54 г. Паходзіў з дынастыі Юліяў — Клаўдзіяў, імкнуўся да цэнтралізацыі імператарскай улады і ўмацавання ваеннай дыктатуры. Ён заклаў асновы бюракратычнага імператарскага апарату, але некалькі змякчыў тэрарыстычны рэжым сваіх папярэднікаў — Тыберыя і Калігулы. У час яго панавання ў 43 г. была заваявана Брытанія. Быў атручаны сваёй жонкай Агрыпінай, якая даводзілася маці ўсыноўленага ім пасынка Нерона.

[5] *Сімон-чараўнік,* паводле біблейскага падання, паходзіў з Палесціны, вучыўся ў Александрыі філасофіі, пасля займаўся магіяй. Сустрэўшыся з апосталам Філіпам, захапіўся пропаведзямі і верай у Хрыста і прыняў хрышчэнне з мэтай авалодання апостальскім майстэрствам. Каб задаволіць сваю прагу, Сімон-чараўнік нават прапанаваў Пятру і Іаану грошы за такую навуку, але яны адмовіліся ад такой платы і падверглі яго публічнаму выкрыццю. Пасля правалу Сімон з новым запалам вярнуўся да свайго чараўніцтва, здзіўляў усіх у Малой Азіі, Грэцыі і Рыме сваім вядзьмарствам, выдаваў сябе за бажаство, якое нібы зышло з неба на зямлю. Будучы выкрыты апосталам Пятром у Рыме, Сімон, імкнучыся даказаць сваю магутнасць, пры спробе «ўзнесціся на неба» трагічна загінуў.

[6] *Нерон Клаўдзій* (37—68) — рымскі імператар з 54 г. з дынастыі Юліяў-Клаўдзіяў, сын Агрыпіны Малодшай, якога ўсынавіў яе муж імператар Клаўдзій. Першыя гады свайго панавання Нерон кіраваў імперыяй у згодзе з сенатам, аднак, будучы па характару самалюбным, жорсткім і разбэшчаным чалавекам, неўзабаве перайшоў да палітыкі рэпрэсій і гэтым самым супрацьпаставіў сябе не толькі сенатарскай знаці, якая ў 65 г. арганізавала супраць яго змову, але і ўсяго тагачаснага рымскага грамадства. Не церпячы апазіцыі, Нерон з бязлітаснай жорсткасцю распраўляўся са сваімі палітычнымі праціўнікамі. У 65 г. ён задушыў змову Пізона, быў віноўнікам смерці сына імператара Клаўдзія, свае маці Агрыпіны, дзвюх сваіх жонак Актавіі і Папеі Сабіны, свайго настаўніка, філосафа Сенекі і інш. У 68 г. супраць панавання Нерона паўсталі намеснікі правінцый. Калі ж яму здрадзілі нават яго целаахоўнікі, ён вымушаны быў уцякаць з Рыма і па дарозе пакончыў самагубствам. Хрысціянская царква прыпісвае Нерону пакаранне смерцю апосталаў Пятра і Паўла, якіх яна далучыла да ліку сваіх святых.

### «Трэцяе пасланне Іаана»

[1] *Гай* — паводле біблейскага падання, вучань Іаана Багаслова, якому апостал адрасаваў сваё трэцяе пасланне. Ён знаходзіўся пад асаблівай апекай апостала ў час яго жыцця ў Эфесе.

[2] *Дзіатрэф* — нейкая ўплывовая асоба, якая не паважала ні апостальскай улады, ні абавязкаў хрысціянскага браталюбства і гасціннасці. Яго апостал Іаан, па сцверджанню Бібліі, збіраўся выкрыць перад веруючымі ў час свайго прыезду.

[3] *Дзімітрый* — невядомая асоба, пра якога досыць пахвальна адзываецца апостал Іаан за яго саўдзел у справе ўмацавання хрысціянства.

### «Пасланне Іуды»

[1] *Іуда* — апостал, якога інакш называлі Фадзеем або Левіем, паводле біблейскай легенды, даводзіўся братам іерусалімскаму епіскапу Сімяону. У адрозненне ад Іуды Іскарыёцкага быў прапаведнікам спачатку ў Палес-

ціне, потым прапаведаваў у Аравіі, Сірыі і Месапатаміі, нарэшце, у Персіі і Арменіі. Памёр, па адных сцверджаннях, у Эдэсе (Грэцыя), паводле іншых — у Арменіі, дзе быў павешаны на дрэве.

## «Пасланне апостала Паўла да рымлян»

[1] *Карынф* — буйны гандлёва-рамесны поліс (горад-дзяржава) Старажытнай Грэцыі, заснаваны ў IX ст. да н. э., славіўся ткацтвам, керамікай, суднабудаўніцтвам, выступаў галоўным канкурэнтам Афін. З'яўляўся метраполіяй рада заснаваных ім калоній. У 338 г. да н. э. пасля перамогі Македоніі над Грэцыяй у бітве пры Херанеі Карынф трапіў пад уладу Македоніі. Пасля ўтварэння на тэрыторыі Грэцыі рымскай правінцыі Ахайі (27 г. да н. э.) адбудаваны Карынф стаў рэзідэнцыяй рымскага кіраўніка. У часы Рымскай імперыі горад іграў значную ролю ў гандлі з Усходам. У 395 г. быў разбураны каралём вестготаў Аларыхам.

[2] *Эліны* — так самі сябе называлі грэкі ў адрозненне ад іншых народаў, якія вядомы былі ў іх пад імем варвараў.

[3] *Пампей Гней па прозвішчу Вялікі* (106—48 гг. да н. э.) — рымскі палкаводзец і палітычны дзеяч перыяду грамадзянскіх войн, у выніку якіх была знішчана рэспубліка і ўстаноўлена дыктатура рабаўладальнікаў. Быў чалавекам палітычна няўстойлівым і беспрынцыповым. Будучы буйным землеўладальнікам і рабаўладальнікам, Гней Пампей вылучыўся ў барацьбе ў 80-я гады да н. э., калі далучыўся да Сулы і абараняў устаноўлены ім рэжым, пазней удзельнічаў у падаўленні паўстання Спартака. У 67 г. да н. э. атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы на тры гады для барацьбы з піратамі ў Міжземным моры. Камандаваў рымскім войскам у вайне з Мітрыдатам VI Еўпатарам і перамог апошняга ў 65 г. Адмова сената зацвердзіць мерапрыемствы Пампея на Усходзе і надзяліць яго салдат зямлёй прывяла яго ў 60 г. да н. э. да саюзу з Красам і Цэзарам, якія стварылі ў Рыме першы трыумвірат. Пасля яго распаду ў 53 г. быў абраны (у 52 г.) консулам. У 50 г. Пампею было даручана камандаванне войскам для барацьбы супраць Цэзара, якога ён перамог у 48 г. Пасля паражэння ў тым жа годзе ён уцёк у Егіпет, дзе і быў забіты.

## «Першае пасланне апостала Паўла да карынфян»

[1] *Ахайя* — назва прыморскай вобласці на поўначы Пелапанеса ў Грэцыі, якая адыгрывала прыкметную ролю ў палітычным жыцці старажытных грэчаскіх гарадоў-дзяржаў, якія стварылі Ахайскі саюз. Ахайя ўзначальвала гэты саюз у час апошняга паўстання грэкаў супраць рымлян. Рымляне, захапіўшы Карынф, разбурылі ў 146 г. да н. э. Ахайскі саюз і ператварылі Ахайю ў сваю правінцыю, якая кіравалася праконсуламі.

[2] *Апалос* — вучоны і красамоўны яўрэй, родам з Александрыі, які, паводле біблейскай легенды, іграў досыць відную ролю ў гісторыі дзейнасці апостала Паўла. Выступаў у Эфесе, Карынфе, Ахайі, на Крыце. Ён увёў александрыйскую філасофію ў апостальскае хрысціянства. У Карынфе яго імем называлася адна рэлігійная плынь, што пагарджала Паўлавай прастатой і ў гэтых адносінах разыходзілася з Апалосам, які быў у самых лепшых адносінах з Паўлам. Лютар і пазнейшыя даследчыкі Бібліі прытрымліваліся меркавання, што Апалос быў аўтарам паслання да яўрэяў, якое хрысціянская царква прыпісвае апосталу Паўлу.

[3] *Цімафей* — паводле біблейскага падання, вучань, спадарожнік, руплівы супрацоўнік апостала Паўла, першы епіскап у Эфесе. Паходзіў з малаазіяцкай сям'і, у якой бацька быў грэкам, а маці яўрэйкай, прыняўшай хрысціянства. Да хрысціянства Цімафей быў далучаны Паўлам, які і абраў яго прапаведнікам Евангелля. Сумесна з Паўлам ён прайшоў Фрыгію, Мезію, Македонію, пабываў у Афінах, Карынфе, Фесалоніі, Сірыі і Палесціне, дзе перадаваў грашовую дапамогу мясцовым хрысціянам. У Эфесе на тэрыторыі Малой Азіі апостал Павел пасвяціў яго ў епіскапы мясцовай царквы. Адданы свайму настаўніку, Цімафей быў разам з ім і ў Рыме, дзе ў часы

панавання Даміцыяна ў 80-я гады н. э. прыняў пакутніцкую смерць ад насельніцтва, якое пабіла яго палкамі, а потым закідала камянямі. Хрысціянская царква далучыла яго да ліку сваіх святых.

### «Другое пасланне апостала Паўла да карынфян»

[1] *Ціт* — паводле біблейскага падання, грэк, які паходзіў з Антыёхіі сірыйскай. Апостал Павел часта пасылаў яго са сваімі даручэннямі ў розныя месцы. Далучаны ў Антыёхіі да хрысціянства, Ціт у час трэцяга падарожжа апостала Паўла быў накіраваны з Эфеса ў Карынф рабіць збор падаяння ў карысць бедных палесцінскіх хрысціян. На востраве Крыт Павел пакінуў яго епіскапам. Па сцверджанню блажэннага Ераніма, Ціт служыў Паўлу перакладчыкам з яўрэйскай і сірыйскай моў на грэчаскую. Памёр на Крыце ва ўзросце 94 г. у часы панавання рымскага імператара Траяна.

### «Пасланне апостала Паўла да галатаў»

[1] *Галаты* — ваяўнічае племя гальскага або кельцкага паходжання, вандруючы па розных землях у III ст. да н. э., уварвалася ў Фракію, адтуль у Малую Азію, дзе пасля шматлікіх крывапралітных бітваў адваявала сабе невялікую вобласць у Фрыгіі і на яе тэрыторыі утварыла сваю дзяржаву — Галацыю. Стаўшы аселымі і змяшаўшыся з грэкамі, галаты сталі засвойваць грэчаскую адукаванасць, культуру, мову, наследаваць рэлігію і звычаі азіяцкіх грэкаў. У 188 г. да н. э. Галацыя была заваявана рымлянамі, якую ў 26 г. н. э. ператварылі ў рымскую правінцыю. За дапамогу, аказаную галатамі імператару Пампею Гнею ў яго вайне супраць панційскага цара Мітрыдата, Пампей узвёў іх тэтрарха (г. зн. суддзю і военачальніка) у ранг галацкага цара.

[2] *Дамаск* — адзін са старажытных гарадоў Блізкага Усходу, цяпер сталіца Сірыі. Першыя звесткі пра яго адносяцца да XVI ст. да н. э., калі ён знаходзіўся пад уладай егіпецкіх фараонаў. Размешчаны на скрыжаванні караванных шляхоў, горад у X ст. да н. э. стаў цэнтрам Дамаскага царства. З 732 г. да н. э. знаходзіўся пад уладай Асірыі, з 604 г.— пад уладай Новававілонскага царства, з 538 г.— Персіі, а з 332 г. да н. э.— пад уладай дзяржавы Аляксандра Македонскага. У III ст. да н. э. і на працягу I ст. н. э. за яго змагаліся пераемнікі Аляксандра Македонскага. У 64 г. н. э. быў захоплены рымлянамі і ўвайшоў у склад Сірыйскай правінцыі. З V да VII ст. з'яўляўся фарпостам Візантыі на Блізкім Усходзе.

### «Пасланне апостала Паўла да эфесцаў»

[1] *Эфес* — старажытны грэчаскі горад на заходнім беразе Малой Азіі (зараз тэрыторыя Турцыі), заснаваны ў XII ст. да н. э. Дзякуючы свайму зручнаму геаграфічнаму размяшчэнню, ён хутка вырас у буйны гандлёва-рамесны і грамадска-культурны цэнтр. У 560—546 гг. да н. э. горад быў падпарадкаваны цару Лідзіі Крэзу, пасля заваяваны персамі. У V ст. да н. э. горад уступіў у першы афінскі марскі саюз, што суправаджалася падзеннем ў Эфесе тыраніі і ўстанаўленнем рабаўладальніцкай дэмакратыі. У 335 г. ён быў падпарадкаваны Македоніі, а са 189 г. да н. э. знаходзіўся ў складзе Пергамскага царства. З пераходам у 133 г. да н. э. Пергама пад уладу Рыма Эфес стаў адным з галоўных гарадоў правінцыі Азія. На працягу першых двух стагоддзяў н. э. у ім вялося вялікае будаўніцтва, якое ператварыла яго ў адзін з прыгажэйшых гарадоў усходняй часткі Рымскай імперыі. У часы сярэднявякоўя Эфес згубіў сваё былое значэнне і ад старажытнага горада захаваліся толькі руіны.

[2] *Артэміда* — адна з галоўных багінь старажытнай Грэцыі, якой у рымлян адпавядала Дыяна. Паводле міфалогіі, яна была дачкой Зеўса (Юпітэра) і Латоны, сястрой-блізнём Апалона. З яе імем звязаны шматлікія міфы Грэцыі. Першапачаткова выступала як багіня ўрадлівасці, багіня лясоў, апякунша жывёлы і палявання, пазней — апякуншай жаночай цноты, абарон-

цай цяжарных і парадзіх. Шанаванне яе перайшло да грэкаў з Малой Азіі, дзе ў Эфесе ў яе гонар існаваў храм, спалены ў 356 г. да н. э. Герастратам у дзень нараджэння Аляксандра Македонскага.

[3] *Срэбранік* — сярэбраная манета. Сваю назву атрымала ад 70 біблейскіх перакладчыкаў, якія гэтым тэрмінам перакладалі старажытную яўрэйскую манету сікль, якая адпавядала 4 драхмам. Апошняя важыла 4,366 аптэкарскіх грамаў. Так называлася таксама першая сярэбраная манета на Русі.

[4] *Мілет* — старажытнагрэчаскі горад на ўзбярэжжы Эгейскага мора. Заснаваны грэкамі ў XI або X ст. да н. э. Мілет быў адным з квітнеючых гарадоў старажытнасці, буйным цэнтрам грамадскага і культурнага жыцця, марскога гандлю. У перыяд грэчаскай каланізацыі VIII—VI стст. да н. э. Мілет заснаваў шматлікія калоніі на берагах Дарданелаў, чарнаморскім і эгейскім узбярэжжах, у Сіцыліі і Егіпце. У 500 г. да н. э. быў захоплены і разбураны персамі, а ў 334 г. да н. э.— Аляксандрам Македонскім, пасля разбурэнняў якога Мілет заняпаў. У 129 г. да н. э. горад апынуўся пад уладай Рыма. Паводле біблейскага падання, тут на шляху з Грэцыі ў Іерусалім спыняўся апостал Павел.

## «Пасланне апостала Паўла да філіпійцаў»

[1] *Філіпы* — старажытны горад Македоніі на граніцы з Фракіяй. Першапачаткова гэта грэчаская калонія, багатая залатаноснымі руднікамі, называлася Крынідамі. У 358 г. да н. э. яна была захоплена македонскім царом Філіпам II, бацькам Аляксандра Македонскага, і была названа яго імем. Філіп II адбудаваў і ўмацаваў гэты горад. Актавіян Аўгуст даў гораду рымскае права. Паводле біблейскай легенды, тут апостал Павел заснаваў славутую ў старажытнасці хрысціянскую царкву. У Філіпах ён быў зняволены і далучаў мясцовае насельніцтва да хрысціянства.

[2] *Калонія* — месцазнаходжанне гэтага горада і яго гісторыя дакладна невядомы.

[3] *Сіла* — паводле біблейскага падання, адзін з 70 апосталаў. Ён быў спадарожнікам апостала Паўла, з якім пабываў у Сірыі і Кілікіі, пасля прапаведаваў у Фрыгіі, Галацыі і іншых месцах і гарадах Малой Азіі. Адкуль быў закліканы ў Македонію, дзе ў Філіпах трапіў у турму. Пасля вызвалення прапаведаваў у Фесалоніках, а потым у Карынфе, дзе, відаць, стаў епіскапам мясцовай царквы і там жа памёр.

[4] *Лідзія* — паводле біблейскага падання, адна з багацейшых і набожных жанчын з Фіяціра, македонскай калоніі ў малаазіяцкай правінцыі Лідзіі, якая жыла ў Філіпах і была жонкай начальніка турмы, дзе пакутаваў зняволены апостал Павел. Яна прыняла ад апостала Паўла хрышчэнне.

Пад яе ўплывам муж таксама стаў хрысціянінам і вызваліў апостала Паўла з турмы.

[5] *Епафрадзіт* — паводле Біблii, адзін з 70 апосталаў, спадарожнік апостала Паўла, які называў яго сваім братам і супрацоўнікам.

[6] *Селун* — так у часы Скарыны балгары і сербы называлі грэчаскі горад Салонікі, што размешчан на беразе Эгейскага мора. Салонікі былі адміністрацыйным цэнтрам і галоўнай гаванню Македоніі. У старажытныя часы і сярэдневякоўі называўся Фесалонікамі. У перыяд рымскага панавання (са 148 г. да н. э.) быў важнай крэпасцю і гандлёвым цэнтрам на шляху з Рыма ў Візантыю. Неаднаразова падвяргаўся спусташальным нападам готаў, гуннаў і іншых вадроўных плямён. У VIII—VII стст. быў каланізаваны славянамі, потым захоплены арабамі, пазней — крыжаносцамі, а ў 1430 г. — туркамі. Селун — радзіма славянскіх першаасветнікаў Кірылы і Мяфодзія.

## «Пасланне апостала Паўла да каласаеў»

[1] *Каласаі* — жыхары горада Кала́сы, размешчанага ў заходняй частцы Фрыгіі на тэрыторыі сучаснай Турцыі. Па сцверджанню Герадота, быў вялікім людным горадам, але ў часы панавання рымлян згубіў сваю былую славу. У 64 г. разам з іншымі гарадамі быў разбураны землетрасеннем.

[2] *Леадзікія* — былы галоўны горад Фрыгіі на яе паўднёвым захадзе, непадалёку ад горада Каласы. Сваю назву атрымаў ад імені жонкі Антыёха Леадзікі. Багатая зямля і авечкагадоўля зрабілі гэты горад квітнеючым гандлёвым цэнтрам. Разбураны ў часы вайны Мітрыдата, а потым землетрасеннем, ён хутка аднавіўся і захаваў ролю значнага гандлёвага цэнтра ў Малой Азіі. Леадзікійская царква была адной з сямі славутых малаазіяцкіх цэркваў, пра якія гаворыцца ў «Апакаліпсісе». У царкоўнай гісторыі Леадзікія вядома па быўшаму тут каля 365 г. сабору, які прыняў досыць падрабязныя правілы адносна парадку царкоўнага богаслужэння таго часу, маральных паводзін кліру і міран.

[3] *Епафрас* — паводле біблейскага падання, адзін з 70 апосталаў, спадарожнік апостала Паўла, прапаведнік. Нарадзіўся ў Каласах, дзе быў першым епіскапам. Наведаў апостала Паўла ў Рыме ў час яго зняволення і разам з ім цярпеў там пакуты.

[4] *Архіп* — адзін з 70 апосталаў, супрацоўнік апостала Паўла. Быў епіскапам, па адных звестках у Леадзікіі Фрыгійскай, па другіх — у Каласах пасля смерці Епафраса. Паводле Бібліі, памёр у Каласах у часы панавання імператара Нерона.

**«Першае пасланне апостала Паўла да селунян»**

[1] *Афіны* — старажытная сталіца Атыкі, галоўны цэнтр грэчаскай цывілізацыі. Паводле падання, горад быў заснаваны Кекронасам у XV ст. да н. э., легендарным заснавальнікам яго магутнасці лічыцца Тэзей — адзін са славутых герояў міфалагічнага перыяду антычнай Грэцыі. Назву горад атрымаў ад імя багіні Афіны (Мінервы). У архаічную эпоху горадам кіравалі басілеўсы (цары), потым архонты, з канца VI ст. да н. э. усталявалася рабаўладальніцкая дэмакратыя. Найбольшага росквіту Афіны дасягнулі ў так званы залаты век Перыкла (V ст. да н. э.). У канцы IV ст. да н. э. апынуліся пад уладай Македоніі, у I ст. да н. э. захоплены рымлянамі. Багатая культурная спадчына Старажытнай Грэцыі і яе сталіцы Афін паслужыла асновай еўрапейскай культуры. Глыбокія язычніцкія традыцыі, высокі ўзровень навукі і адукаванасці ў Афінах не спрыялі хуткаму распаўсюджанню хрысціянства сярод гараджан, таму прапаведніцкая дзейнасць сярод афінян першых прапагандыстаў новай веры, у тым ліку апостала Паўла, асаблівага поспеху не мела.

**«Другое пасланне апостала Паўла да Цімафея»**

[1] *Анісіфор* — паводле біблейскага падання, адзін з 70 малодшых апосталаў, якія прынялі хрысціянства ад вярхоўнага апостала Паўла, быў родам з Эфеса. Служыў епіскапам у Калафоне, што непадалёку ад Эфеса, і ў Кесарыі, але невядома якой — Філіпавай, Палесцінскай, ці Кападакійскай. Калі даведаўся, што апостал Павел знаходзіцца ў Рыме, ён паехаў туды, адшукаў яго ў турме, куды Павел трапіў па загаду Нерона, падтрымліваў і суцяшаў яго. Анісіфор трагічна загінуў у горадзе Парыіі на беразе Гелеспонта (Дарданелаў), куды ён накіраваўся са сваім рабом для пропаведзі і распаўсюджання хрысціянства. Там за адказ ускурыць фіміям перад ідаламі яго спачатку высцебалі розгамі, а потым прывязалі да конскага хваста і цягалі па зямлі да таго часу, пакуль ён не памёр.

**«Пасланне апостала Паўла да Ціта»**

[1] *Крыт* — востраў Міжземнага мора паміж Еўропай, Азіяй і Афрыкай. Старажытная гісторыя Крыта поўна казачных паданняў пра Мінаса Крыцкага, пра Лабірынт, Мінатаўра і інш. З утварэннем на яго тэрыторыі грэчаскіх калоній на востраве ўзніклі гарады-рэспублікі. У 68 г. да н. э. гэты востраў заваявалі рымляне. Калі на Крыце прынята хрысціянства, невядома. Відаць, першым епіскапам на востраве быў Ціт, які, паводле Бібліі, пра-

жыў 94 гады. Пасланне апостала Паўла да Ціта, верагодна, было напісана ў 64 г. перад другім зняволеннем апостала ў Рыме.

[2] *Нікапаль* — з такой назвай існавала шмат гарадоў, заснаваных рымлянамі ў Малой Азіі і Еўропе, а таму канкрэтна сказаць пра які Нікапаль вядзецца ў пасланні гаворка, цяжка. Верагодна, што ў дадзеным выпадку меўся на ўвазе Нікапаль Эпірскі, які размяшчаўся на ўзбярэжжы Іанічнага мора.

[3] *Арцём* — адзін з 70 меншых апосталаў, супрацоўнік апостала Паўла, епіскап у Лістры.

[4] *Ціхік* — супрацоўнік і спадарожнік апостала Паўла, якога ён суправаджаў у падарожжы з Македоніі і Грэцыі ў Іерусалім, быў з ім у Рыме ў час першага зняволення Паўла, пасылаўся апосталам у Эфес, Каласы і на Крыт. Ціхік, паводле хрысціянскага падання, быў епіскапам у адным з гарадоў Малой Азіі.

## «Пасланне апостала Паўла да Філімона»

[1] *Анісім* — фрыгіец, родам з горада Каласы, раб нейкага пана Філімона, які ўцёк ад свайго гаспадара і ў Рыме быў далучаны да хрысціянства апосталам Паўлам. Па хадайніцтву апошняга ён атрымаў ад Філімона свабоду і, вярнуўшыся да апостала ў Рым, выконваў розныя яго даручэнні. Паводле біблейскага падання, Анісім стаў пераемнікам Цімафея на епіскапскай кафедры ў Эфесе, а ў 109 г. быў пабіты камянямі у Рыме і прыняў пакутніцкую смерць у часы панавання імператара Траяна.

[2] *Філімон* — адзін з ганаровых грамадзян горада Каласы ў Фрыгіі, у доме якога знаходзілі сабе прытулак хрысціянскія пілігрымы, быў руплівым супрацоўнікам апостала Паўла ў справе распаўсюджання хрысціянства.

## «Пасланне апостала Паўла да яўрэяў»

[1] *Мелхіседак* — легендарны цар праўды і міру ў палесцінскім Саліме, герой апакрыфічных твораў, вядомых і ў старажытнарускай пісьменнасці. Апокрыфы не падаюць яго радаслоўнай. Гэта тлумачыцца заступніцтвам бога за Мелхіседака ў той момант, калі бог парушыў намеры бацькі героя прынесці яго разам з братам у ахвяру і замест здзяйснення гэтага акта учыніў землетрасенне, у якім загінулі родныя Мелхіседака, а ён сам застаўся жывым, але бязродным.

## Пасляслоўе да Апостала

[1] *Жыгімонт Казіміравіч* (1467—1548) — унук польскага караля Ягайлы, спачатку быў вялікім князем Вялікага княства Літоўскага, а з 1506 г. адначасова стаў і каралём польскім. У гісторыі вядомы пад імем Сігізмунд (Зыгмунт) I Стары. Мянушку Стары атрымаў за тое, што яшчэ пры сваім жыцці дамогся каранавання ў пераемнікі свайго 10-гадовага сына Жыгімонта II Аўгуста. У часы яго кіравання беларуская, літоўская і ўкраінская шляхта дамаглася для сябе роўных палітычных правоў з магнатамі, выбарнасці дэпутатаў у сейм і ўвядзення ў дзяржаве адзінага юрыдычнага кодэкса законаў для феадалаў — Статута Вялікага княства Літоўскага (1529 г.). Існуе меркаванне, што ў 1509 г. Францыск Скарына быў ужо добра вядомы гэтаму каралю, а таму ён і ўключыў яго ў склад дыпламатычнага пасольства ў Данію для заключэння дагавору аб дружбе з дацкім каралём. У 1532 г. выдаў Скарыну прывілейныя граматы, у якіх браў яго пад сваю абарону і вызваляў ад розных павіннасцей і ўлад.

[2] *Бабіч Якуб* (? — каля 1526) — адзін з віднейшых віленскіх прыхільнікаў культурна-асветніцкай дзейнасці Францыска Скарыны, «найстаршы бурмістр» (г. зн. старшыня гарадскога магістрата Вільні), у доме якога на віленскім рынку ў 1522 г. Францыск Скарына выдаў у заснаванай ім пасля прыезду на месцажыхарства з чэшскай Прагі першай мясцовай друкарні «Малую падарожную кніжку», а ў сакавіку 1525 г. яшчэ і Апостал, пасля выхаду якога спынілася далейшая выдавецкая дзейнасць Скарыны.

## СЛОЎНІК ДА ТВОРАЎ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

*Абие* — зноў, адразу
*Агнец* — ягня
*Аз* — я
*Аллилуйа* — малітоўнае ўсхваленне. У перакладзе з яўрэйскай мовы азначае: хвала богу, прыходзь бог, хваліце і ў песнях услаўляйце жывога бога
*Алчущий* — згаладнелы
*Аминь* — так ёсць; сапраўды; канец
*Апокалипсис* — адкрыццё (таямніцы)
*Ачкольвек* — хоць; нягледзячы на тое, што
*Аще* — калі

*Беаше* — быў, бываў
*Безна* — бездань, прадонне
*Безчинный* — бяздзейсны, лайдак
*Беша* — было, быў
*Благовествование* — добрая вестка, паведамленне добрай весткі
*Благодать* — ласка боская, божы дар, спрыяльнасць, літасць, хараство
*Благоизволити* — зрабіць ласку, праявіць добрую волю
*Блаженный* — чалавек, які заслугоўвае пашаны, ухвалення
*Блажити* — услаўляць, ухваляць, праслаўляць
*Брань* — вайна, бітва, варожасць, спрэчка, бой
*Брашна* — мучная страва, духоўная ежа
*Брести* — брысці, ісці, пераходзіць брод

*Ведый* — той, які ведае
*Ведяше* — ведаючы
*Веле* — шмат, многа
*Веляй* — праяўляй волю, загадвай
*Вемы* — ведаем
*Весполе* — сумесна, разам
*Вземля* — беручы, прымаючы
*Видение* — прывід
*Видяй* — бачачы
*Висекст* — высакосны год
*Вкупе* — разам, сумесна, супольна
*Властеле* — уладары
*Вметати* — укінуць
*Вмучение* — замардаванне, пакута
*Внегда* — калі
*Внити (внисти)* — увайсці
*Вниитие* — уваход
*В ню* — у яе
*Вовергати* — укінуць
*Водхненое* — натхнёнае
*Возалкатися* — прагаладацца, выгаладацца
*Возбраняти* — забараняць
*Возглаголати* — ускрыкнуць, загаварыць
*Воздати* — вярнуць назад, аддаць
*Воздаяние* — узнагарода, адплата
*Воздвиже* — паставіў, пабудаваў
*Возжадатися* — захацець, пажадаць
*Возри* — глянь, зірні
*Возъявление* — адкрыццё, выяўленне
*Вои* — воіны, салдаты
*Воскрилие* — крысо
*Волстви* — вешчуны, чарадзеі
*Воплощение* — увасабленне
*Вопрошаху* — запытвалі
*Восемнадесеть* — васемнаццаць
*Воступление* — узыход
*Всеблажение* — агульная пахвала
*Всеблаженный* — усяхвальны
*Вселенский* — сусветны
*Вселитися* — пасяліцца
*Выбавити* — пазбавіць, апраўдаць
*Выбити* — надрукаваць
*Вызволеные науки* — свабодныя навукі
*Выклад* — пераклад
*Выкладается* — перакладаецца
*Выложити* — выкласці, перакласці
*Выобразовать* — ператвараць
*Высловлены* — выказаны, вымаўлены
*Высловити* — выказаць
*Выстерегатися* — засцерагацца
*Вытиснути* — надрукаваць
*Вычетати* — вылічваць
*Выштие* — выхад
*Вшествие (вшестие)* — узыход

*Генезеос* — паходжанне, роднасць, сваяцтва

*Генуарий* — студзень
*Геродеева* — Ірадава
*Гибель месяца* — зацьменне месяца
*Гибель солнца* — зацьменне сонца
*Главизна* — раздзел
*Глаголано* — сказана
*Глаголати* — гаварыць, казаць
*Глаголя* — кажучы, гаворачы
*Глад* — голад
*Гордети* — пагарджаць
*Горлица* — галубка
*Грядый по мне* — які прыдзе пасля мяне
*Гудьба* — гудзенне, гранне

*Дабы* — каб
*Дабыхом* — каб мы
*Двадесеть* — дваццаць
*Дванадесеть* — дванаццаць
*Девятьнадесеть* — девятнаццаць
*Дерзнути* — адважыцца, асмеліцца, рызыкаваць
*Десница* — правая рука, правіца
*Деяше* — дзейны, які дзейнічае
*Делчий* — слушны, дзельны
*Дзвизатися во уме* — вар'яцець, сыходзіць з розуму
*Днесь* — сёння, цяпер
*Добровонный* — пахучы
*Добронравное* — добрай натуры, прыемнае
*Добротливость* — мацунак, дыхтоўнасць
*Доводне* — пераканаўча
*Доконать* — завяршыць
*Дондеже* — пакуль што, калі, пакуль
*Доneле* — пакуль не
*Досадитель* — зласлівец; той, хто робіць прыкра, дапякае
*Досажение* — дапяканне
*Достойность* — вартасць, годнасць
*Доткнути* — закрануць
*Доткнутися* — дакрануцца
*Дроб* — мінута
*Душный* — духоўны, душэўны
*Дщание* — руплівасць
*Дщерь* — дачка

*Е* — тая
*Егда* — зрэдку, калі
*Еже* — тая, якая, якія
*Езца* — коннік
*Елико* — колькі, наколькі можна
*Еллини* — грэкі
*Епистола* — ліст, пасланне, пісьмо
*Ерей (иерей)* — поп, свяшчэннік
*Есмо* — мы ёсць
*Естество* — існасць, сутнасць, прырода, натура, істота
*Есь* — ты ёсць

*Жадный* — ніякі; ніводны
*Жадостивый* — той, хто просіць
*Жадность* — просьба
*Женяся* — гонячыся
*Живоначалный* — той, хто дае пачатак жыццю
*Живот* — жыццё
*Жиждущий* — створаны, заснаваны
*Житие* — жыццё, жыццяпіс

*Завержати* — давяраць, мець надзею, разлічваць
*За живота своего* — пры сваім жыцці
*Залецати* — раіць, рэкамендаваць
*Заматевшая* — састарэлая; самотная ад бяздзетнасці
*Замкнена* — змешчана, выкладзена
*Замыкать* — замыкаць, утрымліваць, змяшчаць
*Знае* — так як, бо, для таго
*Занеже* — таму што
*Заповедати* — даваць наказ
*Запрети* — замкнуць, зняволіць, змясціць
*Заставица* — застаўка
*Зачало* — пачатак
*Збытняя* — залішняя, празмерная
*Зерцало* — люстра
*Злонедушник* — цяжка хворы
*Злоречие* — брыдкаслоўе
*Злострастие* — цяжкая пакута
*Знаменовати* — сведчыць, выяўляць, азначаць
*Знаменует* — азначае
*Зовнутрений* — знешні
*Зродитися* — нарадзіцца
*Зуполне* — цалкам, поўнасцю

*И* — указальны займеннік м. р.
*Иеллини* — грэкі
*Иж (йже)* — што, бо, так як, таму што
*Извествовати* — паведамляць
*Изводити* — выводзіць, адстойваць
*Изволити* — мець ласку
*Изыде* — зышоў
*Имание* — прыманне, наследаванне
*Имати* — мець, браць, хапаць
*Имеаше* — мелася, было
*Ин* — іншы
*Инные* — іншыя
*Иноверок* — іншаверац
*Ирци* — скажы
*Исказати* — сапсаваць, сказіць, знявечыць
*Исперва* — спачатку
*Исповедатися* — прызнацца, сказаць, пакаяцца
*Исповедити* — паведаміць, прызнацца
*Исповем* — прызнаю
*Исполнися* — напоўніўся

*Истый* — сапраўдны, шчыры, заўзяты
*Исход* — выхад
*Исцелити* — вылечыць
*Исчадие* — вырадак, вылюдак, параджэнне, пачвара

*Казень* — пакаранне смерцю
*Како* — як
*Каравый* — карны, які карае
*Кафізма* — раздзел
*Кир* — свяшчэннік
*Клеветати* — паклёпнічаць
*Ковач* — каваль
*Ковчег* — карабль, судна
*Козня* — падкоп
*Кои* — якія, каторыя
*Колено* — пакаленне
*Колико* — колькі
*Коль* — калі, як
*Кормчий* — стырнавы
*Краснейший* — святлейшы, прыгажэйшы
*Крать* — раз, разоў
*Крестеле* — драчы
*Крестити* — хрысціць
*Криво присяжец* — няшчыры, крывадушны, падступны
*Крижало* — крыло
*Кропитися* — пакрапляцца
*Кростлявый* — карослівы
*Кротость* — лагоднасць, пакорлівасць, рахманасць
*Кущи* — шатры, палаткі, буданы

*Лгарь* — манюка, ілгун
*Лекарский* — медыцынскі
*Лекарь* — доктар
*Лето* — год
*Лето переступное* — год высакосны
*Лихоимство* — ліхвярства, хабарніцтва
*Ложе* — ложа, пасцель
*Любодейца* — распуснік
*Любодеяние* — распуста
*Лютовати* — літаваць, шкадаваць

*Медяны* — медны
*Менитися* — называцца
*Меновати* — называць імем
*Меншица* — меншая дачка
*Мерица* — мерка
*Мерность* — умеранасць
*Место* — горад
*Местский* — гарадскі
*Метати* — кідаць
*Мечтание* — мара, летуценне
*Мзда* — узнагарода, хабар
*Милосердие* — літасцівасць
*Милосердный* — літасцівы
*Милость* — літасць, ласка
*Минущий* — мінучы, мінулы

*Младенец* — юнак, падлетак
*Можность* — мажлівасць, магчымасць
*Можный* — магутны, багаты, уплывовы
*Молва* — пагалоска, чутка, слава
*Молвение* — казанне, пагалоска
*Мученик* — пакутнік
*Мя* — мяне

*Навратитися* — вярнуцца
*Навращение* — вяртанне назад
*Нагле* — раптам, раптоўна
*Надармо* — дарэмна
*Надежа* — надзея, спадзяванне
*Наказатель* — карнік
*На нь* — на яго
*На ню* — на яе
*Наперсник* — любімец
*Напис* — подпіс
*Напоследы* — нарэшце
*Напотом* — потым, пасля
*Напрод* — спачатку
*Нарече* — назаве
*Нареченый* — названы, празваны
*Нарицатися* — называецца
*Нарочитый* — наўмысны
*На сесь час* — на гэты час
*На тя* — на цябе
*Небезпеченство* — небяспека
*Не весте* — не ведаеце
*Невчити* — не шанаваць
*Невымовный* — не выказны
*Негдысь* — некалі, калісь
*Недоумевати* — здзіўляцца, не разумець
*Нежели* — чым, як
*Незлобие* — незласлівасць
*Неизреченный* — нявыказаны, невымоўны
*Неисповедимый* — нязведаны, нявызначаны, неспазнаны
*Неистовство* — шаленства, лютасць, раз'юшанасць
*Некои (нецыи)* — нейкія
*Нелютасць* — няміласць
*Немилостивый* — нялітасцівы, няласкавы
*Немоществовать* — недамагаць
*Неомыльно* — беспамылкова
*Непорушенная* — цнатлівая
*Непоскверненый* — неблагі, нябрыдкі; чысты
*Нерозумныи* — незразумелыя
*Несмертелный* — неўміручы
*Несть* — няма, не з'яўляецца
*Неуставичный* — бесперапынны
*Неучтивый* — непачцівы, няветлівы, недалікатны
*Нецыи* — некаторыя

*Обетованый* — абяцаны, запаветны
*Облечитися* — адзецца, прыбрацца
*Оброк* — чынш, падатак
*Обтяжить* — абцяжарыць
*Овен* — баран
*Одесная* — правая рука
*Одиннадесеть* — адзінаццаць
*Одр* — пасцель, ложа
*Околичный* — навакольны
*Октоврий* — кастрычнік
*Омылитися* — памыліцца
*Онагри* — дзікі асёл
*Оный* — той
*Опатреность* — вышэйшая (боская) ласка, наканаванасць, лёс, прадбачанне
*Оповедание* — паведамленне
*Ополчитися* — апалчыцца; раззлавацца
*Останочны* — апошні
*Осязати* — адчуваць
*Отверзти* — раскрыць
*Отжени* — вытры, дакраніся, адрынь, вызвалі, адгані
*Отженуть* — адганяць, адагнаць
*Отпрение* — адмаўленне, адпор
*Отпреться* — адмовіцца
*Отрок* — падлетак, хлапчук
*Отроковица* — дзяўчынка, дзяўчо
*Оттоле* — адтуль

*Пак* — зноў, ізноў, яшчэ потым
*Пакли* — калі зноў
*Пакибытие* — новае (будучае) жыццё, адраджэнне
*Палица* — палка, кій, булава
*Паралипоменон* — кароткі летапіс
*Панества* — нявіннасць, дзявоцтва
*Песаемый* — спяваны, спеўны
*Певница* — музыка
*Первоменованный* — раней згаданы, раней памянёны
*Переказа* — перашкода
*Препустити* — напусціць
*Перси* — грудзі
*Перст* — палец
*Пессий* — сабачы
*Плясовица* — танцоўшчыца
*Побитие* — забойства
*Поведити* — наведаць
*Поврещи* — кінуць
*Поганский* — язычніцкі
*Поганый* — язычнік
*Погордитися* — паганарыцца
*Погребати* — пахаваць
*Погубление* — знішчэнне, згуба
*Подбити* — заваяваць, падпарадкаваць
*Подле* — поруч, каля
*Подлуг* — паводле
*Поживление* — харчаванне
*Пожиток* — карысць
*Пожиточный* — карысны
*Покарм* — ежа
*Покой* — мір
*Покраса* — упрыгожанне, аздоба
*Покропити* — пакрапіць
*Покус* — спакуса, спакушэнне
*Полнящий* — выканальны, здзяйсняльны
*Полунощница* — усяночная
*Полунощный* — паўночны
*Полтрети* — два з паловай
*Полчварта* — тры з паловай
*Помышление* — задума, намер
*Понеже* — бо, таму што, наколькі, паколькі
*Понижение* — уніжэнне, знявага
*Пониженный* — прыніжаны
*Поняти (пояти)* — узяць, займець, захапіць
*Породити* — нарадзіць
*Поразумети* — зразумець
*Поскверненый* — апаганены, агідны
*Послуговати* — служыць
*Посполите* — звычайна, проста
*Посполитый* — звычайны, просты, распаўсюджаны
*Посполу* — разам, сумесна
*Пострадание* — пакута
*Потешение* — пацеха, забава
*Поток* — ручай
*Потомок* — нашчадак
*Похлебный* — ліслівы, дагодлівы, падлізлівы
*Похоть* — юр, пажадлівасць
*Почтиво* — з пашанай, і павагай
*Почтивость* — пашана, павага
*Почтивый* — паважаны, шаноўны, значны
*Почто* — чаго, чаму, нашто, навошта
*Пояти* — спяваць, пець, пяяць
*Праведный* — праведны, справядлівы
*Празник* — гультай, лайдак
*Прах* — пыл, марнасць
*Превечный* — спрадвечны
*Превозвестить* — абвясціць, сказаць
*Предати* — адрадзіць, выдаць
*Предел* — граніца, мяжа
*Прегойный* — шчодры
*Предмолва* — прадмова
*Предословие* — прадмова
*Предпоручати* — даручаць, перадаручаць
*Представитися* — памерці
*Предтеча* — папярэднік
*Преже* — раней, некалі, спярша
*Презвитер* — свяшчэннік, святар
*Презреша* — пагардліва
*Преизволение* — пажаданне
*Преисподний* — пякельны, страшэнны

*Прекословение* — пярэчанне
*Прелесть* — прывабнасць, спакуса
*Преложение* — пераклад
*Преложити* — перакласці, растлумачыць
*Преложитися* — перакінуцца
*Прельстити* — спакусіць, прывабіць, зачараваць
*Прелюбодеание* — блуд, распуста
*Пременение* — перамена
*Премолва* — паклёп
*Пренавченый* — надзвычай адукаваны
*Пренадостойнейшая* — найпаважаная, святая
*Преобразовать* — пераўтварыць, перабудаваць
*Препиратися* — спрачацца, пярэчыць
*Пререкание* — спрэчка, пярэчанне
*Пресвятейшая* — самая святая
*Пресельник* — перасяленец
*Престол* — трон, сталіца
*Преступник* — злачынец
*Пречистая* — надзвычай чыстая, святая
*Прехвалне* — хвалебна
*Прешый* — мінулы
*Пригожение* — прыгоднасць, прыдатнасць
*Приидущий* — той, які прыйдзе, будзе
*Приизволение* — пажаданне
*Прикраса* — аздоба, упрыгожанне, прыхарошванне
*Прилежати* — належаць
*Примолвы* — прыказкі
*Припелы* — вершы, прыпевы
*Приповесть* — прымаўка
*Приподобление* — прыпадабненне
*Приреченый* — прадвызначаны, абяцаны
*Присно* — заўсёды, заўжды
*Притча* — прытча, прыпавесць, алегорыя, здарэнне, байка
*Пришелствие* — прыход, прыбыццё
*Приштие* — прыход, прыбыццё
*Прозорнейший* — празарлівейшы
*Прозреный* — прасветлены, відушчы
*Прокажение* — захворванне на проказу, праказа
*Прорецати* — прарочыць, прадракаць, прадказваць
*Пророковати* — прадвызначаць, прадгадваць
*Проспети* — праспяваць
*Проспешно* — паспяхова
*Простерети* — працянуць, распасцерці
*Противество* — супраціўленне
*Противность* — супярэчлівасць
*Прото* — таму
*Прошние* — пераход, праход
*Прудкость* — хуткасць, імклівасць
*Прузи* — кабылкі, саранча; вяршыні дрэў або зелле
*Пря* — спрэчка
*Псалом* — царкоўная песня, псальм
*Пяток* — пятніца
*Пятьнадесеть* — пятнаццаць

*Рада* — парада
*Разверзати* — раскрыць, адчыніць
*Развращение* — разбэшчанасць
*Размоитый* — розны
*Разноличне* — разнастайна
*Разноличный* — розны
*Разрешитися* — нарадзіць
*Разрешися* — нарадзіла
*Ратай* — араты
*Ревнение* — стараннасць
*Рекомый* — сказаны, названы
*Ректи* — казаць, гаварыць
*Риза* — царкоўнае адзенне; шата
*Роптати* — наракаць, абурацца
*Росказати* — загадаць

*Сведомие* — свядомасць
*Святити* — пасвячаць
*Се* — гэта
*Сей* — гэты
*Семнадесеть* — семнаццаць
*Семо* — сюды
*Септеврий* — верасень
*Сесь* — гэта
*Сетовать* — наракаць, скардзіцца, шкадаваць, бедаваць
*Сии* — гэтыя
*Сице* — так
*Скажение* — знішчэнне, сапсаванне, спаленне
*Сказити* — знявечыць, зруйнаваць, знішчыць
*Сказуется* — называецца
*Скверна* — брыдота, агіда
*Скло* — шкло
*Сконан* — завершаны
*Скончевание* — паміранне, заканчэнне
*Скончевати* — заканчваць
*Скотоложник* — жывёлаложнік
*Словуть* — называюцца, лічацца, славяцца, вядомы
*Случение* — злучэнне, спарванне
*Снем* — збор, сход
*Совокупление* — злучка, спалучэнне
*Согледати* — аглядаць, выведваць, шпігаваць
*Соитие* — выходжанне
*Сокрушити* — зруйнаваць, знішчыць, разбурыць
*Сомирение* — прымірэнне
*Сонмище* — зборышча, мноства
*Сопсал* — спісаў

*Сопутник* — спадарожнік
*Соступити* — спусціцца
*Сочести* — злічыць
*Спекулятор* — кат
*Сполнение* — выкананне
*Спомогати* — дапамагаць
*Спොможение* — дапамога
*Справовати* — кіраваць
*Справца* — кіраўнік
*Спротивитися* — супрацівіцца
*Спытно* — выпрабавальна
*Стан* — стаянка, прыпынак
*Стень* — цень
*Стихеры (стихи)* — вершы
*Сродник* — сваяк
*Староница* — старонка
*Страсная неделя* — перадвелікодны тыдзень
*Страсти* — пакуты, жах
*Стремглав* — імгненна, стрымгалоў
*Строна* — бок
*Ступень* — крок
*Суета* — марнасць, нікчэмнасць, мітусня
*Суть* — ёсць, з'яўляюцца
*Суще* — сапраўды
*Сущий* — існы, сапраўдны

*Тать* — злодзей
*Татьба* — зладзейства, крадзеж
*Тварь* — стварэнне, жывёліна
*Теже* — таксама
*Телец* — цялё
*Телос* — канец
*Темьян* — чабор, духмянае зелле
*Ти* — цябе
*Тии* — тыя
*Тимении* — гразь, балота, ціна
*Тиснути* — друкаваць
*Токмо* — толькі
*Толіко* — столькі
*Точию* — толькі, як быццам
*Треба* — ахвяра, ахвярапрынашэнне
*Требница* — ахвярнік
*Тридесеть* — трыццаць
*Тринадесеть* — трынаццаць
*Трудоватый* — працавіты
*Тружание* — праца, работа
*Тщеглаголание* — пустаслоўе
*Тя* — цябе
*Тяжиться* — абцяжарвацца

*Убитие* — забойства
*Убо* — бо, таму што
*Уверити* — упэўніць, запэўніць, пераканаць
*Уделати* — стварыць, зрабіць
*Уднение* — паўсядзённасць
*Удругое* — паўторна
*Уды* — члены, часткі цела
*Ужасатися* — жахацца
*Уздравити* — вылечыць
*Уздравление* — выздараўленне
*Уздравленый* — вылечаны
*Украченный* — скарочаны
*Укротити* — утаймаваць, уціхамірыць
*Укрух* — кавалак хлеба, крошка
*Умедление* — замаруджванне, прамаруджанне
*Умилнейший* — больш замілаваны
*Умыслити* — задумаць
*Уничижение ран* — знішчэнне ран
*Усекновение* — адсячэнне
*Усекнути* — адсячы
*Усмирити* — утаймаваць, уціхамірыць
*Уста* — вусны
*Уставити* — паставіць, устанавіць
*Уставичне* — стала, пастаянна
*Устька* — вусце ракі, затока
*Утверждение* — сцверджанне
*Утроба* — вантробы, чэрава, улонне маці
*Учтивый* — сумленны, далікатны
*Ущедрити* — узбагаціць

*Фуниковый* — фінікавы

*Херувимы и серафимы* — розныя іерархіі анёлаў
*Хлябие* — патокі, вадапад, бяздонне

*Чааный* — чаканы, спадзяваны
*Чаремный* — чырвоны
*Чести* — чытаць
*Четверток* — чацвер
*Четырдесеть* — сорак
*Четыренадесеть* — чатырнаццаць
*Чин* — лад; шарэнга
*Чрево* — чэрава, жывот, улонне маці
*Чтити* — паважаць, шанаваць
*Чудитися* — здзіўляцца
*Чювствие* — пачуццё, адчуванне, прытомнасць

*Шестнадесеть* — шаснаццаць

*Щека* — сківаца

*Ю* — яе
*Юже* — якую, тую ж
*Юнчий* — юначы, юнацкі

*Явити* — паказаць
*Явлено* — паказана, сказана, адкрыта
*Ягадычина* — смакоўніца
*Яже* — які
*Язык* — мова; народ
*Яшеся* — узяўшыся

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЕН



## ПАКАЗАЛЬНІК ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ

# ЗМЕСТ

Научное издание

**ФРАНЦИСК СКОРИНА**

**Сочинения: Предисловия, сказания, послесловия, акафисты, пасхалия**

Минск. Издательство «Навука і тэхніка»

На белорусском языке

Навуковае выданне

**ФРАНЦЫСК СКАРЫНА**

**Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія**

Загадчык рэдакцыі У. М. Ківатыцкі
Рэдактар Н. М. Тарасевіч
Мастак Вікт. В. Саўчанка
Мастацкі рэдактар В. В. Саўчанка
Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак
Карэктар Л. А. Варабей

ІБ № 3447

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 11.04.89. Падпісана ў друк 13.12.89. АТ 13526. Фармат 60×90[1]/16. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 13,0. Ум. фарб.-адб. 21,5. Ул.-выд. арк. 15,91. Тыраж 4250 экз. Зак. № 873. Цана 2 р. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, вул. Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, вул. Жодзінская, 18.

